29 снежня 2017 | № 49 (563)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Прагнозы–2018: Ад хворага Пуціна да бліцкрыгу марсіянаў**

стар. 20

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Наступны нумар «Новага Часу» выйдзе ў новым годзе – у пятніцу, 19 студзеня. Заставайцеся з намі!**




**6** ЧАЛАВЕК, ЯКІ ПРЫМУСІЎ ПЛАКАЦЬ ЛУКАШЭНКУ

Яго страшэнна баяліся камуністычная наменклатура і Кебічаўскае чыноўніцтва

**7–18** Літаратурная Беларусь

**22–23** ЧАЛАВЕК. ЧАСТКА III. ЗАПАВЕТ

Куды рухаецца чалавецтва? Тое, што ўчора было навуковай фантастыкай, – заўтрашні дзень навукі



# Адолець усе цяжкасці і не зламацца

Аксана КОЛЬ

**Кожны раз перад Новым годам мы спрабуем падвесці вынікі ды хоць адным вокам зазірнуць у будучыню. З верай у лепшае і чаканнем цудаў.**

Не ведаю, як вы, а я дасюль не магу пазбавіцца ад таго дзіцячага трапяткога пачуцця дакранання да казкі, якая вось-вось пачнецца і зменіць да лепшага ўсё навокал. Як у дзяцінстве, чакаю цудаў ды новага жыцця пасля 31 снежня. І неяк незаўважна жыццё праходзіць. Год за годам ці то ў чаканні, ці то ў змаганні.

А між тым, цуд з намі штодня. Дакладней, кожны новы дзень — гэта цуд. Як і цуд кожны добры чалавек на нашым шляху. Ды і не добры — таксама цуд. Бо кожны наш дзень, кожная сустрэча, кожны наш крок — гэта падарунак Лёсу, Бога, Сусвету (хто ў што верыць).

Ад таго, як мы пражывём кожны наш дзень, што вытрымаем ці адчуем, кім прачнёмся ранкам наступнага дня, залежыць, якім будзе наш адбітак на гэтай зямлі. Светлым і выразным ці размытым і змрочным.

Таму азірніцеся, паглядзіце вакол, звярніце ўвагу на тых, хто побач. Развітайцеся назаўжды з усім горшым, што было ў гэтым годзе. Дазвольце сабе крыху памарыць. Скажыце дзякуй, за тое, што маеце і чаго пазбеглі.

А мы дзякуем вам, нашы шаноўныя чытачы, за вашу адданасць і падтрымку. За тое, што гэты год вы былі з намі і, спадзяемся, будзеце яшчэ не адзін год.

Мы жадаем вам здароўя і прагі жыцця, трываласці і перамен да лепшага. А яшчэ адолець усе цяжкасці і не зламацца, прайсці праз усе выпрабаванні і застацца вернымі сабе. Не згубіць аптымізм і знаходзіць радасць у кожным дні. Трымацца сваіх прынцыпаў і не збочыць са свайго шляху.

А дапаможа ў гэтым, калі верыць Усходняму гараскопу, Жоўты Земляны Сабака, год якога пачнецца 16 лютага.

Кажуць, што Жоўты Земляны Сабака — вельмі магутны знак, які нясе ў сабе энергетыку актыўнай і мэтанакіраванай жывёлы. Абяцаюць, што ў гэты год знойдзецца рашэнне для ўсіх праблем, якія зацягнуліся. Жоўты Сабака будзе актыўным, але абавязкова захавае дабрабыт. А паколькі сабака — жывёла адданая, год будзе спакойным. Стыхіяй жа надыходзячага 2018 года будзе зямля. Гэта мудрасць, зварот да каранёў і вытокаў, адданасць культурным традыцыям.

Можаце не верыць, але вырашэнне шматгадовых праблем, перамены, мудрасць і адданасць традыцыям не зашкодзяць!

***З Новым годам!***
***З Новым часам!***

# Праваабаронца прапанаваў ЦВК спыніць выбары і зэканоміць грошы

**Віцебскі праваабаронца Павел Левінаў прапанаваў Цэнтарвыбаркаму звярнуцца з просьбай да Аляксандра Лукашэнкі аб адмене выбараў у Віцебскі гарадскі Савет дэпутатаў 28-га склікання, бо «дэпутацкі корпус ужо вядомы выбарцам».**

Да звароту прыклаў спіс будучых пераможцаў па ўсіх акругах. І атрымаў адказ: адмена немагчымая…

### Спіс Левінава

У электронным звароце, накіраваным у Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, Павел Левінаў зазначыў, што «выбары» дэпутатаў Віцебскага гарадскога Савета дэпутатаў 27-га склікання можна лічыць здзейсненымі», бо «ад выбарцаў ужо нічога не залежыць», піша Віцебская вясна. Ніжэй праваабаронца падаў спіс з 40 асобаў, якія, як перакановае Левінаў, абавязкова патрапяць у гарсавет.

У спісе Левінава — выключна кандыдаты, якія на дадзены момант займаюць кіраўнічыя пасады ў дзяржаўных арганізацыях і на прадпрыемствах Віцебску.

У размове з «Віцебскай вясной» Павал Левінаў запэўніў, што гатовы даць хоць 120-працэнтную гарантыю, што ягоны спіс адзін у адзін супадзе з выніковым. Адкарэктаваць змест гэтага спісу, на яго думку, могуць хіба што іншасветныя сілы (напрыклад, смерць кандыдата).

### 4 гады таму прагноз ужо спраўджваўся

Павел Левінаў ужо мае досвед падобных прадказанняў. Падчас папярэдніх выбараў у гарсавет у 2014 годзе, за месяц да абвяшчэння вынікаў, ён даслаў у Цэнтрвыбаркам спіс будучых дэпутатаў з прапановай спыніць кампанію. Зразумела, што выбары не спынілі, але склады дэпутацкага корпусу паводле Левінава і паводле выбаркаму аказаліся ў выніку ідэнтычнымі.

Цяпер Левінаў узяўся прадказаць вынікі яшчэ раней — за два месяцы да фінішу выбарчай кампаніі.«Можаце напісаць пра мяне як пра тых жывёл, якія прадказваюць вынікі гульняў на футбольных чэмпіянатах», — жартуе ён.

### $4,5 тысячы на аднаго дэпутата

Нагадаем, што прапанову аб спыненні выбараў Левінаў абгрунтоўвае магчымасцю такім чынам «зэканоміць бюджэтныя (народныя) сродкі». Колькі ж канкрэтна грошай выдаткоўвае сёлета дзяржава на правядзенне мясцовых выбараў у Віцебску?

Паводле інфармацыі назіральніка кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Леаніда Свеціка, толькі на забеспячэнне працы Віцебскай гарадской камісіі выдаткоўваецца 23 тысячы 394 рублі. Акрамя таго, на працу кожнай участковай камісіі (а такіх у горадзе — 159) выдзяляецца, у залежнасці ад колькасці яе сябраў, ад 2 тысяч 195 да 2 тысяч 707 рублёў.

«Такім чынам, выбары 40 дэпутатаў гарсавету абыдуцца, як мінімум, у 350 тысяч рублёў», — падсумаваў Леанід Свецік.

Паводле ягоных падлікаў, абранне аднаго дэпутата будзе каштаваць прыкладна 9 тысяч рублёў (4,5 тысячы долараў) бюджэтных сродкаў.

### Цэнтрвыбаркам: адмена не прадугледжаная

Прапанова Паўла Левінава аб спыненні выбараў і ашчаджанні сродкаў, як і чатыры гады таму, не атрымала станоўчай рэакцыі ў Цэнтрвыбаркаме.

«Растлумачваем, што законам не прадугледжаная адмена выбараў, прызначаных у вызначаным парадку Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Адзначаем, што ініцыяваная Вамі працэдура не стасуецца з міжнароднымі стандартамі ў вобласці правядзення выбараў», — гаворыцца ў адказе з Цэнтрвыбаркаму, падпісаным старшынёй камісіі Лідзіяй Ярмошынай.

Нагадаем, што выбары мясцовых Саветаў дэпутатаў дваццаць восьмага склікання адбудуцца 18 лютага 2018 года.

**vitebskspring.org**

# Чаго чакаюць ад 2018 года вядомыя беларусы

Генадзь КЕСНЕР

**Надыходзіць новы, 2018 год. Пра тое, што хацелася б змяніць у бліжэйшай будучыні і чаго пажадаць суайчыннікам, «Новаму Часу» распавялі вядомыя ў нашай краіне людзі.**

**Алесь Бяляцкі, старшыня зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтру «Вясна»:**

— У мяне ёсць пажаданне ўсім беларусам у наступным годзе больш рашуча адстойваць свае правы. Не маўчаць, не сядзець на кухнях, бо ўсе гэтыя перашэптванні на кухнях і рабочых распранальных нічога не даюць. Толькі мы самі можам пашырыць сваё поле свабоды, улады за нас гэта не зробяць.

2018 год будзе складаны. Ніякай айцішнай ракі з кісельнымі берагамі нас у бліжэйшы час не чакае. Усе прамашкі і памылкі ўлады кладуцца на плечы простых людзей, і ў наступным годзе мы будзем адказваць за памылкі тых, хто выбудаваў памылковую стратэгію развіцця Беларусі, бо ўзровень заробкаў, сацыяльнай абароненасці паказвае, што мы знаходзімся на адным з апошніх месцаў у Еўропе. Гэта ёсць вынікам кіраўніцтва Рыгоравіча і ўсёй ягонай каманды. Таму трэба супрацiўляцца перакладанню гэтых эканамічных цяжкасцяў на плечы людзей. Улады павінны за гэта адказваць.

Я віншую ўсіх са святамі, бо менавіта сям'я ў такіх сітуацыях становіцца апірышчам для кожнага беларуса. Таму жадаю ўсім, каб добра было ў сям'і.

**Рыгор Кастусёў, старшыня Партыі БНФ:**

— Чаканні і спадзяванні на наступны год ужо не новыя, пастаянныя, бо пераменаў у Беларусі — ні эканамічных, ні палітычных — не адбываецца. Але чаканні толькі ўзрастаюць, і спадзяюся, што 2018 год прынясе ў Беларусь ўсё ж перамены, якіх мы чакаем не адзін год. Гэта змены палітычнай сістэмы, якія пацягнуць за сабою і эканамічныя перамены. Хацелася б збліжэння Беларусі з Еўропай, бо кожны крок збліжэння з Еўразаюзам, з іншымі краінамі будзе азначаць, што Беларусь умацоўвае сваю незалежнасць і зніжае сваю залежнасць ад палітыкі Крамля.

**Павел Севярынец, сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

— Я чакаю, што шмат людзей далучацца да святкавання стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі, што беларусы, як і ўвесну 2017 года падымуцца дзеля таго, каб памяняць гэты рэжым. А беларусам я жадаю не баяцца. Біблія 365 разоў на сваіх старонках кажа: не бойцеся! Таму жадаю не баяцца і быць адважнымі. Спадзяюся, што 2018 год будзе лепшы за год 2017.

Што да майго патаемнага жадання: мы зараз з жонкаю чакаем хлопчыка, Францішка, якога ўжо назвалі ў гонар Францішка Скарыны. Я жадаю, каб нарадзіўся ён цудоўны, здаровенькі і жыў ужо ў новай Беларусі.

**Юрась Губарэвіч, кіраўнік Руху «За Свабоду»:**

— Наступны год наўрад ці будзе азнаменаваны важнымі палітычнымі падзеямі, верагодна, будзе працягвацца перыяд стагнацыі. Але ёсць чаканне пераменаў, таго, што ўлада нарэшце саспела да разумення, што трэба разнявольваць не толькі прыватную ініцыятыву і бізнес, але і рабіць больш вольнай палітычную атмасферу ў краіне. Бо інакш іх разлікі на прыход грошай ад замежных інвестараў і паляпшэнне сітуацыі з эканомікай наўрад ці спраўдзяцца. Таму што ў краіны з нестабільным заканадаўствам, дзе няма вольных і незалежных судоў, дзе парушаюцца асноўныя правы чалавека, не маюць прывабнасці для ўкладанняў. Таму ў мяне спадзяванні, што тыя крокі, якія робяцца ў дачыненні да IT-бізнеса, да прыватных прадпрымальнікаў, будуць мець лагічны працяг і выльюцца ў рэформы палітычнай сістэмы.

Беларусам я б пажадаў адчуць сябе нацыяй, людзьмі, якія нясуць адказнасць не толькі за сябе і за свае сем'і, але і за краіну, дзе яны жывуць, каб быў настрой на пабудову нармальнай краіны тут і зараз. Каб гэты настрой змяніў памкненні з'ехаць адсюль і ўладкавацца ў вольным свеце, бо цяпер існуе апатыя і няверʼе у тое, што ў нас можна нешта памяняць. Трэба адчуць сябе нацыяй і атрымаць настрой на будаўніцтва новае краіны.

**Аляксандр Ярашук, кіраўнік Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

— Я думаю, што ў нас усіх чаканне і жаданне адно, але, мяркую, што гэта наўрад ці будзе мець месца ў наступным годзе. Наша краіна цяжарная пераменамі ўжо даўно, але ўся бяда ў тым, што той, хто мусіць ажыццяўляць гэтую функцыю, каб гэтая цяжарнасць нармальна вырашылася і каб адбылося нешта кшталту дэмакратыі, упарта не жадае прызнаваць гэтую цяжарнасць і ўсе хоча гэтага доўгачаканага дзіцяці. Магчыма, у 2018 годзе нешта і адбудзецца, бо сітуацыя вельмі непрадказальная, гэта што тычыцца палітычнай сістэмы і што тычыцца стасункаў з нашым галоўным партнёрам. Папраўку на гэтую непрадказальнасць трэба рабіць.

Таму ўсім грамадзянам краіны я хацеў бы пажадаць, каб непрадказальнасць і ўсе чаканні мелі станоўчы характар. То бок, каб не было ніякіх катаклізмаў, і калі штосьці б і адбывалася, то толькі ў спакайнейшым рэчышчы і ва ўсялякім выпадку прывяло да дэмакратычных пераменаў у нашай краіне.

# Якія заробкі будуць у беларусаў праз год

**Даследчы цэнтр ІПМ апублікаваў макраэканамічны прагноз Аляксандра Чубрыка для Беларусі на 2018 год.**

Прыводзім галоўныя тэзісы дырэктара Даследчага цэнтру ІПМ.

Верагодна, рост рэальнага ВУП пачне запавольвацца ўжо ў першым квартале 2018 года.

Да канца 2018 года Аляксандр Чубрык чакае некаторае паскарэнне інфляцыі і пэўнае паслабленне беларускага рубля ўслед за расійскім.

Верагодна, адбудзецца запаволенне росту спажывання з прычыны замаруджвання росту рэальнай зарплаты.

Звяртае на сябе ўвагу прагноз, паводле якога намінальная зарплата да канца 2018 года, верагодна, дасягне… 1000 рублёў у месяц. Гэта пры тым, што ўлады спадзяюцца выйсці на гэты паказчык па выніках снежня–2017, хоць і заяўляюць, што ў пачатку наступнага года сярэдняя зарплата знізіцца з-за вялікай колькасці святочных дзён.

Раней эканаміст Яраслаў Раманчук даў несуцяшальны прагноз на 2018 год: «Будзе значна горш, асабліва ў святле прадказальных праблем расійскага рубля і расійскай эканомікі, якая з высокай ступенню верагоднасці будзе альбо ў нулявой зоне росту, альбо наогул у зоне падзення».

На дыскусійнай пляцоўцы talks.by разгарэліся спрэчкі пра перспектывы беларускай эканомікі.

«У цэнтры Мінска адны кавярні і рэстараны, якія біткам забітыя. На Зыбіцкай не праціснуцца летам, машыны, якія на Камсамольскай паркуюць. Таму не трэба драматызаваць».

«Мяркуючы па тым, што я бачу, у нас абазначыўся трэнд, які мне не вельмі падабаецца. Павялічваецца разрыў паміж Мінскам і ўсёй астатняй Беларуссю. Гэта значыць, ідзе рух да расійскай мадэлі эканомікі, дзе ёсць Масква і Замкаддзе».

«1) У нас цяпер бяда ў эканоміцы, але не трагедыя. 2) Беларусы сталі жыць горш за апошнія гадоў пяць. Гэта відавочна, і я з гэтым згодны. 3) Але не ўсё так дрэнна, і ў Беларусі таксама ёсць станоўчыя моманты і магчымасці. 4) Я не люблю прэзідэнта, і лічу памылкай увесь яго трэці тэрмін, а яго — адказным за гэты вось лакальны трындзец. Але ў той жа самы час я не прыхільнік ідэі, каб усё гарэла агнём, абы мяняліся людзі на экране ТБ».

«Што будзе з беларускай эканомікай у 2018 годзе? Ды нічога добрага не будзе. Працягне далей паволі або хутка (у залежнасці ад цаны на нафту) дэградаваць».

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У новы год з песімізмам

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У мінулым нумары мы пісалі, што ўрад і кіраўніцтва краіны спадзяюцца на Дзеда Мароза. А на што разлічваюць грамадзяне краіны? На жаль, ім выпадае разлічваць толькі на сябе.**



Фота www.business-vector.info

Да канца года засталіся лічаныя дні. Ужо ўсім зразумела, што задача «па пяцьсот» выкананая не будзе. Лістападаўскі сярэдні заробак, у параўнанні з кастрычніцкім, паводле дадзеных Белстата, упаў на 0,5%. Зніжэнне зарплаты да кастрычніка з папраўкай на інфляцыю склала 0,9%.

У прынцыпе, як пішуць banki24.by, такія паводзіны заробкаў укладваюцца ў сезонную дынаміку. Апошнія пяць гадоў заробак лістапада падаў да кастрычніцкага кожны год. Зрэшты, адносна 2016-га рост сярэдняга заробку працягнуўся. У рублях зарплата да лістапада–2016 павялічылася на 16,6%, у доларах — на 13,3%.

Але адна справа — працэнты, а другая — жывыя грошы. І таму тыя ж самыя спецыялісты banki24.by уводзяць паняцце «медыяннага заробку». Гэта разлік заробку, калі ён «ачышчаны» ад падаткаў, збораў, прафсаюзных унёскаў, і без «малявання» заробку дзяржсектару. Мяркуецца, зарплату вышэй і ніжэй медыяны атрымліваюць па 50% работнікаў, але з-за няроўнасці ў даходах медыяна заўсёды меншая за сярэдняе арыфметычнае, і медыянны заробак ніжэйшы за сярэдні паводле Белстата.

Зараз у Беларусі медыянны заробак меншы, чым сярэдні, амаль на траціну. Таму налічаны медыянны заробак у снежні прагназуецца ў памеры 640–650 рублёў, а медыянны заробак на рукі — 555–565 рублёў. Што значна бліжэй да рэальнасці, чым афіцыйныя лічбы Белстата.

А значыць, план «па пяцьсот» можа быць выкананы. Толькі своеасабліва — не ў цвёрдай валюце, а ў беларускіх рублях.

Таму і не дзіва, што насельніцтва настроенае вельмі песімістычна. Нацыянальны банк пачаў публікаваць штоквартальныя матэрыялы па інфляцыйных чаканнях насельніцтва. Першы ж апублікаваны аналіз інфляцыйных чаканняў, падрыхтаваны на аснове праведзенага ў лістападзе 2017-га сацыялагічнага апытання, паказаў: большасць беларусаў лічаць, што кошты за апошнія 12 месяцаў «выраслі вельмі моцна» і далей «будуць расці таксама інтэнсіўна».

Як выявіла апытанне, большасць беларусаў лічаць сённяшні перыяд неспрыяльным для буйных пакупак, і амаль палова апытаных грамадзян за апошнія тры месяцы такіх пакупак не рабілі. Амаль 75% апытаных думаюць, што цяпер неспрыяльны час і для зберажэнняў. Прычым, больш за 74% апытаных у ашчаджэнні грошай робяць стаўку на замежную валюту, а больш за 41% грамадзян эканомяць сродкі ў наяўнай форме. Менш за 30% лічаць аптымальным захоўваць сродкі на банкаўскіх дэпазітах.

Што гэта азначае? Па-першае, нічога добрага ад улады людзі не чакаюць, і рэкордна нізкую інфляцыю беларусы чамусьці не адчулі кішэнямі. Можа, таму, што з рэкордна нізкай інфляцыяй у нас рэкордна знізіліся заробкі?

Па-другое, давер да беларускага рубля ўсё яшчэ слабы. Так і павінна быць пасля шматлікіх дэвальвацый на працягу аднаго дзесяцігоддзя. І па-трэцяе, канешне, праграма «дэдаларызацыі эканомікі» цалкам праваленая. Праўда, пра яе ўжо і так ніхто не памятае...

Пры гэтым дзяржава яшчэ і імкнецца «падаіць» насельніцтва. На тыдні міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык у праграме «Галоўны эфір» паведаміў, што беларусы сёння кампенсуюць 85% выдаткаў за спажываную электраэнергію. І, паводле яго слоў, ужо ў 2018 годзе насельніцтва будзе разлічвацца за электраэнергію па поўным тарыфе.

Прычым, Патупчык абмовіўся пра страшную рэч. Літаральна ён сказаў: «Мы для сябе паставілі задачу ў гэтым годзе, каб насельніцтва выйшла на стопрацэнтную кампенсацыю затрат на вытворчасць электрычнай энергіі. На жаль, гэта не атрымаецца ў сувязі з прынятымі рашэннямі ўрада і на ўзроўні кіраўніка дзяржавы». То бок, нармальнай аплаце паслуг замінае Лукашэнка?

Але не гэта важнае. Калі мы выйдзем на стопрацэнтную кампенсацыю электрычнасці — на халеры тады мы дабудоўваем АЭС за 10 мільярдаў долараў крэдыту? І ці не закладуць нам гэты крэдыт у кошт электраэнергіі? То бок з уводам АЭС у эксплуатацыю электрычнасць не патаннее, а падаражэе?

Эканамічна-фінансавыя нядахопы могуць кампенсавацца неэканамічнымі чыннікамі. Напрыклад, добрымі ўмовамі працы ці адпачынку. Але і гэтага нашая ўлада неяк не разумее.

Каля двух тысяч подпісаў сабралі грамадзяне за тое, каб вярнуць Дзядам — дню памінання продкаў — статус непрацоўнага дня. І атрымалі дзіўны адказ, які падпісала намесніца ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Алена Радчанка. Паводле яе, «зварот па пытанні абвяшчэння непрацоўным днём 1 лістапада, які з'яўляецца святам Усіх Святых па календары каталіцкай канфесіі» разгледжаны ў апараце ведамства. Пры гэтым пра Дзяды, на чым рабілі акцэнт аўтары петыцыі, — ані слова.

«У адпаведнасці з Законам «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях», усе грамадзяне роўныя перад законам незалежна ад іх адносінаў да рэлігіі, — гаворыцца ў адказе. — Права на свабоду веравызнання, замацаванае ў Канстытуцыі, не дае вернікам пераваг перад грамадзянамі, якія прытрымліваюцца атэістычных перакананняў. У адваротным выпадку гэта парушыць прынцып раўнапраўя грамадзян».

І менавіта таму «ў цяперашні час дапаўняць рэлігійныя святы, якія адзначаюцца ў Рэспубліцы Беларусь у якасці святочных дзён, яшчэ адным, і аб'яўляць яго непрацоўным днём, немэтазгодна».

Я б на такі адказ пакрыўдзіўся, прычым, менавіта з боку атэістаў. Бо, прыкрываючыся імі, спадарыня Радчанка выстаўляе атэістаў у непрыемным выглядзе. Нібыта, яны не шануюць сваіх продкаў, не даглядаюць за пахаваннямі, не ездзяць на могілкі, і ўвогуле — бяздушныя і несумленныя людзі.

Такое стаўленне дзяржавы да Дзядоў і атэістаў, можа, і не было б настолькі прыкрым, каб не цягнула за сабою больш змрочныя наступствы. Калі дзяржава не лічыць патрэбным шанаваць продкаў — яна грэбуе гісторыяй, традыцыямі і культурай. Калі яна грэбуе гісторыяй, традыцыямі і культурай — пра якое патрыятычнае выхаванне можна казаць? Калі няма ў краіне патрыётаў — не будзе і краіны.

А калі не будзе краіны, не будзе і яе чыноўнікаў — вось так, адным адказам апарат упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў рые сабе магілу. Тую самую, на якую ніхто не прыйдзе, бо няма на гэта выхаднага дня...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Севярынец

**Сустаршыня БХД, а зараз і пісьменнік, правёў аўтограф-сесію ў падтрымку Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

Аўтограф сесія прайшла 29 снежня ў Мінску на сядзібе ТБМ. Частка грошай ад продажу кнігаў будзе ахвяраваная на падтрымку ТБМ.

За падтрымкай звярнулася дэпутатка і старшыня ТБМ Алена Анісім на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. «Не думала, што так станецца, але сітуацыя змушае звярнуцца наўпрост да ўсіх, хто падтрымлівае дзейнасць ТБМ і жадае рэальна пашыраць прастору беларускай мовы ў сферы адукацыі, у інфармацыйным вяшчанні. Як вы ведаеце, наша арганізацыя не мае ніякіх палёгкаў адносна аплаты арэнды памяшкання і камунальных паслугаў, якія разам складаюць крыху больш за 2000 рублёў», — напісала Анісім.

Таму Анісім просіць зрабіць ахвяраванні нават на нязначныя сумы, каб падтрымаць арганізацыю.



## Глеб Лабадзенка

**Дзякуючы намаганням грамадскага актывіста і журналіста ў Мінску адкрылі мемарыяльную дошку Рыгору Барадуліну.**

Яе ўсталявалі на сцяне дома па вуліцы Мележа, 4. Тут паэт жыў цягам 34 гадоў. Ініцыятыва ўсталявання барэльефа ішла ад журналіста Глеба Лабадзенкі, які арганізаваў збор сродкаў.

Лабадзенка разам са старшынёй Саюза мастакоў Беларусі Рыгорам Сітніцам узгадніў усе пытанні з гарадскімі ўладамі. На барэльефе пазначана, што ў гэтым доме цягам 1980–2014 гадоў жыў і ствараў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін.

«На яе збіралі грошы людзі, 145 чалавек ахвяравалі сродкі на гэтую дошку. І гэта вельмі важны момант, бо мы заўсёды кажам: чаму нам не робяць, чаму нам не вешаюць, чаму нам не адкрываюць, чаму не шануюць. А мы навошта, а мы дзеля чаго? Таму людзі, якія любяць Рыгора Барадуліна, сабраліся і зрабілі гэтую дошку», — сказаў Лабадзенка.

Але на гэтым Лабадзенка не спыняецца і ўжо абвясціў, што пачынаецца збор сродкаў на мемарыяльную дошку ў гонар Васіля Быкава. Ініцыятары спадзяюцца, што і гэтым разам атрымаецца ажыццявіць задуманае, цяпер ужо ў дачыненні да народнага пісьменніка Беларусі.



## Ванэса Каладзінская

**Рашэннем Міжнароднай федэрацыі барацьбы (UWW) беларуска прызнана лепшай спартсменкай 2017 года ў жаночай барацьбе.**

У гэтым годзе Каладзінская выйграла Чэмпіянат свету па спартыўнай барацьбе ў Парыжы і стала двухразовай уладальніцай гэтага тытула – раней яна перамагала на планетарным першынстве ў 2012 годзе.

Таксама ў бягучым сезоне Каладзінская заваявала золата на Чэмпіянаце Еўропы ў Сербіі.

Ванэса Каладзінская нарадзілася ў Бабруйску 27 снежня 1992 года. Скончыла Бабруйскае дзяржаўнае вучылішча алімпійскага рэзерву. У 2008 годзе — сярэбраны прызёр Чэмпіянату Еўропы па барацьбе сярод кадэтаў. У 2010-м годзе — восьмае месца на Чэмпіянаце свету сярод моладзі. У 2011-м годзе — бронза Чэмпіянату Еўропы сярод моладзі.

На Алімпіядзе–2012 у Лондане заняла восьмае месца. Двухразовая пераможца міжнароднага турніру па вольнай барацьбе на прызы Аляксандра Мядзведзя.

З ліпеня 2012 года прадстаўляе спорткаманду ўнутраных войскаў МУС.

У сям'і Каладзінскай усе спартоўцы. Маці Людміла Андрэеўна Шчарбакова — у мінулым заслужаны трэнер па гімнастыцы. Тата Валерый Вікенцьевіч Каладзінскі быў галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай па жаночай гімнастыцы, зараз жыве ў Аўстраліі, працуе ў спортклубе трэнерам. Брат Стас жыве з бацькам, доўгі час гуляў у футбол. Сястра Рэната кіруе студыяй спартыўнага сучаснага танца «Мара» ў цэнтры вольнага часу і творчасці Бабруйска.



# 2018: Выпрабаванне для беларускай стабільнасці

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Як робяцца прагнозы? Звычайна, экстрапалююць тыя трэнды і працэсы, якія развіваюцца сёлета, у будучыню. То бок, калі не здарыцца нечага экстраардынарнага, чаго немагчыма прадбачыць, не прыляціць, як цяпер модна гаварыць, «чорны лебедзь», то мы будзем назіраць працяг таго, што мы мелі дасюль.**

## Сацыяльна-эканамічныя працэсы

Калі казаць пра эканоміку, то ва ўладаў вялікі аптымізм. У бюджэце 2018 года запланаваны рост валавога ўнутранага прадукту (ВУП) на 3,4%. Праблема, аднак, палягае ў тым, што эканамічныя паказнікі мала залежаць ад дзейнасці беларускага ўраду. На іх у асноўным уплывае міжнародная кан'юнктура. Найперш, гэта сусветныя цэны на нафту, калій, абменны курс расійскага рубля. А гэтыя чыннікі прагназаваць вельмі цяжка.

У звязку з прыняццем шэрагу прэзідэнцкіх указаў аб лібералізацыі эканомікі варта чакаць павялічэння долі прыватнага сектару ў ВУП краіны. Не думаю, што будзе значны прыток замежных інвестыцый. Бо не вырашаны сістэмныя праблемы для стварэння спрыяльнага інвестыцыйнага клімату: гарантыя правоў уласнасці, недатыкальнасць асобы, незалежны суд, прававая дзяржава.

А вось ІТ-сектар можа значна павялічыцца. Бо добры штуршок дае прэзідэнцкі дэкрэт «Аб развіцці лічбавай эканомікі». Але не трэба спадзявацца, што ІТ-сектар выратуе беларускую эканоміку. У звязку з гэтым дэкрэтам у аналітычнай супольнасці пачалася цікавая дыскусія на тэму, ці магчыма ў Беларусі аўтарытарная мадэрнізацыя. Думаю, яна будзе працягвацца яшчэ доўгі час.

Можна спадзявацца, што ўладам атрымаецца захаваць стабільнасць беларускага рубля і абменнага курсу. Апошнія два гады паказалі, што Нацбанк умее і ведае, як гэта рабіць. Проста дасюль ён не меў палітычнай падтрымкі з самага верху. Але цяпер, здаецца, такая падтрымка ёсць.

У 2017 годзе крызіс беларускай мадэлі выявіўся не толькі ў сухіх статыстычных лічбах, але і ў публічных дэманстрацыях пратэсту насельніцтва падчас акцый недармаедаў. Істотна знізіўся давер насельніцтва да ўлады, зменшылася яе легітымнасць. Людзі ўбачылі, што эканамічная палітыка ўладаў праваліліся, што яна не здольная падвысіць узровень жыцця, што цяперашні абвал — гэта надоўга, а пры існуючым рэжыме, можа быць, назаўсёды.

Зразумелая справа, улады спрабуюць пераламаць сітуацыю, даць людзям надзею і аптымізм. Лукашэнка нічога лепшага не прыдумаў, як зноў вярнуцца да абяцанай лічбы $500. Ён даў заданне давесці сярэдні заробак у снежні да 1 тысячы рублёў. Такім чынам Лукашэнка спрабуе аднавіць сацыяльны кантракт з грамадствам.

Але тут важна ацаніць крызіс жанру. Нічога новага прыдумаць Лукашэнка не ў стане. Беларусы памятаюць, што абяцанне давесці зародак да $500 давалася ўжо двойчы. І кожны раз заканчвалася кепска — вялікай дэвальвацыяй. То бок у масавай свядомасці грамадства згадка пра гэты піяр-ход звязаная з псіхалагічнай траўмай. І навошта вярэдзіць раны?

Другі момант. Лукашэнка абяцаў заробак у $500 яшчэ ў далёкім 2010 годзе. Прайшло сем гадоў. Увесь свет рухаецца наперад, і толькі Беларусь — назад.

Аднак нават калі з дапамогай адміністрацыйных мер і загадаў атрымаецца вырашыць гэтую праблему — давесці сярэдні заробак у снежні да 1 тысячы рублёў, то гэта наўрад ці паспрые паляпшэнню іміджу кіраўніка дзяржавы. Бо, паводле статыстыкі, 70% беларусаў атрымліваюць менш за афіцыйны сярэдні заробак. То бок, ён выцягваецца за кошт росту заробкаў у высокааплатных работнікаў. У рэгіёнах не тое, што 1 000 рублёў, а нават 500 рублёў лічыцца добрым заробкам. Таму ўсе развагі Лукашэнкі пра 1000 ці 1500 рублёў выклікаюць у ягонага электарату толькі раздражненне, даюць адваротны эфект. І нават тыя работнікі, якім «бруднымі» налічаць гэтую запаветную лічбу, на рукі атрымаюць менш. То бок, прыкладна 80% насельніцтва, не атрымаўшыя абяцаны заробак, скажуць: нас зноў падманулі.

Да таго ж снежаньскія заробкі заўсёды большыя. Там і прэміі ў канцы года, і 13-ы заробак, і іншыя даплаты. А ў студзені звычайна адбываецца значнае падзенне заробкаў. З усімі іміджавымі наступствамі для ўлады. Таму не думаю, што Лукашэнку атрымаецца вярнуць давер насельніцтва з дапамогай гэтай ідэі.

## Мясцовыя выбары і рэпрэсіі

Галоўнай палітычнай кампаніяй 2018 года будуць мясцовыя выбары. Цікавасць да іх невялікая і з боку грамадства, і ўлады, і замежжа (замежных назіральнікаў не будзе). Нагадаю, што ўлады адмовіліся нават ад касметычных зменаў у Выбарчы кодэкс, які падрыхтавала камісія на чале з Л. Ярмошынай. Па таму, як былі сфарміраваныя тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, можна зрабіць высновы, што ўлады імкнуцца правесці выбары паводле звыклага сцэнару.

Адзін з вынікаў 2017 года палягае ў тым, што ўлада страціла манаполію на СМІ. Колькасць людзей, якія глядзелі анлайн-рэпартажы з вулічных акцый недармаедаў, перавысіла аўдыторыю інфармацыйных перадач дзяржаўных тэлеканалаў. Каля 70% беларускіх грамадзян сёння карыстаюцца інтэрнэтам. З іх не менш за палову выкарыстоўваюць яго як сродак інфармацыі, прыкладна столькі ж прысутнічаюць у сацыяльных сетках. Можна меркаваць, што гэтыя працэсы будзе працягвацца і ў новым годзе.

Увогуле, насцярожвае вяртанне ўладамі рэпрэсіўных практык супраць палітычных апанентаў. Напрыклад, ніколі раней не было, каб людзі траплялі за краты за публічныя заклікі выйсці на акцыю пратэсту, як гэта адбылося з Уладзімірам Някляевым. А блакаванне сайта «Беларускі партызан» наогул вяртае нас да таго змрочнаму перыяду, калі забараняалі друкаванне незалежных газет у Беларусі і іх друкавалі ў Смаленску ці Літве. Думаю, такія рэпрэсіўныя захады будуць працягнутыя і ў 2018 годзе. Але ладзіць іх улады будуць кропкава, у залежнасці ад адчування імі небяспекі.

## Замежная палітыка

Будуць працягвацца і замежнапалітычныя тэндэнцыі. Прадоўжыцца курс на паляпшэння адносін з Захадам. Праўда, у канцы 2017 года афіцыйны Мінск уключыў своеасаблівы стоп-сігнал у сваіх адносінах з ЕС. Спачатку беларуска-расійскія вайсковыя вучэнні сапсавалі вобраз Беларусі як донара рэгіянальнай бяспекі. Затым А. Лукашэнка адмовіўся ехаць у Брусель. І, нарэшце, украінскі шпіёнскі скандал моцна ўдарыў па іміджы Беларусі як самастойнай і нейтральнай дзяржавы. Мабыць, беларускае кіраўніцтва не атрымала ад Захаду тое, што хацела, і адносіны ўперліся ў нейкую ўмоўную столь.

Можна чакаць, што ў 2018 годзе будзе падпісана пагадненне з ЕС аб спрашчэнні візавага рэжыму. Улады абяцаюць увесці бязвізавы рэжым для грамадзян Еўрапейскага саюза да 10 дзён, замест 5 дзён, як цяпер. Магчыма, пачнуцца перамовы паміж Мінскам і Бруселем наконт рамачнай дамовы аб партнёрстве і добрасуседстве хоць бы на ўзроўні экспертаў.

Што тычыцца адносін з Расіяй, то я не чакаў бы нейкіх значных пераменаў на гэтым кірунку. Крамлю ў 2018 годзе будзе не да Беларусі. Прэзідэнцкія выбары, Чэмпіянат свету па футболе, канфлікт з ЗША цалкам зоймуць увагу расійскага кіраўніцтва. Не думаю, што ў такіх умовах Масква стане сварыцца з Беларуссю.

Будуць працягвацца цяжкія перамовы па метадыцы цэнаўтварэння на газ на 2020–2024 гады. Справа ў тым, што ў 2017 годзе расійскі газ каштаваў Беларусі 143,6 долара за 1 тысячу кубаметраў. У 2018 годзе адбудзецца зніжэнне да 129 долараў, а ў 2019 годзе — да 127 долараў за 1 тысячу кубаметраў. А вось што будзе далей — невядома. Бо планавалася, што да 2025 года ў Еўразійскім саюзе з'явіцца адзіны рынак газу з аднолькавымі цэнамі для ўсіх чальцоў гэтага аб'яднання. Аднак Расія імкнецца адцягнуць такі пераход, і гэта стварае патэнцыял для новага беларуска-расійскага канфлікту.

Важным замежнаэканамічным кірункам у палітыцы Беларусі апошніх гадоў сталі адносіны з Кітаем. 2017 год — вельмі паказальны. Як звычайна, было шмат сустрэч высокіх дэлегацый, пампезных заяў, дэкларацый. Што ў сухім астатку? Кітайскага крэдыту на мадэрнізацыю двух беларускіх НПЗ, пра што было ўрачыста абвешчана пасля перамоваў Аляксандра Лукашэнкі і старшыні КНР Сі Цзіньпіна, так і няма. Са скандалам урэшце запусцілі Светлагорскі завод беленай цэлюлозы. Цяпер завалім свет паперай, хоць каму яна патрэбна ў эпоху лічбавай эканомікі? Урачыста адкрылі пад Жодзіна завод «БелДжы» па вытворчасці аўтамабіляў «Geely». Але пытанне, хто іх будзе купляць па такой цане, застаецца адкрытым.

Магчыма, у 2018 годзе завершыцца будаўніцтва ўсёй інфраструктуры кітайска-беларускага індустрыяльнага парка «Вялікі камень». І стане зразумела, ці будзе ён прыцягальным для кітайскіх і замежных інвестараў. Бо дасюль там будуюцца толькі тры аб'екты. Усе замежныя кампаніі спасаліліся на негатоўнасць інфраструктуры. Цяпер надыходзіць час ісціны: стане ясна, ці спраўдзяцца вялізныя спадзяванні беларускіх уладаў на гэты парк.

Увогуле, у 2018 годзе нас чакае шмат цікавых падзей. І яны стануць вялікім выпрабаваннем для беларускай стабільнасці. А людзі заўсёды ў новым годзе чакаюць прыемных перамен. Уся надзея на Дзеда Мароза.



**Можна чакаць, што ў 2018 годзе будзе падпісана пагадненне з ЕС аб спрашчэнні візавага рэжыму. Улады абяцаюць увесці бязвізавы рэжым для грамадзян Еўрапейскага саюза да 10 дзён**

Таццяна ЛІСІЧЭНКА




# 2017: З пераменным поспехам

**Новы год у эканамічнай сферы прынёс нам, як ні дзіўна, багата выгадаў. Але ў гэтых выгодах усё роўна пачуваешся неяк няўпэўнена. Зірнем на асноўныя падзеі 2017-га.**

## Нафтагазавы канфлікт

Ва ўжо сыходзячы год мы ўступілі з непагашаным нафтагазавым канфліктам з Расіяй. Нагадаю, што Беларусь настойвала на зніжцы на газ і «справядлівым кошце» ў 73 долары за тысячу кубаметраў. Расія ж спасылалася на кантракт па 132 долары за тысячу «кубоў». У выніку ў нас узнікла запазычанасць перад «Газпрамам» у 726 мільёнаў долараў.

Такія навагоднія спрэчкі з нашым стратэгічным саюзнікам і партнёрам узнікалі часцяком. Але яны вырашаліся за хвіліны да Новага года. На мяжы 2016–2017 года такога не адбылося, і за гэта Расія — ужо ў парушэнне іншага кантракту — скараціла нам пастаўкі нафты.

Развязаць гэтую спрэчку ўдалося толькі ў красавіку. Кошт газу для Беларусі быў усталяваны на ўзроўні Ямала-Ненецкай аўтаномнай вобласці Расіі. І, па словах віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі, цана газу для Беларусі будзе зніжацца. У прыватнасці, у 2018 годзе яна складзе 129 долараў. Апроч таго, разглядаўся і варыянт «кампенсацыі» Беларусі «несправядлівай цаны» ў 300 мільёнаў долараў штогод. Здзейснілася гэта ці не — невядома. Апошні раз Сямашка адмовіўся адказваць на гэта пытанне 20 снежня, сказаўшы літаральна: «Хай гэта застанецца паміж Мінфінамі нашых (Беларусі і Расіі) краін».

У выніку Сінявокая спаліла доўг, пастаўкі нафты былі адноўленыя, а нафтагазавае пытанне, падаецца, знятае з павесткі. Прынамсі ў гэтым годзе Сямашка лётаў у Маскву не для вырашэння спрэчак, а для абмеркавання лёсу адзінага газавага рынку краін ЕАЭС. А калі не атрымаецца з ЕАЭС, то хаця б у межах так званай «Саюзнай дзяржавы».

І ў новы 2018-ты мы ўваходзім без традыцыйнай нафтагазавай праблемы. Праўда, наколькі працягнецца такі стан рэчаў, невядома.

## Дармаедскі дэкрэт

Будзем шчырыя — гэты дакумент цягне на «шнобелеўскую прэмію» ў галіне эканомікі. Дэкрэт, які распрацоўваўся тры гады, не выканаў ніводнай з пастаўленых перад ім задачаў.

Ён не прымусіў працаўладкоўвацца лайдакоў, пра што нам казалі з высокіх трыбунаў. Ён не прымусіў народ масава сплачваць «дармаедскі падатак». Ён нават не вызначыў, колькі ж у краіне тых самых «дармаедаў» і каго гэтымі «дармаедамі» можна называць. Як вынік, шалёныя грошы былі проста выкінутыя на рассылку «лістоў шчасця» ад падатковых, а сабраныя «дармаедскія» падаткі давялося вяртаць.

І гэта ўжо не кажучы пра масавае абурэнне народа, якое вылілася на вуліцы не толькі сталіцы, але і правінцыі. Прычым, колькасць пратэстоўцаў у, напрыклад, Гомелі перавысіла колькасць звыклага да дэманстрацый і шэсцяў Мінска.

Улада не прызналася ў правальнасці свайго рашэння. На працягу ўсяго 2017-га мы чулі заклікі «дапрацаваць, перарабіць, скарэктаваць» гэты дакумент. Называліся розныя тэрміны яго новай рэдакцыі: летам, восенню, узімку. І, падаецца, яго вырашылі проста «забаўбатаць», не прызнаючы сваёй памылкі. Бо за памылкі даводзіцца адказваць, а ў выпадку «забаўбатання» ён ціха сыходзіць у нябыт...

## Крэдыт МВФ

Гэта таксама адзін з правалаў года ў дзейнасці ўладаў. У 2017-м быў маленькі юбілей: 1000 дзён, як Беларусь і Міжнародны валютны фонд пачалі размову пра крэдыт. Яна, размова, дасюль працягваецца.

У лютым 2017 года першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі заявіў, што па спрэчных пытаннях у перамовах з МВФ, якія тычацца павышэння тарыфаў на камунальныя паслугі і рэфармавання дзяржсектара, знойдзеныя «развязкі». У сакавіку афіцыйны прадстаўнік МВФ прыняў дырэктар фонду прыняў асабіста Аляксандр Рыгоравіч. У красавіку беларуская дэлегацыя злётала ў Вашынгтон, а ў ліпені афіцыйны прадстаўнік МВФ Вільям Мюрэй нечакана заявіў, што «дыскусіі па крэдытнай праграме для Беларусі пакуль спыненыя ў чаканні больш выразнай падтрымкі неабходных змяненняў на высокім узроўні, якія тычацца камунальнай гаспадаркі і сектара дзяржаўных прадпрыемстваў».

Паміж Беларуссю і МВФ — істотная розніца ў падыходах да тэмпаў рэформаў, пад якія даецца крэдыт. Кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Пітэр Долман казаў, што беларускія ўлады настойваюць на павольных рэформах. Фонд жа настойвае на хуткіх, бо, па словах Долмана, «павольны рух на шляху да рэформаў прыводзіць да таго, што іх цяжка рэалізаваць і давесці да канца».

А таму працяг сагі пра крэдыт мы пабачым і ў 2018-м.

## На рэкорд!

Безумоўную прэмію «структура года» атрымае Нацыянальны банк з яго жорсткай манетарнай палітыкай.

Падводзіць гэтыя вынікі пакуль рана — яшчэ няма лічбаў па снежні 2017-га. Але ўжо зразумела, што ён у мінаючым годзе атрымлівае «золата» ў некалькіх намінацыях.

Першае — гэта, канешне, утаймаванне афіцыйнай інфляцыі. Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта, за студзень-лістапад інфляцыя ў Беларусі склала 4,4%. Больш прыкметна за 11 месяцаў падаражэлі паслугі (+9%). Нехарчовыя тавары сталі даражэй на 2,8%, а харчовыя — на 3,4%.

Гэта — самы нізкі ўзровень інфляцыі ў краіне за ўвесь час існавання незалежнай Беларусі. І гэта адназначнае «перавыкананне плану», бо афіцыйны прагноз уладаў прадугледжваў інфляцыю ў 2017 годзе ў межах 9%. Першы намеснік міністра эканомікі Дзмітрый Круты пасярод года казаў, што да канца года інфляцыя не перавысіць 6,5%.

Другое «золата» — за маленькі рэкорд: у ліпені і жніўні назіралася дэфляцыя, калі цэны не раслі, а знізіліся на 0,1% і 0,8% адпаведна. Гэтага — зніжэння цэнаў на працягу двух месяцаў запар — таксама ў гісторыі Беларусі не назіралася.

Ну і трэцяе «золата» ў тым, што (невядома якімі высілкамі і тлумачэннямі) не было дасягнутае абяцанне Аляксандра Лукашэнкі даць усім заробак па 1000 рублёў. Гэтае абяцанне выконвацца проста — уключэннем станка для друку грошай. Але цягне за сабой тую самую інфляцыю, абясцэньванне грошай і падзенне курсу нацыянальнай валюты. Не ведаю, чаго тое каштавала спецыялістам, але падчас абмеркавання бюджэту на 2018-ты міністарка працы і сацыяльнай абароны Ірыны Касцевіч агучыла «столь» заробкаў у бюджэтнікаў — 760 рублёў.

Такім чынам, мы пакуль не збіраемся друкаваць нічым не забяспечаныя грошы. І, спадзяюся, не збяромся надалей.

## Дзярждоўг

Але, нягледзячы на жорсткую і абачлівую палітыку ў фінансавай сферы, нас чакае іншая пастка. На 1 лістапада 2017 года дзяржаўны доўг Беларусі склаў 41,9 мільярда рублёў і павялічыўся ў параўнанні з пачаткам 2017 года на 4,9 мільярда рублёў, або ажно на 13,3%.

У пачатку 2014 года дзярждоўг складаў 22% у адносінах да ВУП краіны. На сёння гэты паказчык вырас да 40%. Між тым, гранічным значэннем для эканамічнай бяспекі Беларусі лічыцца планка ўзроўню знешняга дзярждоўгу да ВУП у 25%.

Гэты рост звязаны з запазычаннямі, якія зрабіла наша ўлада, нягледзячы на словы Лукашэнкі «больш ні ў каго не браць новых пазыкаў і аддаваць старыя». Атрымалася, як заўсёды — то бок, роўна наадварот.

Прычым, пры такім шалёным знешнім доўгу ў нас няма дэфіцыту дзяржбюджэту. То бок, большасць пазыкаў ідзе па-за бюджэтам краіны. Гэта, найперш, крэдытаванне стратных прадпрыемстваў, мёртвага аграрнага сектару, рознага кшталту «мадэрнізацыі», якія не даюць эфекту, і гэтак далей. А потым дзяржава спісвае пазыкі такіх «суб'ектаў безгаспадарнасці», не зважаючы на тое, што грошы «ніадкуль» не бяруцца.

«У выніку мы назіраем два паралельныя, канфліктуючыя адзін з адным працэсы. Першы: жорсткая манетарная палітыка Нацбанка. Другі: працяг бесперспектыўнага крэдытавання дзяржпрадпрыемстваў і эканамічна неапраўданае павышэнне заработнай платы дзяржчыноўнікам», — адзначыла ў інтэрв'ю onliner.by акадэмічная дырэктарка Цэнтра эканамічных даследаванняў BEROC, прафесарка Кіеўскай школы эканомікі і кандыдатка эканамічных навук Мадрыдскага ўніверсітэта Кацярына Барнукова.

Паводле яе словаў, менавіта памер знешняга доўгу можа прывесці да звыклага спосабу пазбавіцца гэтай праблемы — да рэзкай дэвальвацыі беларускага рубля.

## Прадпрымальнікі і IT

І, урэшце, напрыканцы года кіраўнік краіны выдаў два дэкрэты — пра прадпрымальніцтва і развіццё лічбавай эканомікі. Пра гэта шмат гавораць. Але прадпрымальнікі ўжо незадаволеныя «сваім» дакументам. Ці будуць задаволеныя айцішнікі?

Справа ў тым, што, як кажуць праваабаронцы, заканадаўства ў нас добрае — практыка яго прымянення дрэнная. І таму прыняцце такіх актаў — знак, хутчэй, трывожны. Існуе рызыка, што яны ператворацца ў чарговы «дармаедскі дэкрэт»: дакумент падпісаны, але ніхто не ведае, як яго выконваць. А паколькі ніхто не ведае, як дэкрэты выконваць, розныя падатковыя і кантралюючыя органы будуць трактаваць дакументы, зразумела, на сваю карысць.

Але тое мы пабачым толькі ў наступным 2018-м.

## Як вынік

Днямі я ехала ў таксоўцы. Кіроўца абураўся: што за зіма і Новы год з дажджом? «Дый лета не лепей — снег у маі», — падтакнула я, каб падтрымаць размову. І атрымала цалкам нечаканы адказ: «Стабільнасці няма!»

І тут я ўпэўнілася, што ў гэтым годзе народ асэнсаваў страту таго, што было кароннай фішкай дзяржаўнай ідэалогіі, — стабільнасці. Яе няма нават у надвор'і.

У эканоміцы стабільнасці няма тым больш. У нас па-ранейшаму не вызначаныя «правілы гульні»: трывалыя законы і ўмовы, якія б дазвалялі краіне развівацца. І, што прыкра, усе нашы дасягненні — гэта вынік не спланаванай стратэгіі, а адказ на выклікі, якія ставіць перад эканомікай жыццё. Адказ на выклікі — гэта абарона, а абараняючыся вайну не выйграеш.

Пакуль не бачна прарыву ў тым, каб рэформы эканамічнай сферы былі сістэмныя і незваротныя. Мы ўсё яшчэ ў акопах і ўсё яшчэ абараняемся. З пераменным поспехам.

# Чалавек, які прымусіў плакаць Лукашэнку

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Яго страшэнна баяліся камуністычная наменклатура і Кебічаўскае чыноўніцтва. Калегі-аднадумцы па парламенце патрабавалі для яго і яго сям'і аховы. А сам ён 20 снежня 1994 года, падчас свайго знакамітага «антыкарупцыйнага даклада», прымусіў плакаць Аляксандра Лукашэнку.**



Сяргей Антончык падчас жнівеньскіх падзей 1991 года



Сяргей Антончык і генеральны пракурор Беларусі Мікалай Ігнатовіч, 1991 год

## Чалавек «ад народа»

Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання Сяргей Антонавіч Антончык належаў да той кагорты народных абраннікаў, якія былі апантаныя ідэяй сацыяльнай справядлівасці, роўнасці ўсіх перад законам. Жорсткая рэальнасць перакуліла іх рамантычныя памкненні.

Ужо само абранне Сяргея Антонавіча ў Вярхоўны Савет 12 склікання было свайго кшталту сенсацыяй. 33-гадовы працоўны хлопец з сярэдняй адукацыяй і з немудрагелістай пасадай (апаратчык хімводаачысткі Мінскага вытворчага аб'яднання імя Леніна) перамог па 17-й сталічнай Ясенінскай выбарчай акрузе чатырох канкурэнтаў з вышэйшай адукацыяй. Ды яшчэ якіх! Дастаткова прыгадаць доктара хімічных навук Фёдара Капуцкага, будучага рэктара БДУ, які на той час займаў пасаду прарэктара вучэбнай працы. У другім туры 17 сакавіка 1990 года за дэпутацкі мандат Антончык змагаўся з Пятром Лабко — доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, загадчыкам кафедры анатоміі чалавека Мінскага медынстытута. Мабыць, выбаршчыкі адчулі ў простым працоўным больш шчырасці і праўдзівасці, чым у вучоных мужах.

## «Роўнасць — не калі ўсё пароўну»

Стаўшы дэпутатам Вярхоўнага Савета, Сяргей Антончык з характэрнай для яго энергіяй адразу зрабіў спробу ўзяць быка за рогі ўжо ў першы дзень работы парламента — 15 мая 1990 года, — калі вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду старшыні мандатнай камісіі (яе задача заключалася ў праверцы вынікаў выбараў). Аднак кансерватыўная большасць Вярхоўнага Савета адрынула кандыдатуру Антончыка. Абралі магілёўскага вылучэнца Васіля Лявонава, таго самага, які адкрыў шлях Лукашэнку. Тады Антончык прапанаваў сваю кандыдатуру на пасаду намесніка старшыні мандатнай камісіі. І зноў няўдача.

29 чэрвеня 1990 года Сяргей Антончык вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду старшыні часовай камісіі парламента па прывілеях: такая камісія была створана ў той жа дзень. Ва ўступным слове Антончык адзначыў, што барацьба з прывілеямі — гэта барацьба з эканамічным бокам бюракратызму. Дэпутат Фёдар Торманаў назваў Антончыка «человеком от рабочих, страстным борцом». Але большасцю галасоў на гэту пасаду быў абраны журналіст і аглядальнік парламенцкай «Народнай газеты» Іван Герасюк.

Сяргей Антонавіч быў, бадай, адным з самых актыўных чальцоў камісіі, бо астатнія — Анатоль Лябедзька, Віктар Кучынскі, Іван Ціцянкоў і Віктар Шэйман — асаблівай актыўнасці на ніве барацьбы з прывілеямі не выяўлялі.

У Вярхоўным Савеце Сяргей Антонавіч смела крытыкаваў «сильных мира сего», нягледзячы на пасады. Так, 27 лютага 1991 года Антончык у сваім выступе абрынуўся на першага сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева за кватэрныя махінацыі партыйнага боса. Тады ж Антончык, назваўшы скасаванне прывілеяў *«актом политическим»*, кінуў фразу, на якую на той час не асмеліўся б высокапастаўлены чыноўнік альбо праўладны і пракамуністычны дэпутат Вярхоўнага Савета: *«Нельзя быть убежденными вегетарианцами и одновременно страстными любителями копченой грудинки, нельзя призывать социальную справедливость, с одной стороны, и грабить свой народ путем различных ухищрений, с другой. Пора понять, что равенство — это не когда всё поровну, а когда равные исходные права и возможности для разных людей»*.

У гэтых словах як найлепш адлюстраваная прынцыповая розніца паміж Сяргеем Антончыкам і іншым барацьбітом з карупцыяй — Аляксандрам Лукашэнкам. Апошні разумеў карупцыю не як вынік савецкай мадэлі, а як выключна адсутнасць дысцыпліны, недастатковасць рэпрэсіўных захадаў, слабасць улады і гэтак далей.

## Рускамоўны бэнээфавец

Калі ўспыхнуў гарачы красавік 1991 года і адбыліся масавыя выступленні працоўных, незадаволеных рэзкім павелічэннем розничных цэнаў, Сяргей Антончык — у авангардзе падзей. 10 красавіка 1991 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета быў вымушаны выдаць пастанову, паводле якой прадстаўнікі мітынгуючых у Мінску (у першую чаргу сам Антончык) атрымоўвалі 15 хвілін эфірнага часу ў праграме «Панарама».

У час жнівеньскіх падзеяў таго ж года — путчу ГКЧП і вызначэння, куды рухацца краіне, — пытання пра незалежнасць Беларусі для Сяргея Антончыка не існавала. З пачатку свайго дэпутацтва Сяргей Антонавіч належаў да парламенцкай апазіцыі БНФ — той палітычнай сілы, якая ў парламенце паслядоўна змагалася за дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі.

Сяргей Антонавіч галасаваў за наданне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі статусу Канстытуцыйнага закона, рашуча заклікаў да забароны дзейнасці КПСС-КПБ на тэрыторыі рэспублікі. Дарэчы, усе свае выступы і прамовы Сяргей Антончык рабіў па-руску, што разбівае міф аб моўнай дыскрымінацыі ў БНФ.

Пасля атрымання Беларуссю рэальнай незалежнасці, Сяргей Антончык паслядоўна крытыкаваў кансерватыўную парламенцкую большасць за яе нежаданне праводзіць рэформы на карысць краіны, за імкненне блакіраваць любыя ініцыятывы, за жаданне далучыць Беларусь да Дагавора аб калектыўнай бяспецы, што магло ўцягнуць яе ў крывавыя авантуры.

Сяргей Антонавіч — гарачы прыхільнік рэферэндуму (ініцыяванага БНФ) аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета 12 склікання і правядзенні новых выбараў на падставе законапраекта ад БНФ. Так, 23 красавіка 1992 года Антончык заклікаў «смести этот Верховный Совет» — нягледзячы на тое, што сам быў дэпутатам.

Сяргей Антончык выступаў за адстаўку ўрада і яго непасрэднага кіраўніка Вячаслава Францавіча Кебіча, лічыў эканамічную палітыку неэфектыўнай, а знешнюю — здрадніцкай.

Менавіта дзякуючы Антончыку ў тагачасную беларускую рэальнасць увайшоў тэрмін, які раней савецкія гледачы маглі чуць у італьянскіх серыялах кшталту «Спрут», — мафія. У маі 1993 года, выступаючы ў Вярхоўным Савеце наконт падзей у саўгасе «Заслаўскі» Мінскай вобласці, Антончык заявіў, што мафія кінула выклік усім сумленным людзям.

## Антыкарупцыянер супраць «антыкарупцыянера»

4 чэрвеня 1993 года Сяргей Антончык стаў чальцом часовай камісіі Вярхоўнага Савета па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання. Старшынёй камісіі, як вядома, быў абраны дэпутат Аляксандр Лукашэнка. З усіх галасаваўшых Антончык быў адзіным, хто выказаўся супраць кандыдатуры Лукашэнкі.

Мажліва, ужо тады Сяргей Антончык заўважыў, што камісія патрэбна Лукашэнку для ўласнага палітычнага капіталу. Сяргей Антонавіч неаднаразова гаварыў, што Лукашэнка паралізаваў дзейнасць камісіі на сваю карысць.

Калі 14 снежня 1993 года Лукашэнка агучыў выніковы даклад, Антончыку ўдалося выступіць з альтэрнатыўнай прамовай. Антончык заявіў, што даклад Лукашэнкі — шоу для публікі, што сапраўдныя дзеячы мафіі там не закрануты.

Калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады і пачаў фармаваць свой урад, Антончык справядліва пытаўся: чаму Лукашэнка прызначае намеснікам старшыні ўрада Міхаіла Мясніковіча? Зусім нядаўна кандыдат у прэзідэнты абяцаў саслаць урад Кебіча ў Гімалаі!

## Калі плакаў Лукашэнка

Пік супрацьстаяння паміж Лукашэнкам і Антончыкам прыйшоўся на 20 снежня 1994 года. Менавіта тады Сяргей Антонавіч агучыў свой даклад аб карупцыі ў вышэйшых эшалонах новай улады. На думку Антончыка, у краіне сфарміраваліся некалькі мафіёзных кланаў, якія наносяць эканамічную шкоду краіне: прамысловы, аграрны, гандлёва-знешнеэканамічны і чарнобыльскі.

Паводле дакладчыка, прадстаўнікі гэтых кланаў у мэтах асабістага ўзбагачэння ажыццяўлялі незаконныя фінансавыя аперацыі і маёмасныя гешэфты, якія наносілі істотную матэрыяльную шкоду рэспубліцы: «Кебич начал разорять Беларусь, а эти добьют ее окончательно».

Дасталася амаль усім вылучэнцам Лукашэнкі: Шэйману, Ціцянкову, Кучынскаму і іншым. Газета «Свабода» апублікавала здымак, дзе Лукашэнка плача на трыбуне Вярхоўнага Савета падчас дакладу Антончыка.

Пасля даклада Антончыка дэпутат Яўген Новікаў заклікаў даць Сяргею Антонавічу і ягонай сям'і персанальную ахову.

Паводле загаду Лукашэнкі, даклад Антончыка не быў апублікаваны — вядучыя рэспубліканскія выданні выйшлі з белымі плямамі. У сваю чаргу, Сяргей Антонавіч пачаў ездзіць па краіне і агучваць свой даклад. Антончык публічна патрабаваў ад Лукашэнкі, каб ягоны даклад агучылі, аднак усё скончылася парламенцкімі слуханнямі ў лютым 1995 года: улады нівелявалі даклад Антончыка.

Адна з ганебных старонак рэжыму — арышт і ўтрыманне (на працягу трох дзён) Сяргея Антончыка падчас страйку працоўных метрапалітэна ў жніўні 1995 года. Апазіцыя БНФ вымушана была звярнуцца да Біла Клінтана і Барыса Ельцына з патрабаваннем вызваліць Антончыка.

Пасля рэферэндуму 24 лістапада 1996 года і скасавання Вярхоўнага Савета сістэмная апазіцыя была ліквідаваная. У Лукашэнкаўскай Беларусі лёс такіх, як Антончык, быў вядомы. У наступныя гады Сяргей Антонавіч даваў інтэрв'ю і казаў, што працуе грузчыкам. У гэтым — прысуд усёй сістэме: дзікунства, калі дэпутат, які галасаваў за незалежнасць краіны, вымушаны зарабляць сродкі да існавання цяжкай працай. А «белыя плямы» даклада Антончыка заўсёды будуць ганьбай існуючага рэжыму.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (136)
(снежань)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



## Змест



# Жыць — любіць, хвалявацца

**Люблю чытаць і перачытваць Алену Васілевіч — элегічную, узнёслую, дасціпна-іранічную, — кожны раз новую і ўсё тую ж самую: трапяткую, удумлівую, духоўна багатую. Мастацкае слова яна надзяляе надзвычайнаю ўладай — яно палоніць і доўга не адпускае**

1

У цэнтры беларускай сталіцы, дзе з сівое даўніны да параўнальна нядаўняга часу пульсавала рэчка Няміга, у доме, адно з вокнаў якога глядзіць на ўзноўленае Траецкае прадмесце, адвечную раку Свіслач і на адзін з праспектаў незалежнай Беларусі, жыве знакамітая пісьменніца Алена Сямёнаўна Васілевіч. Ёй, лаўрэатцы Дзяржаўнай прэміі нашай краіны (узнагароджана ў 1976 годзе за кнігу аповесцяў «Пачакай, затрымайся...»), Заслужанай работніцы культуры (1977), 22 снежня споўнілася 95 гадоў.

Шчодрае на гады, гадкі, гадочкі жыццё не песціла асобу, якой было наканавана праслаўляць краіну яскравым талентам. Народжаная на Случчыне, вясковая дзяўчынка напоўніцу зведала горкі хлеб сіроцтва, сказаць больш дакладна — бясхлебіцу: у сем гадоў страціла бацьку і матулю, выхоўвалася ў сваякоў, — тры гады ў матчынага брата, а калі ягоную сям'ю рэпрэсавалі, дзяўчынку апекавала стрыечная сястра Аляксандра. Здатная да вучобы, Алена імкліва і настойліва спасцігала навукі. Пасля сямігодкі ў 1937-м годзе паступіла ў педвучэльню ў Слуцку. Зведала і радасць студэнцтва ў ВНУ — у Рагачоўскім настаўніцкім інстытуце. Скончыла яго ў 1941-м годзе. І тут грымнула вялікая вайна, прыйшоў суровы час крушэння светлых планаў, перспектыў, шчасця кахання, час непараўнальных выпрабаванняў.

У гады цяжкага ваеннага ліхалецця, апынуўшыся ў бежанстве ў Расіі, не цуралася сялянскае працы, пасля ў адным з татарскіх райцэнтраў служыла ў бібліятэцы эвакашпіталя — чытала раненым кнігі, дапамагала пісаць і адпраўляць лісты. Як вольнанаёмная была старшым пісарам вайсковай часці (1942), а яшчэ — загадчыцай бібліятэкі ў шпіталі (1943, Харкаў). Усё гэта дало багаты досвед для стварэння ў будучым узрушальных высокамастацкіх твораў.

У паваенным Менску паступіла на трэці курс філфака БДУ. У беларускую літаратуру ўвайшла ў 1947-м годзе: тады часопіс «Беларусь» апублікаваў аповесць «У прасторах жыцця». Яшчэ лёс яе закінуў у Курск, і толькі ў 1950-м годзе яна, ужо з мужам і дачкою Наташай, вярнулася ў Беларусь, пасялілася ў сталіцы. Тут нараджае сына Валодзю, сямейныя клопаты сумяшчае з працаю загадчыцы аддзела культуры ў рэдакцыі «Работніцы і сялянкі» (1950–1972), у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» (1972–1980) і «Юнацтва» (1980–1983) ды з інтэнсіўнаю творчасцю.



**Алена Васілевіч.** Фота С.Скібінскага

2

Люблю чытаць і перачытваць Алену Васілевіч — элегічную, узнёслую, дасціпна-іранічную, — кожны раз новую і ўсё тую ж самую: трапяткую, удумлівую, духоўна багатую. Мастацкае слова яна надзяляе надзвычайнаю ўладай — яно палоніць і доўга не адпускае. Творца піша такой жывою праменнаю моваю, так шчодра насычае жыццядайнаю энергіяй свае аповесці, апавяданні, эсэ, эцюды, мастацка-крытычныя і публіцыстычныя творы, што іх заўсёды цікава чытаць, якія ні дамінавалі б у тым ці іншым творы пачуцці — мажорныя ці мінорныя — і на што б ні была настроена твая душа: на светлую ўсмешку, каларытны жарт ці на глыбокі роздум.

Чары яе мастацкага слова пачынаюцца з таго, можна сказаць, бездакорнага эстэтычнага густу, які ўсякі раз адбіваецца і праяўляецца на ўсім і ва ўсім. Здаровы густ бачыцца і ў свежасці зместу, і ў арыгінальнасці падачы жыццёвых рэалій — гісторый, характараў, канфліктаў, — і ў мастакоўскім пачуцці меры, а найперш — у саміх найменнях, якія адразу вабяць, заваражваюць, інтрыгуюць. Вось толькі некаторыя з іх: «Пачакай, затрымайся» (тэтралогія), «Адно імгненне» і «Горкі ліпавы мёд» (кнігі выбраных апавяданняў), «Элегія» (зборнік апавяданняў, эцюдаў, эсэ), «Люблю, хвалююся, жыву» — выданне, якое склалі нататкі, эсэ, роздум; «Шолах лебядзінага крыла» — адзін з раздзелаў памянёнага выдання... «Ты пайшоў насустрач вайне», «Марыула», «Галгофа», «Прыношу запозненыя кветкі», «Позні званок», «Рысь», «Вазіў Герынга», «Як я быў доктарам», «Бабуліны кватаранты», «Дзедаў партрэт» — гэта ўжо назвы саміх твораў, як шчымлівых, так і вясёлых.

Чытаеш, учытваешся, зачытваешся — ты шчаслівы, бо вабныя найменні асобных твораў і цэлых зборнікаў не падманулі цябе, не расчаравалі, яны адарылі хваляваннем за чужыя лёсы, драмы, няўдачы, узбагацілі цудоўным дарам сперажывання, далі бліскучыя ўрокі чалавечнасці і зарад стваральнае энергіі.

Ведаю і не дзіўлюся, што да Алены Сямёнаўны імкнуліся карэспандэнты. Неяк патэлефанавалі ёй з аднаго маскоўскага часопіса: «Напішыце пра вашу творчую лабараторыю». І вось знаходжу такую залацінку: «...у сваёй творчай «лабараторыі» я вылучыла б такі высокакаштоўны элемент, як любоў». Арыгінальна сказана, вобразна, мудра! І натуральна, калі ўлічыць, што творы пісьменніцы народжаны менавіта ад яе вялікасці ЛЮБОВІ, пра што б яна ні распавядала свету — пра любага, які пайшоў насустрач вайне, ці пра цыганскую дзяўчынку Марыулу, якой нідзе няма належнага прытулку...

3

Любоў, чуйнасць, пачуццё справядлівасці, здольнасць хвалявацца, захапляцца (і абурацца — таксама) — якасці, без якіх не ўяўляю Алену Сямёнаўну Васілевіч ні ў літаратуры, ні ў жыцці. У ёй бачыцца мне цэльнасць асобы, гарманічнае адзінства пранікнёнай творцы і памяткóй, абаяльнай, інтэлігентнай жанчыны. Калі ў кароткім апавяданні «Вазіў Герынга» я натрапіў на сказ: «Вера такі чалавек, што ў яе сэрца хапае на цэлы свет...», то міжвольна падумаў, што гэтая мімалётная характарыстыка стасуецца з сутнасцю самой пісьменніцы, бо якраз такім — гранічна шчырым і шчодрым — сэрцам яе надзяліла матухна прырода. У кнізе «Люблю, хвалююся — жыву» нераўнадушная да цэлага свету аўтарка ўспамінае аднаго разу, як усхвалявана і захоплена чытаў паэтычную падборку тады яшчэ маладой, пачынаючай Еўдакіі Лось — толькі з газетнае паласы! — Рыгор Бярозкін. «Гэта было шчасце назіраць і чуць, як адзін талент радуецца і цешыцца другім талентам», — піша яна. А мы, чытачы, лёгка пераконваемся ў тым, што і сама яна здольная захапляцца поспехамі іншых.

Працяг на стар. 10 (4) »




# Прэмія «Дэбют»

**Стартаваў новы сезон штогадовай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, якая прысуджаецца ў трох намінацыях: «Проза», «Паэзія» і «Мастацкі пераклад».**

Сёлета ў журы прэміі ўвайшлі Ігар Бабкоў, Міхал Бараноўскі, Павел Бераговіч (фундатар прэміі), Марына Весялуха, Сяргей Дубавец, Марыя Мартысевіч і Усевалад Сцебурака.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна да 31 студзеня 2018 года даслаць заяўку. Дзеля гэтага запаўняецца электронная форма ці пішацца ліст на электронную скрыню info@pen-centre.by ці на паштовы адрас: 220005, Мінск, вул. Залатая Горка, 2-101. Да заяўкі неабходна далучыць электронную версію кнігі, а таксама перадаць на офіс Беларускага ПЭН-цэнтра (Мінск, вул. Залатая Горка, 2-101) два асобнікі кнігі, калі яна выходзіла ў папяровым варыянце.

Да разгляду прымаюцца дэбютныя кнігі, напісаныя на беларускай мове ці перакладзеныя на яе. Узрост аўтара ці перакладчыка — да 35 гадоў на момант выдання.

Пераможца прэміі ў кожнай намінацыі атрымае ўзнагароду, эквівалентную 2000 даляраў ЗША. Таксама журы можа прыняць рашэнне пра ўручэнне заахвочвальных прызоў, эквівалентных 500 далярам. Колькасць заахвочвальных прызоў вызначае журы.

Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ўручаецца з 2011 года. Арганізатары прэміі: Дабрачынны фонд «Вяртанне», Беларускі ПЭН-цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў (СБП).

# Помнік Паэту

**По сталічным адрасе «вуліца Камуністычная, дом 24», пры прадзюсарскім цэнтры Шакуціна — цэнтры маладых творчых талентаў і найноўшай аўдыёстудыі — усталяваная «Скульптурная кампазіцыя, прысвечаная Паэту».**



Так імянуецца яна афіцыйна, а паводле словаў аўтара помніка Уладзіміра Слабодчыкава за прататып узяты малады і рамантычны Уладзімір Караткевіч тых дзён, калі ён скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта і прыехаў жыць і працаваць у Мінск. Падабенства і пазнавальнасць аблічча пацьвердзілі ўжо і сябра паэта, літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша, фотамастак Георгі Ліхтаровіч і многія іншыя творцы (нават рабочыя, якія мантавалі скульптуру на пастамент). Акрамя таго, скульптар са згоды замоўцаў намервaецца падмацаваць выяву і паэтавым аўтографам.

Падобна на тое, што сталічны раён Асмолаўка, што стаіць сёння пад пагрозаю, не згіне. Наадварот, яна — пабагацела: у радыусе двух-трох кварталаў, блізу Тэатра оперы і балету і будынка дзяржаўнага радыё можна пабачыць мемарыяльную шыльду Лесі Украінцы, помнікі Максіму Багдановічу і Тарасу Шаўчэнку, а таксама бюст Тадэвуша Касьцюшкі (на тэрыторыі амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі).

Хтосьці стане касавурыцца: маўляў, гэта не сапраўдны помнік, а толькі гарадская ці так званая садова-паркавая скульптура на паўпрыватнай тэрыторыі. Але хочацца рашуча запярэчыць: хіба не падзея сёння — з'яўленне ў сталіцы хай сабе і досыць камернага помніка Паэту?! Да таго ж адно не адмяняе, не адмаўляе другое. Прыйдзе час і на важкі, велічны манументаднаму з нацыятворцаў.

Таму хочацца спадзявацца, што неўзабаве калегі-літаратары, аматары творчасці Уладзіміра Караткевіча і ўсяго краснага пісьменства, закаханыя, маладзёны, школьнікі і студэнты панясуць кветкі да помніка Паэту. І, мабыць, асабліва шмат ляжа тых кветак у Сусветны дзень пісьменніка 3 сакавіка, у Сусветны дзень паэзіі 20 сакавіка і на дзень нараджэння Уладзіміра Караткевіча 26 лістапада. Гэтаксама хочацца спадзявацца, што народзіцца ў Мінску і новая традыцыя — ушанаваць Паэта будучь прыходзіць і маладыя хаця б з найбліжэйшага Дома шлюбаў па-над Свіслаччу...

**Алеся Сіўчыкава**

# 200-годдзе Таварыства філаматаў

**У Магілёўскай абласной бібліятэцы прайшла літаратурна-музычная вечарына, прымеркаваная да 200-годдзя Таварыства філаматаў.**



У імпрэзе прынялі ўдзел пісьменнік, сябра СБП, кандыдат філалагічных навук, літаратар, выкладчык Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова Віталь Еўмяняькоў і госць з Мінска бард і перакладчык Аляксей Жбанаў.

Віталь Еўмяняькоў распавёў пра жыццё і дзейнасць філаматаў, гісторыю ўзнікнення гэтага тайнага таварыства, якое складалася з лепшых прадстаўнікоў эліты Вялікага Княства Літоўскага, якія ў той час вучыліся ў Віленскім універсітэце.

Аляксей Жбанаў выканаў некалькі песняў, у першую чаргу — напісаных самімі ўдзельнікамі суполкі філаматаў (а сярод іх было нямала паэтаў, напрыклад, адным з актыўных сябраў таварыства быў Адам Міцкевіч).

Некаторыя з песняў разам з Аляксеем праспявалі нават і наведнікі вечарыны.

Арганізавалі вечарыну магілёўская суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны разам з абласной бібліятэкай.

Таварыства філаматаў — тайнае таварыства ў навучальных установах Віленскай вучэбнай акругі. Створана ў 1817 па ініцыятыве групы студэнтаў Віленскага ўніверсітэта (А. Міцкевіча, Т. Зана, Я. Чачота, Ю. Яжоўскага і інш.). Гурток філаматаў ператварыўся ў даволі буйную арганізацыю са шматлікімі філіяламі ў розных раёнах Беларусі.

**Алесь Сабалеўскі. Фота аўтара**

# Памяць пра Алега Лойку

**У Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа ўрачыста адкрылі музейны пакой Алега Лойкі (1931–2008) — доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, пісьменніка, навукоўца і перакладчыка, былога дэкана філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.**




Алег Лойка быў родам са Слоніма. Адсюль ён пачынаў свой шлях у вялікую літаратуру і навуку. А калі пайшоў на пенсію, вярнуўся ў родны горад, дзе і знайшоў свой вечны спачын.

Пры жыцці знакаміты слонімец напісаў і выдаў 101 кнігу вершаў, прозы (эсэ), літаратуразнаўчых артыкулаў, перакладаў, вучэбных дапаможнікаў па гісторыі беларускай літаратуры.

Алег Лойка — найвялікшая асоба не толькі ў маштабах Слонімшчыны, Беларусі, але і Еўропы. Пра гэта ў Слоніме распавядалі дактары філалагічных навук прафесары Вячаслаў Рагойша, Алесь Бельскі, кандыдат філалагічных навук Анатоль Верабей, паэт Зьніч (Алег Бембель), пісьменнік, гісторык і краязнавец Сяргей Чыгрын, паэтка Ірына Войтка, вучні, землякі і сваякі Алега Лойкі.

Родная сястра Алега Лойкі Людміла Клімовіч, а таксама пляменнікі пісьменніка і ўнук падаравалі музею вельмі каштоўныя экспанаты — гэта школьны дзённік Алега Лойкі, начоўкі, у якіх купалі малога Алега, гармонік, куплены ў Слоніме пасля вайны, даваенны фотаапарат, якім фатаграфаваў Алег, універсітэцкія дакументы. Усе яны сталі асновай музея знакамітага слонімца.

Першую экскурсію па музею ажыццявіла супрацоўніца Слонімскай раённай бібліятэкі Юлія Домаш, якая цікава распавядала пра экспазіцыі музея, пра кнігі і аўтографы пісьменніка-земляка.

Шмат кніг, фотаздымкаў і іншых дакументаў падаравалі для музея і бібліятэкі Вячаслаў Рагойша, Алесь Бельскі і Анатоль Верабей. У гэты самы дзень мінскія госці наведалі магілу Алега Лойкі, яго жонкі і цешчы на слонімскіх гарадскіх могілках і ўсклалі кветкі.

Ушанаванне памяці Алега Лойкі аздаблялі песнямі беларускі бард Зміцер Бартосік і былы настаўнік, культсветработнік Мар'ян Медушэўскі. Загадчыца ідэалагічнага аддзела Слонімскага райвыканкама Наталля Юнчыц адзначыла, што ўшанаванне памяці Алега Лойкі — гэта сапраўднае свята. І гэта толькі пачатак. Памяць пра знакамітага слонімца будзе жыць і надалей.

**Ул. інф. Гродзенскага абласнога аддзялення СБП**

# Пад вольным небам Транстромера

**Магілёў стаў трэцім абласным цэнтрам краіны, дзе з поспехам была прэзентаваная кніга «Пад вольным небам» Тумаса Транстромера.**

Беларускія пераклады шведскай «нобелеўскай» паэзіі прывезла ў горад міжнародная каманда: памочнік пасла Каралеўства Швецыя ў Рэспубліцы Беларусь Алеся Літвіноўская, шведскі рэжысёр Лейф Ульсан, паэт Андрэй Хадановіч, перакладчыца Алеся Башарымава, музыка Сяржук Доўгушаў і намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Усевалад Сцебурака.

Першая сустрэча адбылася ў студэнцкім асяродку — у зале Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. А ўвечары імпрэза прайшла ў грамадскім цэнтры «Кола», сабраўшы цікаўных магілёўцаў і сяброў абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў на чале са старшынём Міколам Яцковым.

**Прэс-служба СБП**

# «Правіла, што стаецца выключэннем»

(Пра кнігу Алеся Разанава «Невядомая велічыня: гутаркі, артыкулы, згадкі». — Мінск: Логвінаў, 2017)

**У новай кнізе Алесь Разанаў прагаворвае важныя і важкія рэчы: пра з'яву творчасці, пра шлях і пакліканне, пра досвед працяглага побыту ў замежжы і, вядома ж, — пра прызначэнне паэзіі.**



Завяршаюць кнігу два тэксты, жанр якіх сам аўтар акрэслівае як «герменеўтычныя паэмы»… Гэта — калі пункцірна пра кнігу. Але пра Разанава, хоць эпоха кліпавасці гэтага нібыта й вымагае, нельга подбегам і похапкам. А як можна і як трэба? Часам сам аўтар у сваіх кнігах дае ключы і падказкі.

«Невядомая велічыня» акурат з такіх. Яе можна прылічыць да часткі разанаўскага так бы мовіць тэарэтычнага канону. Падаецца, лейтматывам «Невядомай велічыні» ёсць рэфлексія такога паняцця, як «з'ява творчасці». Так, па вялікім рахунку і зномы перадусім прысвечаныя ёй. Але тое, пра што мажліва выказаць, да прыкладу, у гутарцы-інтэрв'ю, не заўсёды можна выявіць мовай зномаў. І наадварот. Часам гэтыя інтэрв'ю дужа нагадваюць размовы вучня з настаўнікам дзэн. Зрэшты, бывае, і бяруць іх вучні-паэты. Таму пытанне кшталту «Як трэба пісаць?» выглядае тут цалкам натуральным.

Яшчэ адна скразная тэма кнігі — тэма маўчання. Ёсць розніца паміж маўчаннем паэта і нематой. Паэт і ў маўчанні змястоўны. У выпадку з Разанавым гэта не тое маўчанне, якое Cum tacent, clamant. Гэта тое маўчанне, якое можа назапашвацца-акумулявацца гадамі — дзеля мастацкага выбуху…

У «Невядомай велічыні» ў тым ліку і пра гэта — пра пераходы, адыходы (не блытаць з уцёкамі), іх прычыны і наступствы. Фактычна, пасля ад'езду (розныя крыніцы блытаюцца ў гадах яго адліку — двухтысячны ці дзве тысячы першы) у Алеся Разанава і да сёння — не выйшла ніводнае арыгінальнае паэтычнае кнігі па-беларуску, калі не лічыць білінгвы «Гановерскія пункціры», анталогіі (так, выбранага за гэты час выйшла багата: толькі ў выдавецтве «Логвінаў» з два дзясяткі, калі лічыць разам з білінгвамі). Апошняя, «Рэчаіснасць», датуецца 1998-м… Можна казаць, што ў новым тысячагоддзі паэт кардынальна перагледзеў свае погляды на кнігавыданне. Па сутнасці, — замаўчаў як паэт-канцэптуаліст.

Пэўна, шмат каму, па ад'ездзе, падавалася, што Разанаву неістотна, дзе пісаць — на чужыне ці на радзіме. Бо ён сам — месца, сам — асяродак. Але ад'езд для кожнага творцы — выпрабаванне, як для кветкі — перасадка ў іншы грунт. Для кагосьці ад'езд — мажлівасць рэалізаваць задуманае, на якое не ставала часу і цішыні. Для Разанава ж ад'езд стаўся выклікам і пакліканнем — здзейсніцца ў зусім новай творчай іпастасі. Укараніцца ў новую глебу, у новую мову. Але не для таго, каб застацца ў іх, у глебе і ў мове, але — каб адчуць новае. Каб — перамагчы?..

Але было ў творчай біяграфіі Алеся Разанава і маўчанне іншага кшталту. Маўчанне вымушанае. На гэты час таксама праліваецца святло ў разгляданай кнізе. Так, распавядаючы пра гісторыю выдання «Шляху-360» у гутарцы з Міхасём Скоблам, паэт прызнаецца: «Кніга выйшла, але з вялікай затрымкай. Гэта былі гады маёй нематы…»

Адным з галоўных (фірмовых) маркераў творчасці Алеся Разанава — і ўласна паэтычнай, і філасофска-метафізічнай — ёсць стылёвая статычнасць. І, як следства, — пазачасавасць. Вось жа, чытаючы эсэ 80-х гадоў і двухтысячных, цяжка адразу зразумець, калі яны пісаліся, не зазірнуўшы на апошнюю старонку. Падобнаю рысаю валодаюць і эксперыментальна-аўтарскія паэтычныя формы. Да прыкладу — зномы. А назву кнігі акурат і даў адзін з твораў гэтае формы: «Ва ўсякай істоце ўцелясняецца свая мера быцця, якая мера — такая істота, і што ёй нельга, што льга, ведае загадзя і на памяць. Чалавек таксама істота, але напалову. Другою паловай ён невядомая велічыня, і што яму нельга, аб'яўляюць запаведзі, а што льга — Бог».

Ёсць там і такі знэм: «Святасць не выключэнне з правіла, а правіла, што стаецца выключэннем».

З юбілеем, шаноўны майстра! Дзякуем за тое, што Вы ёсць!

**Анатоль Івашчанка**

# Па-за межамі сябе самой

**Назваць — значыць абмежаваць, але не назваць — значыць не вызначыць.**

## 1. Лад жыцця

Паэзія — гэта прачнуцца між лясоў далёка ад людзей, пакарміць ката, які недзе бадзяўся ўсю ноч, і думаць, што сёння будзе шчаслівы дзень. І пра гэта напісаць. Раней гэта выглядала крыху інакш: прачнуцца, залезці на дах «шалашыка» з дровамі, глядзець, як сонца скача па вадзе, і адчуваць, як на цябе сыходзіць паэзія, нешта ірацыянальнае, звязанае з плынямі энергіі сонца і зямлі. Для мяне гэта звязана з вельмі канкрэтным месцам, дзе я адчуваю сябе абароненай продкамі, як бы пафасна гэта ні гучала. (З іншага боку, хай сабе гучыць як хоча, гэтыя рэчы адчуваюцца на клетачным узроўні.)

Хоць гэта не заўсёды і не для ўсіх ёсць вызначальным фактарам. Але здольнасць узняцца над рэчаіснасцю ці абстрагавацца ад яе непасрэдна звязаная з паэзіяй (ці, можа, з уяўленнямі пра паэзію рамантыкаў?).

Паэзія, як інфрачырвоны прамень, прасвечвае тваё жыццё і запускае пэўныя працэсы, іншым разам у самы непрыдатны момант. Галоўнае — не ігнараваць свае думкі ў такія моманты, не адпускаць іх, а нейкім чынам занатоўваць. Усведамляць іх каштоўнасць, прынамсі, для сябе. І перачытваць праз некаторы час.

Раней я ўсе свае вершы ведала на памяць. Цяпер ужо не…

## 2. Спосаб мыслення

Калі свае думкі я падсвядома імкнуся адпаведна аформіць, а яшчэ часцей — калі думка сама афармляецца пэўным чынам, пакідаючы астатнія па-за маёй увагай, мая энергія канцэнтруецца вакол намагання ўсказаць.

Мне заўсёды цікава чытаць (слухаць) крытычныя разборы паэзіі, у якіх вельмі часта аўтарам надаецца свядомая роля ў выбары мастацкіх сродкаў, формы і г.д. Не магу сказаць, што ў мяне гэта адбываецца свядома. Нешта кшталту «сёння я напішу верш адзінаццаціскладовікам пра тое, як падае лісце… не, лепей, чатырохстопным ямбам». Такое толькі ў школе магчымае…

## 3. Камунікацыя з іншасветам

Наконт ірацыянальнасці — усё так. Некалі я для сябе гэта агучыла ў адным з інтэрв'ю, калі на пытанне «Паэзія павінная быць найперш прыемнай ці карыснай?» адказала: «Паэзія — як вера. Дзеля чаго чалавек верыць? Таму, што гэта прыемна? Ці таму, што гэта карысна? Калі вера мае месца з такіх меркаванняў, то чаго тады яна вартая? Так і паэзія». Сама пра гэта забылася, а ў нетрах інтэрнэту мая думка жыве.

Час ад часу паэзію імкнуцца зрабіць карыснай, і гэта ўжо цікава. Але паэзія нікому нічога не павінная. Як і прыгажосць. Хоць, можа, я памыляюся. Паэзія павінная быць сумленнай. Ці аўтар? Ці і тое, і гэтае? Мабыць, так. Сумленнасць паэзіі — у шчырасці імпульсу, сумленнасць аўтара — у тым, каб пайсці за імпульсам і даць яму свабоду. У гэтым і сапраўднасць. Можна быць добрым паэтам і абы-якім чалавекам? Камбінацый можа быць колькі заўгодна, але найчасцей талент адпавядае чалавеку. Хоць усе мы памятаем: «Врёте, подлецы: он мал и мерзок — не так, как вы, — иначе».

Паэзія не павінная быць карыснай у сэнсе ўтылітарным, аднак тады варта спытацца, а ці ёсць ад паэзіі карысць і для каго яна ёсць.

А прыгажосць? Паэзія і прыгажосць — тоесныя? Сучаснае мастацтва адпрэчвае прыгажосць, і паэзія тут не выключэнне. Але злачынства таксама можа быць дасканалым.

## 4. Псіхатэрапія

Сапраўды, дзеля чаго мы пішам? Асабліва калі замілаванне светам даўно мінула. Каб даць волю імпульсу, што ўзнік недзе ў глыбінях свядомасці ці падсвядомасці?

Калі я чытаю кнігу паэзіі, то шукаю ў першую чаргу цікаласнасці. Кніга, якая цікавая з пункту гледжання эстэтыкі, але не насычае мяне думкамі і адчуваннямі, не будзе мне цікавай. Прынамсі, я да яе не вярнуся. Не згаджуся, што няважна, пра што, а важна, як.

Кнігі, якія ўжо ведаю, часта перачытваю, адкрываючы на любой старонцы.

Некаторыя аўтары лічаць, што над вершам нельга працаваць. Але я цяпер абсалютна спакойна магу сказаць, што працую над вершам, бо, па-першае, элементарна бракуе часу, каб скончыць яго за адзін раз, па-другое, я зрабілася жудаснай занудай, чытаю гэтыя вершы і перачытваю. І выпраўляю. Чаго раней амаль ніколі не рабіла (можа, гэта ўплыў працы над перакладамі?).

## 5. Ізноў пра лад жыцця

Учора праглядала артыкулы, напісаныя пра мае кнігі. А. Данільчык літаратурная і рэальная існуюць у розных вымярэннях. Цікава, канечне. Я нават не ўяўляю, што значыць жыць актыўным літаратурным жыццём. То бок існаваць выключна як паэтка. Выключна ў гэтай якасці. Можа, я яшчэ не гатовая да гэтага? Можа, факт успрымання цябе як адной з многіх дазваляе назіраць за паводзінамі людзей, застаючыся незаўважнай?

Пабла Неруда, Мігель Анхель Астурыяс, Актавіё Пас… Пытанне: што яднае гэтых пісьменнікаў, акрамя прыналежнасці да літаратуры Лацінскай Амерыкі? Яны працавалі пасламі. І вось я думаю: якім паслом быў Пабла Неруда? Як паэт упісваецца ў бюракратычную сістэму, вертыкаль, іерархію? Дзе самае галоўнае — падпарадкаванне. Ці гэта магчыма толькі цягам пэўнага часу дзеля назапашвання вопыту? Бо чалавек, які ўвесь час падпарадкоўваецца, рана ці позна страчвае сябе.

З іншага боку, паэт не існуе ў вакууме, то бок можна пісаць выключна аб прыродзе, гэта таксама спосаб існавання ў паэзіі. Баюся, гэта не пра мяне. Зноў жа, тут мы выходзім на пытанне «паэт = інтэлектуал?» Не заўсёды.

## 6. Пра пераклады

Першы штуршок да перакладу паэзіі — Чэзарэ Павэзэ «Verrà la morte e avrà i tuoi occhi…». Захацелася вымавіць гэта па-беларуску, пачуць, як гэта прагучыць па-беларуску. Паэзію можна перакладаць толькі ў тым выпадку, калі верш «адгукаецца» ў тваёй душы, у тваім асабістым вопыце, жыццёвым і мастацкім. Існуе думка, што паэзію нельга перакласці, але мне здаецца, што менавіта пераклад паэзіі ўдасканальвае перакладчыка і яго мову.

Пераклад — магчымасць уважліва прачытаць твор, напісаны на іншай мове. І зрабіць яго прыналежным да сваёй мовы.

## 7. Пра ўзаемадзеянне

Наколькі паэзія павінная падпарадкоўваць нашае жыццё? Хто тут гаспадар — вось гэтая ірацыянальная плынь ці я, homo sapiens? Але наколькі я sapiens? Іншым разам чытаю ўласныя вершы і не магу паверыць, што гэта я напісала…

Назваць — значыць абмежаваць. Але паэзія — заўсёды выхад за межы. Часта нават за ўласныя межы…

А ўрэшце, я неаднаразова спрабавала даць азначэнне паэзіі сродкамі самой паэзіі…

***

*не зважаючы на ўсе сродкі*
*камунікацыі*
*на мноства гукаў*
*што запаўняюць прастору*

*паэзія і толькі паэзія*
*застаецца маім адзіным сродкам*
*зносін са светам*

*бо паэзія —*
*гэта любоў тут і адразу*
*паэзія — гэта тое*
*што не патрабуе адказу*
*паэзія — гэта вада —*
*мёртвая і жывая*
*паэзія — гэта тое*
*што мяне апраўдае*

*сонца заходзіць і неба за ім*
*радком чырвоным палае*

**Аксана Данільчык**

# Жыць — любіць, хвалявацца

« Працяг.
Пачатак на стар. 7 (1)

Створанае застаецца. Цікава, што творца, чыя асноўная стыхія — проза, ніколі не цуралася высокае паэзіі. З любоўю распавядала пра Ніну Мацяш, яе першы зборнічак вершаў, параўноўваючы яе паэтычны дэбют з першаю вясноваю песняй жаўранка. Яна высока цаніла талент Веры Вярбы, вітала прыход у літаратуру Леаніда Галубовіча, з цеплынёю гаварыла пра яго кніжку «Таемнасць агню» і з клопатам пра далейшы лёс. Яе дужа ўзрадавала ў свой час з'яўленне паэзіі Міхася Стральцова, раней вядомага на ніве прозы ды эсэістыкі. З уласцівай ёй спавядальнасцю сказала пра часіны, калі ўзнікае «неадольная патрэба акрапіць уласную сасмяглую душу жывой вадою чужога радка». І вось яны, чужыя, але ж такія зразумелыя, такія блізкія радкі:

*Цень, цень, сініца! Добры дзень!*
*Жывеш? Сваім званочкам чыстым*
*Зімовым ранкам прамяністым*
*І абудзі, і абнадзей!*

«Мне таксама неабходна гэта, — піша Алена Васілевіч, — каб сініца Міхася Стральцова зімовым ранкам з паэтычнымі радкамі прынесла абуджэнне і надзею. Мне неабходна гэта паэзія». Яе акрыляе музыка слова, краса мастацтва. У ліку яе любімых была і засталася Жэня Янішчыц, і калі жыццё паэтэсы трагічна абарвалася, на гэтую цяжкую страту сама адказала вершам.

У вышэй названай кнізе памяткая Алена Васілевіч надрукавала гранічна шчырыя ўспаміны пра Якуба Коласа, Янку Маўра, Івана Мележа, Яна Скрыгана, іншых вядомых пісьменнікаў. Тут жа ёсць і такія палярныя сваім зместам дзве рэчы: «Тварыць словам» і «Разбурэнне словам», асабліва карысныя пачынаючым і маладым літаратарам. У першым выпадку, гаворачы пра аповесць малавядомага Міхася Клебановіча «Іван Аляксеевіч», аўтарка любуецца «феерыяй адценняў у моўным запасе», дынамікай і пластычнай зграбнасцю, а ў другім — вымушана казаць пра непераборлівы густ і эстэтычную глухату, калі вядомы рэцэнзент ці часопісны рэдактар блаславіў у друк слабыя творы вядомых літаратараў... Такая Алена Сямёнаўна — добразычлівая і бескампрамісная, непадкупная.

Пашанцавала мне не адзін год папрацаваць акурат у той рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе яна была загадчыцай. Тую даволі клопатную працу я называю святам. Сёння грэюць душу ўспаміны, іх багата. Нярэдка прыгадваецца, да прыкладу, як ёй удалося пераканаць начальства, што паэту Міхасю Рудкоўскаму, які жыў на перыферыі, трэба падняць мінімальную стаўку аўтарскага ганарару (да ўзроўню «сталічных аўтараў»). Учынак загадчыцы быў справядлівы і чалавечны: вершы М. Рудкоўскага, якія мы выдалі




асобнаю кніжкай, адпавядаюць высокай мастацкай якасці. Выданне зборніка, адрасаванага юнацтву, прынесла аўтару добрую маральную і фінансавую падтрымку ў цяжкі для яго час, калі пасля складанае аперацыі ён страціў здароўе і працу. Дарачы той зборнік з аўтографам, Міхась парываўся мне пацалаваць руку. «Што ты, Міхаська! — сказаў я. — Не я ставіў цябе ў выдавецкі план і не я за цябе змагаўся!..»

Вядома ж, не магу забыць вялікую ласку Алены Сямёнаўны да мяне, грэшнага: як настойліва яна хадайнічала ў Саюзе пісьменнікаў, каб дапамаглі з жыллём (тады я доўгі час пражываў з сям'ёю ў аднапакаёўцы). У выніку ў 1980-м годзе я атрымаў новую кватэру, «...пасяліўся ў мікрараёне сталіцы, каля жаўранкаў і васількоў». Успамінаецца, вядома ж, цудоўны мікраклімат, які заўсёды панаваў у рэдакцыі, а разам з тым — адухоўленае аблічча мілай начальніцы, прыязны позірк яе вачэй, заўсёды маладых, бо яны — люстэрка душы.

**4**

Жыццё чалавека — як знічкі палёт, якое яно ні было б працяглае. Гэта мной не забываецца ніколі. Мо таму я не вельмі рэдкі госць у Васілевічаў — у Алены Сямёнаўны і Уладзіміра Аляксандравіча, вядомага фалькларыста, этнографа, перакладчыка, выдатнага складальніка многіх зборнікаў, акадэмічных выданняў, шэрагу прэстыжных кнігазбораўскіх тамоў, нядаўняга ўніверсітэцкага выкладчыка, які шмат гадоў аддаў навуцы як педагог. Аляксандравіч — так афіцыйна. Для мяне ён — Валодзя, Валодзечка, сябра з юнацкіх гадоў, якому ў свой час прысвячаў і верш, і апавяданне. У гэтай інтэлігентнай і гасціннай кампаніі заўсёды ўтульна і цёпла, ёсць пра што пагаманіць.

...22 снежня 2016 года. У разгары кароткі зімовы дзень.



Кіруюся да знаёмай кватэры знаёмага дома віншаваць Алену Сямёнаўну з дзевяноста чацвёртымі ўгодкамі. Прыязна сустрэў мяне Валодзя. У вітальні дзвюхпакаёўкі «прытуліў» маё паліто, прапанаваў цёплыя, з аўчынкі, тапачкі, а неўзабаве нёс вазу з вадою пад мае ружы. Я прайшоў у святліцу, дзе ўсё — і падлога, і стол, і кніжныя паліцы — святочна ззяла і дзе каля стала сядзела ў калясцы гаспадыня.

Павіншаваў яе, мы пацалаваліся. Была яна ў цёмназялёнай аксамітавай кофце, з-пад якой выглядваў акуратна раскрылены белы каўнерык, аздоблены фабрычнымі ружовымі кветачкамі. Валодзя, як бы просячы прабачэння, сказаў, што адлучыцца хвілінаў на 20 у краму. Мы з Аленай Сямёнаўнай сядзелі поруч, гаманілі. Яна даволі жыва цікавілася маімі справамі, пыталася ў мяне пра жонку, сына, дачку, пра ўнукаў. Я адказваў і стараўся пераводзіць гаворку на іншую хвалю. Пытаўся пра нашых агульных сяброў. Аказалася, перад маім прыходам тэлефанавала Наталля, дачка Івана Антонавіча Брыля, з якой мы працавалі ў адной рэдакцыі. Пра Наташыны навіны я пачуў:

– Разбрыліся Брылі па свеце. Наташын брат Андрэй працуе ў Японіі. А Галін (другой Брылёвай дачкі) сын з жонкай пераехаў у Польшчу.

Я пытаўся пра ўнукаў і праўнукаў Алены Сямёнаўны. У яе тры ўнукі і пяць праўнукаў. Амаль усе яны гэтаксама ў замежжы. Праўнук Дзіма ажно ў Кітаі, выкладае англійскую мову ў інстытуце. У свой час у Бельгіі хлопец авалодаў яшчэ і кітайскаю!.. Паехаў на стажыроўку, там яго ўпадабалі і запрасілі на працу. А я ўспомніў, як некалі ён у дзіцячым садку ў Менску дэкламаваў мой верш. Такім родзічам можна ганарыцца. Шкада, яго не бачыць, не чуе Наталля, ягоная бабуля, яна так нечакана рана памерла!

Нашая гамонка з Аленай Сямёнаўнай раз-пораз перарывалася тэлефоннымі віншаваннямі. Камусьці яна адказвала: «Дзякуй за добрую памяць!», камусьці: «Скажыце што-небудзь іншае...» (мабыць, ёй жадалі даўгалецця). Чарговую сумоўцу назвала: «Марыя Іосіфаўна...» Было зразумела — гэта Карпенка, колішняя кіраўніца калектыву рэдакцыі часопіса «Работніца і сялянка». На пытанне пра яе «былая» скардзілася на высокі ціск. Алена Сямёнаўна ўсміхнулася: «О, ціск — гэта фамільная з'ява!»

Пасля размовы звярнулася да мяне: «Калі я пераходзіла ў «Мастацкую літаратуру», яна паабяцала, што ў любы час магу вярнуцца».

Адбыўся яшчэ кантакт — з В. Кастручыным. «Беларускі Прышвін!» — так шчодра быў ахарактызаваны сябра нашага СБП.

Тым часам вярнуўся з крамы Валодзя, пачаў ставіць на стол піццё, стравы. У кватэру Васілевічаў завітала з кветкамі Зінаіда Пятроўна Зубкова, народная артыстка Беларусі (працуе ў Купалаўскім тэатры), чуйная суседка Васілевічаў. Атрымалася невялічкае застолле.

Дадому вяртаўся я шчаслівы, калі адкінуць класічнае: «На свете счастья нет...»

* * *

Сёлета працягваліся нашыя сустрэчы і тэлефонныя размовы. І вясной, і ўлетку, і дажджлівою восенню. Мяне заўсёды прыемна здзіўляла і здзіўляе бязмежная памяці Алены Васілевіч. Яна не толькі дэкламуе (пры нагодзе) класічныя вершы, а й памятае ўсялякія гісторыі, розныя (у тым ліку і даўнія) размовы, цікавіцца тым адметным, што адбываецца на культурным полі і што з'яўляецца ў часопісе «Дзеяслоў» ды ў «Літаратурнай Беларусі» газеты «Новы час» і «Народнай волі». Памятаю, калі ў «Дзеяслове» надрукавалі мае пераклады вершаў В. Сасюры з прадмоваю, яна ўхваліла публікацыю. Чытаў сын. Яна слухала і, як сказала, «крыху сама поўзала вачыма па радках». На вялікі жаль, вельмі пагоршыўся зрок. З гэтым цяжка змірыцца. І дагэтуль можна знайсці чытво на «ўгалоўнай» (блізка ля галавы) тумбачцы, каля ложка, на якім яна начуе і пераважна днюе.

Дваццаць другога верасня я вяртаўся з Аксакаўшчыны, куды адвёз жонку на рэабілітацыю пасля інсульту. Па дарозе дамоў заехаў да Васілевічаў, каб уручыць сябру новы зборнік вершаў «Замова ад рабства». Калі мы павіталіся з Валодзем, ён паніншаваў мяне з выхадам кніжкі, але не ўзяў яе, а паказаў рукою на дзверы пакоя, дзе адпачывала маці. Як заўсёды, я прыязна быў сустрэты. Гэтым разам размаўлялі пераважна пра здароўе, а больш дакладна — пра нездароўе. Спачатку я адказваў на пытанні пра самаадчуванне жонкі. Пасля Алена Сямёнаўна распавядала пра аперацыю ў 88 гадоў, пераўжытую пасля цяжкае траўмы шыйкі бядра. Хваліла хірурга. Падпісала яму сваё кнігазбораўскае выданне выбраных твораў. Праз пяць гадоў здарылася новая бяда. Ішла падрыхтоўка да аперацыі, але яе ўжо не адважыліся рабіць.

Я паказаў Алене Сямёнаўне сваю кніжку і, перш чым уручыць ёй, прачытаў тры вершы: «Класік Гарэцкі», «Душа мастака» і «Да залатога юбілею».

Пасля трэцяга, інтымнага верша яна сказала: «Мне ніхто нічога падобнага ніколі не сказаў»...

Перад развітаннем я ў сваіх далонях трымаў яе запаволеныя рукі, глядзеў у вочы за нейкімі тоўстымі шкельцамі акуляраў, услухоўваўся ў паволны голас. А ў памяці маёй паўставалі хуткія рухі яе руплівых рук, у светлакарых вачах свяціўся нерастрачаны агонь, чуўся жвавы, з вясёла-жыццядайнымі ноткамі голас...

Не змяніўся толькі акцэнт слыннае пісьменніцы, колішняе случчанкі: «Усяго добрага!», «Усяго найлепшага!»

**Васіль Жуковіч**

# Каляда



Андрэй СЦЕПАНЮК

### Лета 2017

*Я — затрыманы час*
*стаю на ростанях дарог*
*побач з запацелай фігурай*
*вясковага Хрыста*

*Жоўтыя лугі напамінаюць*
*што лета ўжо на ўзвышшы*
*свайго існавання*

*Чырвоныя ад працы*
*маладыя ў сваёй старасці*
*жанчыны і мужчыны жнуць*
*звар'яцелае ад жары жыта*

*У маіх вачах заціхаюць колеры*
*а фарбы ткуць сваю*
*зялёную нітку*
*вяртання*

*Сонца баліць*

### Каляда

*Анёлы шчыра радасці шукаюць*
*па свеце Божым тысячы гадоў*
*блукаюць*
*Каляда*

*У хату з холадам шуганула ёлка*
*пах свой зялёна-цьмяны*
*развяла вясёлкай*
*Каляда*

*І так ад цёмнай поўначы да ранку*
*чакаю я што бліскавіцай з ганку*
*успомніцца дзіцячая*
*Каляда*

### Вясёлы вершык, альбо вавёркі, коцік і сабака

*Вавёрка выбіла зубы*
*сваёй сяброўцы*
*Сяброўка з роспачы*
*павесілася на вяроўцы*
*Коцік зубкамі вяроўку пакусаў*
*А сабака яго з'еў і сказаў гаў*

*Гэты вершык надзвычай вясёлы*
*Вывучаць яго павінны ўсе школы*
*Таму што жыццё не існуе*
*без смерці*
*А калі хтосьці гаворыць*
*па-другому*
*дык яму не верце*

### Валі — жонцы

*Ад мяне да цябе*
*дарога недалёкая*
*Прыйшла такая пара*
*калі трэба маўчаць*
*Пацiснуць моцна вусны*
*і не сказаць нічога*

*У адценнях дня позірк часу*
*адкрывае глыбіню праўды*

*Прабач за сон*
*і трымценне рук*
*Прабач за чорныя колеры*
*і паездкі без мэты*

*Калі заўтра жоўты квадрат*
*асвеціць сонца*
*споўніцца таямніца*
*нашай будучыні*

*Будзем ведаць*

* * *

*Мая адзінота як твае пісьмы*
*Нечаканыя і кароткія*

*У двух словах ад пачатку*
*да канца*
*Засмакаваны змест*

*Дзеля зразумення не трэба*
*нікуды ісці*
*Каб потым не вяртацца*

*Усё запісанае і забытае*
*У тры дні адзіноты*

### Малітва

*А калі ўжо мяне не будзе*
*застанецца твая чароўная*




*ўсмешка*
*і апошняя дарога*
*ў нескладанасць забыцця*

*Попел і кранальны боль*
*недахопу і неспаўнення*

*Апошні верш з незразумелымі*
*вуснам словамі*
*і хвіліна задумы*

*Так будзе*
*так мае быць*

*Абяцаў мне гэта Бог-Чалавек*
*які ўсё прадбачыў сваім целам*
*і сваёй думкай*
*Ён мне гэта абяцаў*

# Быў дзень...



Алесь КАМОЦКІ

* * *

*Ад імгненняў да вечнасці*
*карацеюць шляхі,*
*На аскепках адметнасці*
*не губляецца сутнасць,*
*І далёка не сэнс робіць*
*веру магутнай —*
*Ён адно што —*
*тлумачыць былыя грахі.*

*Развітайся з жаданнямі*
*запаволіць хаду,*
*Не разлічвай на даўняе*
*і прывычнае глупства,*
*Хай цябе не хвалююць*
*ні плён, ні наступствы,*
*Думай болей пра шлях,*
*пакуль ногі ідуць.*

* * *

*Празрыстыя людзі паўсюдна*
*шчыруюць,*
*Сляды пакідаюць наўкол —*
*Іх вочы убачаць, іх вушы пачуюць.*
*Іх рукі абернуць на дол.*

*Празрыстыя людзі празрыстыя словы*
*Празрыста выказваюць спрэс.*
*Бянтэжыць разумных, але беспантовых*
*Нягеглы вербальны працэс.*

*Схаваўшы ад іншых сваё,*
*Празрыстыя людзі чужому не вераць,*
*Празрыстыя людзі пладзяцца без меры.*

* * *

*Адной рукой кіруючы няспынна,*
*Другою правяраючы кішэні,*
*Рабіла з мяне гопніка краіна,*
*Душа ж хацела іншага рашэння.*

*Свядомасці куды было падзецца? —*
*Налева крок, направа крок — і багна.*
*Мудрэй за ўсё — не ісці, а адсядзецца,*
*Адно — душа ўгару сарвацца прагне.*

*Забыць, што варта быць самім сабою,*
*Утульна, як паспаць пасля абеда.*
*Ёсць праца ад запоя да запоя,*
*І ёсць магчымасць Турцыю наведаць.*

*Чаму не жыць пры гэтакім раскладзе,*
*Не горш за іншых, без праблем істотных,*
*І напляваць на сум у лістападзе,*
*І разлюбіць гаючую самоту.*

*Аддаць краіне ўсе даўгі нарэшце,*
*Якія нам яна напрызначала,*
*І апынуцца ў тым самым месцы,*
*Якога ў аб'ёме вельмі мала.*

*Ні ўдоўж, ні ўшыркі, ні назад, ні ўперад.*
*Сядзець і для турбот не мець прычыны.*
*Каб шчасце я спазнаў такою мерай,*
*Рабіла з мяне гопніка краіна.*

* * *

*Пра дзень, які так хочацца забыць*
*Ці варта думаць, сніць, спяваць і помніць?*
*Якая розніца — ён белы быў ці чорны,*
*Той дзень, які так хочацца забыць.*

*Быў дзень, якога памятаць не след,*
*Былі там людзі, што не мелі сілы,*
*Былі і тыя, што яго рабілі.*
*Я бачыў тых, каго яны любілі*
*У дзень, якога памятаць не след.*

*Той дзень, які не варта ўспамінаць*
*Забраў сабе і сподзевы, і мары,*
*І лоўка так зрабіў куты з абшараў,*
*Той дзень, які не варта ўспамінаць.*

*Быў дзень, які не трэба паўтараць,*
*Была вайна замест адэквата,*
*Не кожны верыў у яе пачатак.*
*Я ж помню, як згарэла мая хата*
*У дзень, які не трэба паўтараць.*

### Перасьпевы

***Gortoz a Ran — J'attends***
***(Denez Prigent)***

*Цяпер гады, даўней вякі —*
*У шэрай вежы сіні цень,*
*У вежы шэрай сіні цень.*

*Насупраць дождж сцяной сівой*
*Наўсцяж кладзе сляды вады,*
*Кладзе наўсцяж сляды вады.*

*Хто можа даць мне пошук*
*Былой мары пра неба?*

*Вятры лятуць з далечыні*
*Ламаць сцяну адвечных хмар,*
*Каб даць мне волю*
*і абшар*
*да лёсу ціха спрычыніць.*

*Хто хоча даць мне волю*
*ісці шляхам зваротным?*
*Ён ужо тут.*
*Ён можа даць мне пошук*
*былое веры, даўнейшае за сны*
*У небе.*

*Цяпер гады, пасля вякі*
*Дажджы ліюць сляды вады,*
*Вяртанне п'е сляды вады —*
*Гады — вякі — вякі — гады.*

* * *

*Звычайна ўсё да смешнага звычайна,*
*Быў наш разлад не горш,*
*чым у каго,*
*Чарговы дзень мінае*
*хмурай тайнай,*
*Цяпла бракуе, дагарэў агонь.*

*Лятуць гады. Не малады,*
*Даю натомленаму сэрцу адпачыць.*
*І сярод мар цябе няма,*
*Шукаць сустрэчы ўжо*
*не знойдзецца прычын.*

*Дні карацей, а ночы падаўжэлі,*
*На галаве маёй пануе сівізна.*
*І што пытаць — ці так мы жыць хацелі,*
*Прасцей маўчаць,*
*прасцей не ўспамінаць.*

*Я праз гады, не малады,*
*Даю натомленаму сэрцу адпачыць.*
*І сярод мар цябе няма,*
*Шукаць сустрэчы ўжо*
*не знойдзецца прычын.*

# Ноч светлая

Мікалай ЯЗЫКАЎ

*Ноч не спіць, над ракой*
*Поўня шырыць прастор,*
*Чыстым срэбрам звініць*
*Хваля цемры ў дакор.*
*Лес заціх, цень галін*
*Тоіць рэшткі агней,*
*Звонкіх песень сваіх*
*Не пяе салавей.*

*Расцвілі ў снах нябёс*
*Кветкі новай вясны,*
*Мроі ў сэрцы ізноў*
*Абудзілі яны,*
*Светлым імем тваім*
*Я пярэчу журбе,*
*Ты, пяшчота мая,*
*Сумна мне без цябе.*

*Ноч не спіць, над ракой*
*Поўня шырыць прастор,*
*Чыстым срэбрам звініць*
*Хваля цемры ў дакор.*
*Гэтай ноччу і ў сне,*
*У чужой старане*
*Ты, пяшчота мая,*
*Ўспамінай пра мяне.*

# Маланабздзейкаўскія



Віктар ШАЛКЕВІЧ

**Дзеянні майго новага рамана, урыўкі якога прапаную «Літаратурнай Беларусі», разгортваюцца ад XVI стагоддзя да XXI. У ім перакрыжоўваюцца лёсы апошняга з Ягелонаў і пастуха Майсейкі, дырыжора Герберта фон Караяна і войта Тадэвуша Радошкі... Словам, раман будзе вялікі і эпапейны, а перад усім — нягнойны і няглебавы, хоць пра калгасы і раллю там таксама будзе. Пішу, бо хочацца парадаваць сябе і ўсіх сваіх патэнцыйных чытачоў...**

**Аўтар**

Дзве даволі прыкметныя рэчы заслужылі на ўвагу грамадства, і не толькі тутэйшага, а нават неяк бокам сусветнае зачапілі!

Дастаткова вядомы ў пэўных навуковых колах спрытны прайдзісвет, індывід з характэрным прозвішчам Шапіра абараніў на мове Корбана і Крапівы доктарскую дысертацыю па тэме «Перакваліфікацыя свіней з трэфных у кашэрныя на прыкладзе сяраднестатыстычнага мясакамбіната ў аграмястэчку Квасоўка».

Дысертацыя маланкай грымнула ва Усходняй, Сярэдняй і Заходняй Еўропе і рэхам азвалася па Блізкім Усходзе: праплачаныя тым жа Шапірам колькісь там неблагіх левых еўрафілосафаў ды вучоных мадэрністых-талмудыстых распачалі адкрытую публічную дыскусію пра магчымасць спынення дыскрымінацыі гэтых сімпатычных жывёлінаў і прызнання свінні кашэрнаю істотаю; адбыліся нават па Берлінах, Гаагах і Тэль-Авівах дэманстрацыі старазаконных, у асноўным эмігрантаў з былога СССР, якія неслі плакаты з надпісамі «Свинине — да! Терроризму — нет! Крым — таки наш! Свободу Сидорчику!»; і ўжо некаторыя старшыні тутэйшых дзяржаўных свінакомплексаў далоні пачалі паціраць, уяўляючы маштабы і магчымасці экспарту сваёй прадукцыі ў вялікі юдаістычны свет!

Але ўпартыя нью-ёркскія ды ерусалімскія равіны рашуча і катэгарычна адмовіліся прысвойваць нашым Хрушкам званне кашэрных — ніхто не збіраўся браць на сябе адказнасць рэвізаваць і перапісваць Тору і Талмуд!

Справа заглохла... Усё засталося як было!

І, другая, больш унутранаўжывальная справа, хоць таксама сусветнымі медыямі заўважаная: у сталіцы патрыятычна афарбаваныя дзеячы, памяркоўных поглядаў паэты, пісьменнікі, музыкі, мастакі ды народныя майстры дабіліся-такі ад гарадскіх уладаў дазволу і ўтварылі сабе першае і адзінае ў свеце беларускамоўнае гета, матывуючы гэты чын гарачым жаданнем ратавання другой у Еўропе па мяккасці і мілагучнасці мовы.

Зрабілася ж гэта так!

Тэрмінова, на працягу дваццаці чатырох гадзінаў, з акрэсленых цэнтральных вуліцаў былі выселены з даплатаю на ўскраіны, у Малінаўкі і на Каменныя Горкі, усе непасуючыя да моманту жыхары, у тым ліку пенсіянеры і ветэраны, а ў іх кватэры ўехалі вядомыя па ўсёй Бацькаўшчыне дзеячы нацыянальнае культуры са спецыяльнага спісу, зацверджанага, ні больш ні менш, Міністэрствам Унутраных Спраў. Былі там, між іншымі, і праправўнукі Казіміра Севярыянавіча Малевіча, і пару апантаных вешчуноў — прарокаў з-пад Ракава родам, і ўнукі камунапартыйных дзеячоў, якіх бацькі і дзяды настойліва вучылі калісь роднай мове, нібы такі момант прадбачваючы, а замыкалі спіс стрыечныя пляменнікі Уга Чавеса з жонкамі і дзецьмі.

Дабыткам і адзенне перавозіліся таксама адразу адмысловымі добраахвотнымі брыгадамі, мерапрыемства прайшло арганізавана і без эксцэсаў!

Уся тэрыторыя гета, перакрытая звонку каванымі жалезнымі брамамі з нацыянальным арнаментам і сімволікай, знаходзілася ў межах Праспекта Незалежнасці ад Паштамта да вуліцы Энгельса, потым па Энгельса ўніз — і направа — да Свярдлова, да Кірава — і ўверх да Паштамта!

Такі вось прыемны, роднамілы сэрцу чатырохкутнік! Навасёлы цеплілі надзею арганізаваць у гета нешта сярэднее паміж запаведнікам роднае мовы, горадам майстроў, сельгасхарчгандлем і раённым аддзелам культуры — каб туды штодзённа завозілася як мага найболей нябедных турыстаў, а для іх там рэгулярна ладзіліся нейкія нацыянальна арыентаваныя, шчымлiва-паэтычныя імпрэзы; славянскія базары, пастаўскія гармонікі, спеўныя сходы, мовы-на-нова, дажынкі, вышыванкі і народныя альбомы, прысвечаныя сінявокай Бацькаўшчыне, каб майстры майстравалі, каб паэты чыталі, каб крамы і рэстарацыі гандлявалі, а наведвальнікі слухалі, пушчалі сліну, слязіну, пілі, гулялі і куплялі...

Зусім дрэнна, аказалася, было з творцамі, але яшчэ горш зрабілася з наведвальнікамі! Ніхто ні з Еўропы, ані з Амерыкі не кваліўся прыязджаць у гэтую добраахвотную рэзервацыю, каб набыць сабе гліняную папяльнічку з гербам места Барысава ці ляльку з зкалагічна чыстае саломкі ды, афуяршы шклянку «Касарылаўкі», паслухаць чарговага тутэйшага паэта-самародка ў зрэбіне ды лапцях, які поўзаў з ранку, добра ўжо нарумзаўшыся, і мармытаў пад нос толькі сабе аднаму зразумелыя рыфмаваныя радкі. Справы слаба ішлі, да таго ж нейкім чынам выродзілася, засохла інтымна-лірычная бруя ў паэтычным таварыстве — рыфмаплёты ўсё больш заклікалі да змагання, да барацьбы няведама з кім, ці да вяртання на вёску, пад саламяныя стрэхі і на некратаныя загоны, а на кветкі-пацалункі, розныя мілыя і адпаведныя моманту мяшчанскія глупствы і пачуцці ў іх слоў папросту не знаходзілася...

Так што з гетам нічога талковага не выйшла...

А ўжо пра астатніх інтэлектуальных саматужнікаў, якія не спадобіліся дамагчыся ганаровага звання гетанасельнікаў, пісьменнікаў там, мысляроў, гаварыць не было чаго!!!

Пісьменнікі парабіліся такімі гадкімі і пачалі пісаць такія дрэнныя кнігі, адну агіднейшую за другую, што іх увогуле людзі пераcталі купляць і чытаць, і пісьменнікі паціху павыміралі, у асноўным галоднаю смерцю.

Філосафы тутэйшыя, замест таго, каб крышталізаваць і квінтэсэнцыю нацыянальную ідэю, выхоўваць грамадства і пратоптваць яму маральныя сцежкі ў будучыню, узяліся палемізаваць між сабою, як правільна будзе гучаць назва месца, куды Жыгімонт Другі Аўгуст з Барбарай Радзівіл пехатою хадзілі: сральня, прыбіральня, срач, туалет ці выходак, і гэтаю дыскусіяй, што доўжылася гады з тры, проста назаўсёды адвярнулі ад сябе ім хоць колькі спачуваючых людзей.

Філосафы таксама павымiралі галоднаю смерцяю...

Тое самае потым сталася з мовазнаўцамі, незалежнымі гісторыкамі, апазіцыйнымі палітыкамі і сябрамі нешматлікіх вузкапрафесійных недзяржаўных асацыяцыяў ды аб'яднанняў — пераcталі дапамагаць ім з Захаду, то яны, праеўшы ўсё назапашанае і з'ашчаджанае, паціху адзін за адным далі дуба...

А з журналістымі дык увогуле небывалы смех адбыўся: журналістых пачалі аднаго дня раптам адстрэльваць невядома за што, прычым не самых горшых, а такіх крышку лепшых, адразу трох ці нават чатырох палажылі, а потым, праўда, пераcталі...

Відаць, кілеры былі нетутэйшыя ці хворыя на тапаграфічны крэтынізм, дык пераблыталі нашую краіну з нейкай іншай, але ачомкаліся кілеры ўпору і паехалі сабе пастрэльваць туды, у каго трэба было...

На што нехта з дасціпных трапна заўважыў, што лепш бы яны павыстрэльвалі дрэнных журналістых — толку зрабілася б больш!

А ўжо сярэдняга і падлогавага ўзроўню творчая і тэхнічная «цілігенцыя» так званая зусім змарнела — ніколі тут ніхто з іх не адзначаўся зацятасцю ці адданасцю справе шчыравання на нацыянальнай ніве, нястомнаму сейбіцтву, штохвілiннаму аратайству, а ўжо ў апошнія часы — няма аб чым гаварыць: усе цілігенты думалі і дбалі выключна аб уласным страўніку і чхаць на ўсё і ўсіх хацелі!

Нядобра ўсё выглядала...

Адно з розумам захаваліся ў гэтай калатнечы кіраўнікі грамадскіх арганізацыяў.

Неяк яны разам, супольна, селі ды, падумаўшы, напісалі заяўку заходнім спонсарам на вялікі, на восем зялёных нулёў памерам, грант на развіццё розных пільных грамадскіх патрэбаў, і так гэтая заяўка ўдала была напісаная, весела, граматна дый перакананча, што і Джордж Трэці Сорас-унук, і Біл Другі Гейтс-сын, пусціўшы скупую мужчынскую сьлязу, паверылі і далі столькі, колькі дзеячы-барацьбіты прасілі.

Барацьбіты ж, атрымаўшы грошы на рахунак, адразу, перад тым дамовіўшыся, перакінулі па электронных дратах усю суму вечна безграшоваму, жабрацкаму грэцкаму ўраду, а ўзамен атрымалі сабе на 99 гадоў у арэнду (з правам выкупу, як міне тэрмін арэнды, за сто еўра) усю выспу Гаўдас, што ляжыць паблізу 24 мерыдыяну. Ну ці не малойцы?

Спаваздачу яны грантадаўцам напісалі — будзь здароў, ляпечка была, а не справаздача! Не падкапацца. І, праз год-другі, з сем'ямі, з сябрамі, з блізкімі і далёкімі сваякамі паляцелі паціху чартэрамі з аэрапорта Менск-2 асвойвацца з новым шыкоўным жыццём!

Не горшымі па ўзроўні выназходнівасці былі ад гэтых барацьбітоў іншыя барацьбіты — працаўнікі Радыё «Свабода»!

Здэцца, хто-хто, а яны дык павінныя былі першым наступальным шэрагам ісці, улічваючы, што за мазольную працу атрымоўвалі і ў якой валюце, за кожнадзённыя пошукі бруду і твані на чыстым тулаве Айчыны-Маці?

Гэтыя больш дбалі не аб спрацаваных аграсялянах і пралетарах, пакрыўджаных прадпрымальніках і цілігентах, а пра геяў, лесбіяк і рознакалеровых з падваротняў. А адзін са «свабодаўцаў», адказны за асвятленне жыцця ў закінутых вёсках і малых мястэчках, дык увогуле за сталічныя рагаткі з год не выязджаў — збіраў у сябе на кватэры колькі там ахвочых да гарэлкі акцёраў лялечнага тэатра, наліваў ім, а тыя, перакрыўліваючы і падрабляючы галасы, начытвалі яму на дыктафон нейкія нібы людскія гаворкі і развагі, а ён потым дадаваў свой каментар, мантаваў гэтую лухту і пушчаў у эфір. Справа выкрылася, пакрыўджаныя людзі паасобку і дэлегацыямі спрабавалі дастукацца да ягонага «свабодаўскага» начальства, і тут, у Менску, і нават езгдакі езгдзілі стукацца да Прагі дый Вашынгтона...

Начальства людзей прыняло, выслухала, паківала галовамі, паабяцала разабрацца і пакараць, але час прайшоў — і нічога не памянялася, відаць, мясцовыя ачольнікі думалі, што справа паціху засохне і здохне.

Але начальству па той бок акіяна гэта даволі такі апрыкрыла і збрыдла!

Пра падобныя штучкі даўно ўжо яму было ў вушы ўкладзена, бо неўзабаве сабралася пад Кліўлендам, на віле доктара Сяргея Раканюка, так званае сусветнае спонсарскае закуліссе, паслухала пару справаздачаў за замкнёнымі дзвярыма, параілася і зрабіла такім чынам: усе, так бы мовіць, незалежныя папяровыя ды інтэрнэтныя выданні, пратэстныя, праваабарончыя, іншадумныя, ЛГБТ-эшныя і ім падобныя апазіцыйныя сайты, народныя волі, іхнія нівы, рацыірадзівы, старонкі і «жывыя журналы» былі аб'яднаныя і злітыя ў адно цэлае, так бы мовіць, вядро, а зайцы ў гэтае цэлае і панурыцца ў ім можна было ў сеціве па адзіным адрасе...

Валілася ўсё ў краіне і марнела, палі калгасныя ніхто ўжо не засейваў, не было каму і чым, па іх ганяліся адно спрытныя ненажэрныя зайцы, маладыя лані, здзічэлыя каты і сабакі, люд ці хаваўся па яшчэ пакуль неразграбленых лецішчах, ахаронваючы засаджаныя кволымі бульбаю з буракамі ды цыбуляю шэсць сотак, ці спешна ўцякаў з малых паселішчаў у блізкія большыя гарады, дзе скопам нібы лягчэй было, выгортваючы па сметніках бутэлькі, іржавае жалезіва і макулатуру, перагрываць зіму; дарогі ашчэрваліся выбаінамі і калдобінамі, а калісьці ж гэтымі дарогамі можна было ганарыцца.

І такі страх тады запанаваў на абшарах ад Чорнае Ганьчы да Бесядзі, такі разбой, беспраўе і безгалоўе, што многія старыя людзі, якія яшчэ памяталі, як іхнім бацькам-настаўнікам пры пачатках нацыянальнай дэмакратыі даплочвалі за выкладанне на роднай мове ў школах дваццаць адсоткаў да асноўнай палучкі, круцілі галовамі ды прызнаваліся людзям добра ад сябе маладзейшым, што хіба так цёмна і горка нават за нямецкім акупантам не жылося! Інфляцыі не ўтаймаваць было, і што кожныя пяць гадоў урад вымушаны быў знішчаць старыя, а друкаваць новыя грошы, бо на старых банкнотах не змяшчаліся шматлікія стотысячныя і мільённыя нулі.

Знайшліся аднак ацалелыя, добра ўжо моляю трачаныя, даволі ўжо ў тым не менш яшчэ разумныя грамадскія дзеячы, аўтарытэты старой даты, дый недабітыя моладзевыя нацыянал-актывісты, каторыя пачалі агітаваць народ за тое, каб той больш нікога з верхняе ўлады не слухаў, а са свайго ўласнага ўлоння высоўваў кандыдатаў у прэзыдэнты і за яго галасаваў! Народ нават неяк спярша загарэўся, як куль саломы, распаліўся, дзеячам-актывістам нібы паверыў, выйшаў пару разоў з арматурынамі ды газавымі ключамі на плошчы, перакрыў галоўныя транспартныя магістралі, пабіў трохі вокнаў, перакуліў пару машынаў, папалохаў і без таго разгубленае начальства, разагнаў да чорту дрыслівы АМАП, а тым часам на Захадзе і спонсары знайшліся, а ў спонсараў — сякія-такія гро-

# гістарычныя хронікі

шыкі, але не вельмі вялікія, на прэзідэнцкія выбары, — і пачалася перадвыбарчая кампанія...

Божа, якой брыдоты толькі не насунулася ў кандыдаты — і з левага, і з правага бакоў, а ўжо прозвішчы якія адметныя асобіны гэтыя мелі: ад левых — Тацццяна Клізменная, ад камуністаў — Яраслаў Мачапалаў, ад грамадскага аб'яднання «Рыма-каталіцкіх казакаў» — палкоўнік міліцыі ў адстаўцы Зыгмунт Баляслававіч Вантрабёнак, ад сацыял-дэмакратаў — Йен Пірлхарбар Аргазмюк — амерыканец-мільянер паляшуцкага, з-пад Жабінкі, паходжання, быў нават кандыдат ад ліберальных дэмакратаў Халакост Генацыдавіч Гарналыжных — як з такімі ў пашпарце запісанымі дадзенымі яго зямля насіла?!!

Ездзіў па краіне на бел-чырвона-белым ровары з партрэтамі Купалы, Коласа ды Дуніна-Марцінкевіча на плячах, цытаваў па памяці «Мужыцкую праўду» і агітаваў сам за сябе праўнук кандыдата нейкіх ці то не філалагічных навукаў, ці то Манушкевіч, ці то Самагонаганевіч, потым, казалі, дзесь прыстаў у пэўнай вёсцы да багатае ўдавы, памеркаваў.. ды захвоціўся, зрокся кандыдацтва...

Спрабавала была збіраць подпісы, каб дабіцца да прэзідэнцтва, кабеціна па прозвішчы Каламбіна Майсееўна Худаё#іна, але тут нават самыя памяркоўныя і рахманыя людзі, за падтрымку каторых яна змагалася, не ўтрывалі і сказалі ёй: «Дзевачка наша харошая, заступніца ты нашая, за такое імя і прозвішча галасы аддаваць мы не збіраемася, ці мяняй яго, ці рабі, што хочаш!!!». І яна ціха знікла...

Народ падыходзіў да перадвыбарчых плакатаў, глядзеў на прыгожыя фотаздымкі, чытаў неверагодна цікавыя біяграфіі і навукова-фантастычныя праграмы, не верыў, адчайна пляваўся слінаю, тут жа скідваўся на пляшку таннага віна, купляў ды ішоў у кусты яе спажываць... Прыстойнага кандыдата не знайшлося аніводнага!

Адбыліся і гэтыя выбары, толькі нікога на іх не выбралі, бо, праўду кажучы, і выбіраць з каго не было, хоць чалавек з дваццаць намерваліся вывесці краіну з багны і павесці да светлае будучыні, і панаехала з Усходу ды з Захаду розных ім памагатых, экспертаў, піяршчыкаў, троляў, смаўжоў і саламандраў ад палітычнае рэкламы. А людзі ўсё роўна галасаваць не пайшлі, пазачыняліся ў хатах і сядзелі там як мышы, а журналістыя напісалі, што краіна ў дзень выбараў больш ім нагадвала закінутыя жыдоўскія могілкі пад Воўпаю...

Як пад канец дня не хадзілі па кватэрах, не валілі ў зачыненыя дзверы друччакамі і не загадвалі ісці галасаваць міліцыянты і амапаўцы, як не ўгаворвалі людзей праз шчыліны ад ключа сябры выбарчых камісіяў — за цэлы дзень ніхто так галасаваць і не прыйшоў, каб на іх ясная халера напала! Ніхто і нідзе!!!

І аніякія эксперты, мудрацы і міліярдэры, не маглі нічога ні з



**Народ падыходзіў да перадвыбарчых плакатаў, глядзеў на прыгожыя фотаздымкі, чытаў неверагодна цікавыя біяграфіі і навукова-фантастычныя праграмы, не верыў, адчайна пляваўся слінаю, тут жа скідваўся на пляшку таннага віна, купляў ды ішоў у кусты яе спажываць...**

краінаю зрабіць, ні ўраду параду даць, бо што ні парадзяць — усё здзеецца наадварот, колькі мільярдаў крэдыту ў эканоміку не ўкінь — гэныя мільярды на наступны дзень гінуць невядома дзе, каго прэм'ер-міністрам не пастаў — нібы чэсны і нармальны чалавек звонку — праз тыдзень ужо такое боўдзіла і апарыш —горшага ў свеце не знойдзеш!!!

Ну і тады ўжо адзін вельмі шанаваны журналіст з мясцовых, сталічных, масон ды ізраіліт з паходжання, рэдактар найстарэйшай у рэспубліцы газеты, быўшы у асаблівых зносінах са Старшынём ПНП, прыйшоў да яго дахаты ўвечары з пляшкаю бакштанскай самагонкі і правёў вельмі сур'ёзную размову...

Справа была такая, што жонка рэдактара нядаўна цудоўным чынам пазбылася аднае не вельмі зручнае жаночае хваробы, а вылекаваў яе, хваробу, спрытны чалавек-знахар, таму рэдактар і запрапанаваў старшыні Палаты нацыянальных прадстаўнікоў звярнуцца па раду да дзеда з Кірпічоўшчыны...

Была такая вёска за мястэчкам Азёры, як ехаць гарадзенскім шляхам у віленскім накірунку, і жыў там на ўсю ваколіцу слынны дзед, варажбіт і вядун, можа ў пятым ці шостым пакаленні, які зашэптваў амаль усе немачы, вяртаў мужой да жонак, знаходзіў скрадзеных ці зніклых коней ды авечак, разблытваў складаныя сямейныя пытанні, прадказваў будучыню, даваў мудрыя парады — і з гэтага жыў.

Выбралася дэлегацыя парламентарыяў чалавек з сорак, і інкогніта, на «мэрсэдэсах» з мігалкамі ды міліцэйскімі машынамі наперадзе і ззаду калоны, прысунуліся да дзеда ў Кірпічоўшчыну... Дык ён так гэнага карнавала напалохаўся, што яго спярша добра праняло і ззаду і спераду, а далей — дзед збег з хаты і схаваўся, залёгшы ў бураку за хлявом, а з прыбышамі гаварыць спярша нават не схацеў, і варажыць ім, дэмагагічна вохкаючы: «Субота, дзетачкі вы мае, святы дзень, хто ў суботу варожыць?». Аднак парламентарыі, паказаўшы пасведчанні, яго з буракоў паднялі, прыгожа паручкаліся, нешта налілі, нешта паабяцалі, нешта нават далі, і дзядок адразу палагоднеў, выслухаў, што яны ад яго хочуць даведацца, папрасіў крыху пачакаць на падворку, сам зайшоў у хату, штосьці смуроднае паліў, чымсьці звінеў і ляскаў, выйшаў праз паўгадзіны, незвычайна ганарлівы, апрануты — як да царквы сабраўся, і падаў народным абраннікам кавалак шэрае паперы з напісаным хімічным алоўкам тэкстам і тры кавалачкі гарадзейскага цукру-рафінаду, загорнутыя ў чыстую ільняную анучку...

Тэкст быў такі:

«Нашую страну змогуць спасьці эцьця вот людзі: первы — Зянон Станіслававіч Лукашэнка, ілі утары — Аляксандар Грыгоравіч Пазьняк, а цукар хай хто з іх первый знойдзецца, тот і з'есць у момант прыняцця прысягі! Жыве Беларусь! К сему пісаў гражданін Васіль Казіятка, 87 год, с дярэўні Кірпічоўшчына Азёрскага сельскага савету».

Імгненна распаведзеная была вестка пра прароцтва дзеда з Кірпічоўшчыны па ўсіх радыях і тэлебачаннях, і аднача-сова просьба пайшла да людзей, якія носяць такія выратавальныя імёны і прозвішчы, каб тэрмінова ставіліся ў сталіцы, але, на няшчасце, ва ўсёй дзесяцімільённай дзяржаве нікога не знайшлося... Ясна было, што выратавальнік Краіны і Народа, магчыма, яшчэ й на святло дзённае не з'явіўся, і якраз таму маладым людзям з імёнамі і прозвішчамі Станіслаў Лукашэнка і Рыгор Пазьняк пачало шанцаваць: ад прыгожых рослых дзевак рукамі не адбіцца — кожная ж марыла стаць маці будучага прэзідэнта!

І нібы ўжо пацыху пачало заносіцца на добрае, і народ, стомлены пераменамі і няшчасцямі, пацішэў, бо красці не было ўжо дзе і што, а бандыты і злодзеі мясцовыя, пачуўшы пра чарговую ўкраінскую вайну за Ліпецк і Тамбоў, агулам туды з'ехалі, бо там добра плацілі; і, здавалася, жыццё супакойвася: тры кавалачкі цукру, у анучкі ахінутыя, ляжалі ў падвале Нацыянальнага банка ў сейфе і чакалі, хто і калі іх з'есць...

І ўсе чакалі...

І, магчыма, дачакалася б краіна свайго Збаўцу-Асілка на белым кані, калі б не 22 красавіка 2070 года...

А яшчэ перад тым з'явілася на ўсходзе Еўропы Перасоўная Вагіна. Дакладней, шлях яе пачаўся нібы з мястэчка Дзямідава пад Смаленскам, сталіцы агуркоў і гароднiны. Казалі, аднойчы з ранку ў горад прысунуўся знекуль вялікі белы двухпавярховы аўтобус «Фіят» з напалову зацёртым італьянскім надпісам на баку, з якога хтосьці відушчы і расчытаў толькі гэтыя два словы — vagina mobile. Аўтобус спыніўся на прывакзальнай плошчы, акурат каля помніка Уладзіміру-Праўдыру. Выбеглі з яго два падшыванцы каўказскай нацыянальнасці, расставілі гукавыя калонкі, мікрафон, уключылі галасную музыку. Безумоўна, адразу сабралася наўкола цэлая горба ахвочых да гледзішч раззяваў, у асноўным непахмеленых беспрацоўных дзямідаўскіх мужыкоў.

І тады выйшла з аўтобуса неверагодная чароўная бландзінка, нібы на станку добрым токарам вытачаная, даўганогая, маладая, белазубая, абаяльная, у такой кароткай спадніччы, што — ах! — можна было палічыць божыя кароўкі на яе трусіках, і пачала з нейкім ці то гішпанскім, ці то ангельскім акцэнтам весела і ўпэўнена дакладваць: кампанія набірае на вельмі халяўную, аплочваемую працу за мяжой і што трэба толькі пабегчы дамоў па пашпарт і па мінімум асабістых рэчаў, а астатняе неабходнае ім купіцца. Усе як паслухалі, то адразу на злом галавы кінуліся па хатах, і ўжо праз гадзіну шэсцьдзясят два шчаслівыя маладыя і здаровыя мужчыны, якія прайшлі нейкі там уступны смешны тэст, махалі з-за шыбаў аўтобуса далонямі сваім менш прыдатным і недалэнжным сябрам.

Ніхто іх ніколі потым ужо не ўбачыў.

Зніклі.

Зусім прапалі.

Без весткаў, без лістоў дахаты, без смс-аў.

І колькі сем'і не звярталіся ў паліцыю, прыватна не спрабавалі шукаць — аніякіх вынікаў. Праўда, казалі, што потым, праз паўтары гады, у раёне станцыі Гнездава, дзе калісьці НКВД-эшнікі пабілі польскіх афіцэраў, ваўкі ці валачашчыя сабакі разрылі на беразе Дняпра плыткую яміну, у якой ляжалі шматлікія чалавечыя парэшткі, усе безгаловыя і парэзаныя нечым вострым дакладна ў месцах, дзе было сэрца і ныркі.

Потым «перасоўная вагіна» працягвала сваю вандроўку ў асноўным па малых правінцыйных мястэчках ад Уральскіх гор да Каспія, заязджала яна і ў Рамешкі пад Цверам, і ў Рамонь, што каля Варонежа, і ў Раменскае пад Курскам.

Многа куды...

Аўтобус спыняўся на галоўнай плошчы каля помніка ўсё таму ж Уладзіміру-Праўдыру, тая ж бландынка выходзіла з яго, усміхалася, распавядала, запрашала; дурныя мужыкі верылі — і зніклі. І, што самае крыўднае, — здэцца, і слаўнае расейскае тэлебачанне, ахвочае да крыві, лімфы і фекаліяў, і расейскае радыё, і ўсялякія аргументы і факты павінныя ж былі забіць у набаты ды перасцерагчы народ перад такім?

Дзе вы бачылі! Маўчалі ўсе, нібы ім языкі папрышчымлівалі і рукі каламі паламалі, каб камеру і мікрафон трымаць ніхто болей не мог!

Казалі потым, што нарэшце злапалі гэтых вандроўных вагіналаў украінцы-партызаны з «Правага сектара,» злапалі пад Бахмачом, дабра ўсякага многа рэквізавалі, а дзеўку-бландзінку спярша доўга гвалцілі, а потым разам з памагатымі-каўказцамі ды шафёрам, павязаўшы ім усім рукі калючым дротам, спалілі жыўцом у аўтобусе.

А як ірвануў напрыканцы бак з салярkaю, то паляцелі ў розныя бакі тлеючыя расейскія пашпарты, бы птушкі, а было іх незлічоная колькасць! Доўга потым яшчэ грыбнікі знаходзілі па акалічных лясах напалову згарэлыя чырвоныя кніжыцы.

Усё нібы мелася добра быць...

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (136) | 29 снежня 2017 | № 49 (563) Новы Час

# «Сіні колер — неба звон…»

**Нікалоз Бараташвілі (1817–1845) — вялікі паэт-рамантык, чалавек складанага лёсу. 27 снежня споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння вялікага сына грузінскай зямлі.**

Цяпер яго лічаць класікам грузінскага прыгожага пісьменства, аднак пры жыцці не было надрукавана аніводнага яго паэтычнага радка. Некалькі вершаў былі апублікаваныя праз сем гадоў пасля паэтавай смерці, а па выданні зборніка ў 1876 годзе Нікалоз Бараташвілі стаў найпапулярнейшым у Грузіі паэтам, ці не другім за Шата Руставелі.

Нікалоз, ці, як яго часам звалі на зрусіфікаваны лад, Николай Баратаев (Баратов), пабачыў свет у Тбілісі (тагачасным Тыфлісе) у сям'і радавітага князя Мелітона Бараташвілі і княжны Яфіміі Арбеліяні. Па кудзелі ён быў нашчадкам знакамітага цара Ираклія II і пляменнікам знанага паэта Грыгола Арбеліяні.

Спачатку Нікалоз атрымліваў сямейную адукацыю, а ў дзесяць гадоў пачаў вучыцца ў Тыфліскай шляхетнай вучэльні, якую скончыў у 1835 годзе. Пад уплывам свайго настаўніка, філосафа і грамадска-палітычнага дзеяча Саламона Дадашвілі, юнак захапіўся ідэямі гуманізму і нацыянальнай свабоды.

Але жыццё не дало ажыццявіць Нікалозавы мары. Бацька на той час збяднеў, і пра вучобу ў расійскім універсітэце юнаку давялося забыць. З-за зламанай у дзяцінстве нагі не магло быць гаворкі і пра вайсковую кар'еру. Таму, каб падтрымаць сям'ю матэрыяльна, Нікалоз быў змушаны паступіць на службу ў «Экспедыцыю суда і пакарання».

Балючы след пакінула ў паэтавай душы і каханне да княжны Кацярыны Чаўчавадзэ, дачкі знанага паэта, князя Аляксандра Чаўчавадзэ. Бараташвілі прысвяціў ёй і падарыў цэлы сшытак вершаў, бліскучых узораў інтымнай лірыкі, але дзяўчына аддала перавагу ўладару Менгрэліі князю Давіду Дадзіяні і сталася яго жонкаю.

Ужо напачатку 40-х гадоў Нікалоз Бараташвілі займеў паэтычную славу і ўзначаліў літаратурны гурток, сябры якога пазней заснавалі грузінскі тэатр, а таксама першы грузінскі штомесячны літаратурны часопіс «Цыскары» («Світанак»).

Аднак у 1844 годзе Нікалоз быў вымушаны пакінуць родны край і выехаў працаваць памочнікам начальніка Нахічэванскага павета, а потым у Гянджу (які цяпер у Азербайджане). Там ён захварэў на малярыю, ад якой памёр у 27 гадоў і быў пахаваны на чужыне, на тамтэйшых могілках. (Як тут не згадаць нашага генія Максіма Багдановіча!)

У 1893 годзе прах паэта перавезлі на радзіму і ўрачыста пахавалі ў Тбілісі на прэстыжных Дыдубійскіх могілках. Але сваё апошняе супакаенне знайшоў ён у 1938 годзе, калі быў перапахаваны на Мтацміндзе (Святая гара), у Нацыянальным пантэоне поруч з Важа Пшавела, Ільёй Чаўчавадзэ, Аляксандрам Грыбаедавым ды іншымі найвялікшымі літаратарамі і грамадска-палітычнымі дзеячамі.

У вершы «Сіні колер — неба звон…» паэт-празорца пісаў:

*На магіле не на зман*
*Сам пасцелецца туман.*
*І памкнецца сіні дым*
*Па-над іменем маім.*

Імя Нікалоза Бараташвілі носяць сёння Гарыйскі дзяржаўны педагагічны інстытут, праспект і мост праз Куру (Мтквары) у грузінскай сталіцы, а таксама вуліцы ў Кутаісі, Батумі, Руставі, Кабулецi.

Колькасна паэтычная спадчына Нікалоза Бараташвілі невялікая. Яна ўключае 37 вершаў пераважна філасофскай ды інтымнай тэматыкі і невялікую гістарычную паэму «Лёс Картлі», але большасць твораў паэта сталіся ў Грузіі хрэстаматыйнымі. Паэзіі Бараташвілі — ад наследавання ўсходняму краснаму пісьменству да вершаў апошняга года жыцця — уласцівыя псіхалагізм, лірызм, музычнасць і экспрэсіўнасць. Нават не вельмі абазнаныя ў літаратуры людзі чулі пра такія пярліны, як «Роздум на беразе Куры», «Змярканне на Мтацміндзе», «Маёй зорцы», «Завушніца», «Маім сябрам» . У творах «Мерані», «Мая малітва», «Магіла цара Іраклія», «Лёс Картлі» паказаны складаны ўнутраны чалавечы свет, мара пра нацыянальную свабоду Грузіі, а ў вершах «Самотная душа», «Злы дух», «Таемны голас» выразна гучаць матывы адзіноты, адчаю і песімізму.

На абшарах былога Савецкага Саюза паэзія Бараташвілі стала шырока вядомай дзякуючы найперш бліскучым, віртуозным перастварэнням Барыса Пастэрнака і Бэлы Ахмадулінай. Многія вершы грузінскага генія былі пакладзены на музыку і сталіся песнямі.

На беларускую мову грузінскага паэта перакладалі Анатоль Астрэйка, Анатоль Вялюгін, Еўдакія Лось. Вельмі важкую падборку — дваццаць адзін верш — змясціў у двухтомавай «Анталогіі грузінскай паэзіі», якая пабачыла свет у 1989 годзе, перакладчык Язэп Семяжон.

На просьбу рэдкалегіі новай паэтычнай серыі «Паэты планеты», што выходзіць пад тытулам «Выдавец Зміцер Колас», аўтар гэтых радкоў меў гонар і задавальненне адрэдагаваць том «Паэтычныя творы». У ім паэтам і перакладчыкам Юркам Голубам упершыню перастворана ўся творчая спадчына Нікалоза Бараташвілі. Выданне прымеркавана да 200-годдзя грузінскага класіка і, хочацца верыць, стане адметнай з'яваю і ў беларускім літаратурным жыцці, бо ўся творчасць Нікалоза Бараташвілі паводле трапнага выразу Юркі Голуба — гэта «малітва, узнесеная да сінечы».

**Уладзімір Сіўчыкаў**

# Нікалоз Бараташвілі

## Салавей над ружай[1]

*Трымцеў над ружай салавей.*
*Калі на лісце ўпалі росы,*
*Спяваў ёй: «Сум ты мой развей —*
*Хачу я твой пабачыць росквіт».*

*Ён нанач пеў. А ноччу гай*
*Гайдала зорная калыска.*
*Замоўк салоўка. Поўні ўскрай*
*Паплыў бутонаў водар чысты.*

*Пяюн у стоме задрамаў,*
*Ды сны адпрэчыла дзянніца,*
*І ён жахнуўся нездарма:*
*Пялёсткі долу ўпалі ніцма.*

*У жальбе слёз стрымаць не мог,*
*Лятаў, нібы над месцам лобным.*
*Красу гаротны не збярог,*
*Паклікаў птушак на жалобу.*

*«Я ружу песціў дзень і ноч,*
*Ахвяраваў жыццём і песняй.*
*А квет сышоў раптоўна з воч,*
*І больш не здолее ўваскрэснуць».*

**1834**

[1] Верш напісаны Бараташвілі-гімназістам пад уплывам матываў усходняй паэзіі.

## Роздум на беразе Куры

*Іду, зажураны, рацэ даверыць думы,*
*На беразе шукаю схованку ад тлуму.*
*Тут колісь на мурог ліліся шчасця слёзы,*
*Шапталі штосьць спагадна вербалозы.*

*Павольна дыхае свавольная Кура,*
*І сонца цешыць хвалі акурат.*
*Сяджу і доўга слухаю раку,*
*А позірк небасхілам працягнуў руку.*

*Што шэпчаш ты, Кура, — нікому невядома,*
*Хоць стала сведкаю вякоў няўтомных.*
*Чамусьці мне жыццё змарнелым падалося,*
*Пустым — зусім без зернетак — калоссем.*

*Няўжо і наша існасць сплавіцца ў пясок:*
*Дзіравы не напоўніцца збанок?*
*Ці знойдзецца, аднак, дзівак няўтомны,*
*Хто сэрца з коптурам жыццём напоўніў?*

*Заўваж: усемагутныя ўладыкі,*
*А кошт кароны вышай за вялікі,*
*І ў іх абдымках песцілася слава,*
*Мармычуць з паняверкай: «Во праява!*
*Зямлі паболей забярэм з сабою!»*
*Хоць хутка самі стануцца зямлёю.*

*І нават добры валадар — ці ж ён спакойны?*
*У працы і турботах ён даскону,*
*У клопаце, як лепей зберагчы*
*Сваім сынам айчынныя ключы,*
*І каб пасля наступнікі, народзе,*
*Яго імя не страцілі ў нягодзе.*
*Калі ж і свет абрынецца тым часам,*
*Адкажа хто: адкуль віхор пачаўся?*
*.............................................*
*Але на тое свету мы свайго й сыны,*
*Каб бацькаў покліч не зазнаў маны.*
*І ці не той да мерцвяка падобны,*
*Каму наш свет зусім не даспадобы.*

**1837**

## Чангуры

*Твае галашэнні — паломнікі суму —*
*За горла хапаюць няўцешную думу*
*І ў бездань былога шпурляюць.*

*Чангуры, скажы, ці змагу калі-небудзь*
*Пачуць тваю ўцеху пад шатамі неба*
*І сэрца ад болю адвесці.*

*Ці ўсмешку тваю зноў дарэмна шукаю,*
*Дзе б радасць твая шапацела шаўкамі!*
*Ды скаргі ад струнаў — не знак дабравесця.*

**1837**

## Маёй зорцы

*Ты чаму злуешся, зорка лёсу,*
*І бывае, губіш напавал?*
*Хоць туга па сэрцы слёзы носіць,*
*А табе я згодны напяваць.*

*Не зраблюся загадзя няўцешным,*
*Як затулішся ў туман завей,*
*Бо ўсё роўна не халоднай цэшкай*
*Цьмяна праз смугу святло заве.*

*Ты ў любой апратцы адмыслова*
*Выглядаеш на радне зарніц.*
*І тады душа губляе словы,*
*З сэрца змрок абрыньваецца ніц.*

*Дык з'явіся сонечнаю казкай:*
*У журлівым сэрцы знойдзеш схрон.*
*Толькі ты адна нябесным бляскам*
*Расхінеш самоты пантэон.*

**1837**

## Княжне Кацярыне Чаўчавадзэ[1]

*Ты голасам залучана*
*Для спеву мілагучнага.*
*Святлу ў тваім паглядзе*
*Душы насцежу браму,*
*Усмешка гоіць драму*
*Трывог на даляглядзе.*

*Дзе сумам свет завесіла,*
*З тваім прыходам весела.*
*І зноўку ўцехі словы*
*Купаюцца ў лагодзе,*
*Яны любой нагодзе*
*Даюць акрас вясновы.*

*Памру — ды будзе помніцца*
*Да голасу паломніцтва:*
*Як «Ружу і салоўку»[2]*
*Твая пяшчота пела.*
*Паэта сэрца мела*
*Тады да зор вандроўку.*

**1839**

[1] Княжна Кацярына Чаўчавадзэ (1816–1882) — дачка Аляксандра Чаўчавадзэ.
[2] «Салавей і ружа» — раманс, перакладзены з рускай мовы Аляксандрам Чаўчавадзэ.

## Напалеон

*«І што ты мне, улада, надала?» —*
*Напалеон акінуў Францыю вачамі*
*І спахмурнеў, амаль што ад адчаю,*
*Бо веліч у крыві ахвяр была.*
*«Даволі! — вымавіў. — Нябыт не паглыне*
*Майго імя навідавоку ў свету.*
*Зрабіў магутнай я краіну гэту,*
*Пакора іншых нас не скалане.*

*Майму зацесна духу ў тле грудзей,*
*А доля апляце вянком са славы,*
*Ён німбам будзе, што б там ні бывала,*
*Належыць час мне — вестуну надзей.*

*Ніхто не пэўны, славу захапіць*
*Навек ці можна: раптам сыйдзе з іншым!*
*Ды не, не веру, каб у долі лішнім*
*Быў гадаванец, што пра славу сніць.*

*Напалеону тут сапернікаў няма!*
*І хто б не цараваў, і мудры, і вяльможны,*
*Зраўняцца аніяк са мной не зможа,*
*Нам і магіла стала б цеснай, як турма».*

*Сплываюць за годам год. А зразумець*
*Яго ўсе будуць прагнуць пасля смерці.*
*Агнём і морам, што вякам не сцерці,*
*Бушуе дух, і сэрцу не сатлець.*

**1838**

## Завушніца

*Відзён на ландышы здалёк:*
*Гайдае кветку матылёк.*
*Вось так з настроем завушніца,*
*Ах, завушніца, нездарма*
*Не прагне вырвацца з ярма —*
*З уласным ценем наравіцца.*

*Той шчасным стане з маладых,*
*Каму ў тым ценю зойме дых.*
*Тваім жа ценем заваладаць*
*Пад ветрыку скразны павеў,*
*Каб сам таго і не хацеў,*
*А дакранешся сэрцам лёду.*

*О, завушніца, з неба чар*
*Хвалюеш, як пчалу нектар.*
*Хто вусны пад табой спатоліць,*
*Каб стаца хмельным назнарок,*
*Ісці з бяссмерцем крок у крок*
*І вылыхнуць з душы — даволі?*

**1839**

**Пераклад з грузінскай Юркі Голуба**

# Доўга будзе мне Флорыда сніцца

Леанід ЛЕВАНОВІЧ

**Часам надараюцца ў жыцці надзвычай цікавыя сустрэчы. Яны здзіўляюць сваёй нечаканасцю: ну ніяк не мог падумаць, што гэткае можа надарыцца, што такое давядзецца пачуць, ды дзе — на краі света, на беразе Мексіканскай затокі...**



Але ўсё па парадку. Тры зімы давялося мне з жонкай пражыць у амерыканскім Бостане — дапамагалі дачцэ гадаваць сына, нашага ўнука. Садок вельмі дарагі: дый працуе з 8:00 да 14:30. Даеш малому сваё харчаванне (пакуеш тармазок) і плоціш 700 долараў за месяц. А калі на поўны дзень аддаць малога, трэба яшчэ болей раскашаліцца — убухаць 1300 «зялёных». Безумоўна, хто мае працу, той сяк-так зводзіць канцы з канцамі. Так што Амерыка — рай не для ўсіх.

І ўсё ж райскае месца на амерыканскай зямлі ёсць! І называецца яно Флорыда. У перакладзе з іспанскай — квітнеючая зямля. І гэта насамрэч так: тут круглы год нешта цвіце, снегу і марозу не бывае. Заўсёды ласкавае сонца і цёплыя хвалі Мексіканскай затокі. Гэта райскі куток для пенсіянераў: некаторыя шчаслівчыкі атайбаваліся тут на сталае жыццё, іншыя прыязджаюць на зіму з халаднейшых Бостана ці снежнага Чыкага.

І самае дзіўнае — ёсць у Флорыдзе горад Сент-Пітэрзберг, цёзка расійскага Санкт-Пецярбурга. Не буду залазіць у глыбокую гісторыю, скажу коратка: на пачатку мінулага стагоддзя рускі інжынер будаваў тут дамы, чыгунку, з павагі да яго паселішча атрымала свой сучасны назоў. Цяпер гэта прыгожы горад, у якім жывуць болей за дзвесце тысяч чалавек. І жыве ў гэтым горадзе сын знакамітага беларускага паэта на эміграцыі Рыгора Крушыны — Ігар. Ён прафесійны перакладчык, з дэлегацыямі абʼехаў больш за паўсотню краін, шмат разоў наведваў Савецкі Саюз, вазіў дэлегацыі ў Чарнобыль, часцяком гасцяваў на радзіме бацькі — у Слуцкім раёне.

Ігар Казак (сапраўднае прозвішча бацькі Казак, Крушына — літаратурны псеўданім) пераклаў на англійскую мову «Прыпавесці» Васіля Быкава, кнігу вядомага рускага пісьменніка Аркадзя Аверчанкі, некалькі маіх навел для англамоўнай кнігі. І што здзіўляе — Ігар ніводнага дня не вучыўся ў беларускай школе, а мы з ім перапісваліся і гаварылі на роднай мове.

— Бацька чытаў мне свае вершы. Я слухаў, стараўся зразумець. А потым пачаў перакладаць іх на ангельскую, рускую мовы, — тлумачыць ён гэты феномен. Дарэчы, Ігар выдатна валодае нямецкай, іспанскай.



**Рыгор Крушына з сынам Ігарам. 1939 г.**

Ігарава жонка, Раіса, здзівіла беларускімі прыпеўкамі. Адкуль іх ведае? Першы муж яе, этнічнай татаркі, якая зʼявілася на свет у паўночнаўральскім горадзе Курган, беларус з Чэрыкава. І вось уявіце сабе: мы сядзімо ў кватэры беларуса Ігара Казака, узгадваем Слуцк і Чэрыкаў, раку Сож, у якую ўпадае мая родная Бесядзь. Чэрыкаўскі і Касцюковіцкі раёны — суседзі. За шырозным вакном пад ветрам гойдаюцца галінкі пальмаў, быццам дрэвы абмахваюцца веерам, плёхаюць хвалі Карыбскага мора. Ну як тут не выгукнуць: свет цесны насамрэч!..

Разглядваем фотаздымкі. Вось Раіса з Ігарам на Інтэрнацыянальным фестывалі, які праходзіў у Сент-Пітэрзбергу ў кастрычніку 2014 года. Раіса ў нацыянальным, татарскім строі, яна з вялікім поспехам выконвала прыпеўкі, Ігар у вышыванцы і зімовай шапцы выконваў ролю прадстаўніка беларускай дыяспары. Раіса любіць фатаграфаваць, прапанавала зняць нас з Ігарам у вышыванках пад пальмамі на фоне пеністых хваляў затокі. Выдатны атрымаўся здымак. Сфатаграфавала нас ля партрэта Рыгора Крушыны: сын чытае бацькавы вершы, а я ўважліва слухаю. Можа, душа беларускага паэта пачуе і ўзрадуецца: ён памятаюць...

Увечары мы з Ігарам выбраліся на прахоДку — жанчыны засталіся гаспадарыць дома. Уразіла даўжэзная прамая дарожка-ходнік, абсаджаная пальмамі з абодвух бакоў, па ёй гойсаюць і веласіпедысты. Дрэвы высозныя, гладкастволыя, унізе, на камлях, нарosты, яны прыкрываюць карані ад спёкі. У паветры лунае водар парфумы, казытлівы пах шашлыкоў. Зазірнулі праз шкляныя дзверы ў танцавальную залу: там быў урок, развучвалі свінг — рыўком прыціскаліся партнёры, затым адварочваліся ў розныя бакі, падымалі то адну, то другую нагу, махалі ўзад, быццам брыкаліся. Даваенны танец. Тут асабліва моцна пахла парфумай, нейкімі кветкамі. Да́мы і кавалеры пацеюць, бо дужа шчыруюць у танцы.

Уразіла мініятурная бібліятэка на вуліцы: пад стрэшкай невялікі домік, пад шклом кнігі. Адчыні дзверцы — і бяры сабе кніжку. Прачытаеш, можаш вярнуць на месца ці аддаць суседу. Кніжны фонд мінібібліятэкі — каля паўсотні тамоў. Цікавая дэталь!

На другім баку вуліцы — кавярні, рэстараны. Гамана, смех, гучная музыка, піва, віно ракою. Столікі стаяць унутры і знадворку. Там-сям чарга — народ чакае вольнага месца. Тут усе шчаслівыя, вясёлыя, радуюцца жыццю. Красавіцкі вечар ціхі, цёплы, лагодны, яшчэ няма летняй спёкі, задухі. Высозныя пальмы, быццам вартавыя, аберагаюць бясклапотнае жыццё насельнікаў горада, яго шматлікіх гасцей.

Ідучы дамоў, завіталі ў пенсіянерскі клуб. У більярднай ішло зацятае спаборніцтва, гульцы — сівагаловыя жыхары бліжэйшых дамоў. Усе яны ведалі адзін аднаго, дружна павіталіся з Ігарам.

— Пазнаёмся. Наш зямляк з Бабруйска — Іосіф.

Каржакаваты ўсмешлівы сімпатычны габрэй моцна паціснуў маю руку.

— Вельмі рады бачыць земляка. Даўно ў Амерыцы? Колькі тут будзеце?

Я коратка адказаў на пытанні Іосіфа. Ігар тым часам расставіў піраміду, я мусіў узяцца за кій. Ігар — вопытны більярдыст, першую партыю лёгка выйграў. Але памалу і ў мяне прарэзаўся ўдар — рука не забыла, як трэба забіваць шары. Другую партыю выйграў я, так што перамагла дружба. Болей не гулялі: Раіса паклікала дамоў.

— Ці бачылі «Пагоню» на маёй машыне? — спытаўся раніцай Ігар. — Не? Дык паглядзіце на задні бампер.

Калі адʼязджалі ад дома, я перш-наперш зірнуў на задні бампер: пасярэдзіне яго красаваўся старадаўні наш герб — вершнік на кані.

Мы ехалі па вуліцах горада, прамых, шырокіх, абстаўленых невысокімі белымі пабудовамі. Асфальт абступалі, быццам каланады, высозныя гладкастволыя пальмы. Між імі ўціснуліся ўсыпаныя чырвонымі ды жоўтымі кветкамі кусты азаліі. Раіса распавяла пра клуб, дзе яны спяваюць рускія песні.

— Беларусаў тут мала. Ды яны і не гавораць на роднай мове, — сумна сказаў Ігар.

— Леонид, а вы можете спеть какую-нибудь белорусскую песню? — падала голас Раіса. — Я бы хотела послушать...

Нядоўга думаючы, я зацягнуў «Ой, сівы конь бяжыць». Калі скончыў спяваць, Раіса ўсклікнула «Брава!». Ігар на хвіліну адпусціў руль, таксама запляскаў далонямі. А я міжволі падумаў: па вуліцах амерыканскага горада Сэнт-Пітэрзберга імчыць «Хонда» з Пагоняй, за рулём аўто сівагаловы беларус, і вусы ў яго сівыя, падкоўкай, аля Шаўчэнка, яго жонка — татарка, карані якой на Паўночным Урале, маці дзяцей ад мужа-беларуса. І ехалі мы ў форт дэ Сота. Гэта крэпасць, якую некалі збудавалі іспанскія канкістадоры і далі ёй імя свайго важака. Цяпер сюды едуць тысячы турыстаў з усёй Амерыкі, Еўропы, слава пра тутэйшыя пляжы, цёплае мора і ласкавае сонца раскацілася па ўсім свеце. Дарэчы, у кнізе рэкордаў Гінэса ёсць запіс: з 1967 па 1969 гады ў Сент-Пітэрзбурзе было 700 сонечных дзён. Гэты горад насамрэч сонечная сталіца свету.

Да форта дэ Соты дарога недалёкая. І вось мы ўжо на даўжэзным пляжы з белым пясочкам. Тут камфортныя паркінгі, прасторныя акуратныя прыбіральні, дзе можна сесці, каб пераапрануцца. Прыбіральні ў Штатах невыпадкова называюцца «рэструм» (пакой адпачынку), і ўсюды яны бясплатныя. Уразілі даўжэзныя сталы з моцнымі лавамі ў цяні дрэў, пад стрэхамі. Такіх адкрытых павільёнаў больш за дзясятак, у іх святкуюць нават вяселлі, адзначаюць дні нараджэння. Кожны павільён пад нумарам, і ягоны паркінг мае адпаведны нумар, каб госці не блукалі.

Вада была халаднаватая, але маладыя турысты, асабліва турысткі, актыўна купаліся. Паплаваў і я са смакам. Дзякуй табе, форт дэ Сота. Праўда, крэпасці я тут не прыкмеціў, але цудоўны пляж буду помніць доўга.

Калі моцна прыпякло, так бы мовіць, тутэйшае нястомнае свяціла, мы паехалі дамоў.

Увечары Ігар паставіў дыск: бацька Рыгор Крушына чытае сваю паэму «На руінах пачуццяў». Твор прасякнуты шчырасцю, голас аўтара мяккі, вымаўленне выдатнае. Ігар прэзентаваў мне дыск на ўспамін.

...Пішу пасля купання ў сераваДародным возеры. О, гэта дзіва!

Возера амаль што круглае, метраў 200 у дыяметры. Канатам з паплаўкамі выдзелена паўз бераг паласа метраў 10–15, па якой па крузе плывуць, ідуць людзі, амаль усюды я даставаў дно. Усе ў капелюшах, цёмных акулярах, у белых кашулях, бо плечы, шыя могуць згарэць.

Народ сталага веку, чуваць руская, украінская, сербская мовы, зрэдку — ангельская. У цёплай лагоднай вадзе сядзець можна хоць цэлы дзень, але сэрца можа не вытрымаць, таму лепшы варыянт — праплысці два кругі, перадыхнуць на беразе, і зноў — заплыў. І размовы, размовы. Тут людзі знаёмяцца, маладзейшыя абдымаюцца...

Пачуўшы нашу размову, прыліп да нас здаровы насаты мужчына.

— Откуда приехали, если не секрет?

— Какой секрет? Из Бостона, из Минска.

— Ха, здорово! Я из Бостона, из Питера. Меня зовут Георгий. А вас? — і пазірае на мяне — а вочы шэрыя, як вылавяныя, — ён плаваў без акуляраў.

Я назваў сябе, парукаліся. І пачаўся маналог. Пра палітыку, пра Амерыку, якая ўсюды лезе, якую ён усё больш не любіць. Жыве ў Штатах 22 гады, родам з Піцера, 25 гадоў адслужыў на Паўночным флоце, капітан першага рангу. Служыў на падводных лодках, цяпер піша кнігі пра гісторыю флота. Ён гаварыў і гаварыў пра Украіну, Расію, пра Пуціна, Абаму — і не даваў уставіць ні слова. Я спытаў, як ён ставіцца да Валянціна Пікуля. «Потрясающий писатель». Тут я з ім цалкам пагадзіўся.

Слухаў я і думаў: гэтаму чалавеку катастрафічна не хапае суразмоўцаў і слухачоў. Мабыць, жонка яму даўно надакучыла, а ён ёй. Яна і зараз сядзела на беразе, клікала яго, а ён, узрадаваны, што знайшоў слухачоў, не спыняў маналог. Пра папоў і ксяндзоў, узгадаў кнігу Леа Таксіля «Забавное Евангелье». Я сказаў, што чытаў гэтую кнігу. Георгій яшчэ больш ажывіўся.

— Если не секрет, как ваша фамилия? — спытаўся Ігар.

Чалавек назваў сябе, пахваліўся, што выдаў тры кнігі пра флот, піша чацвёртую. Спытаў маё прозвішча, чым займаюся; давялося прызнацца. Вочы Георгія зрабіліся круглымі, калі пачуў, што ў мяне выйшла каля двух дзясяткаў кніг, у тым ліку і дзве ў ЗША: па-руску і па-ангельску.

— Я найду вас в интернете. Я напишу вам...

Працяг на стар. 16 (10) »

« Працяг.
Пачатак на стра. 15 (9)

На гэтым мы цёпла развіталіся з гісторыкам расійскага флота…

Калі вярталіся з возера, завіталі ў горад Сарасота. Кажуць, што тут мае свой дом Міхаіл Гарбачоў. Гэтую пабудову мы не шукалі, а вось арыгінальны помнік знайшлі. Жартам яго называюць «Поўная капітуляцыя»: матрос, які вярнуўся з вайны, абдымае і цалуе каханку, нізка нахіліў яе, як у аргенцінскім танга. Каханка задрала ўгору нагу ад насалоды, гатовая цалкам аддацца гарачаму мараку. Унікальны помнік. Каля яго любяць фатаграфавацца закаханыя пары…

— Заўтра канчаецца пост. Я магу з'есці яечка, — з радасцю мовіла Раіса.

Я зразумеў яе пачуццё, бо таксама люблю курыныя яйкі, і вараныя, і сырыя.

Але ўранні першым падаў радасны голас Ігар:

— О, расцвіла архідэя! — і паказаў на фіялетава-ружовую кветку на даволі высокай сцябліне. Унізе лапушыліся чатыры лісты, гладкія, тоўстыя, як у фікуса. — Гэта вам падарунак. Вось бутон. Будзе яшчэ кветка. Архідэя не любіць сонечных промняў. Вось такая яна, таямнічая прыгажуня.

Слухаў я Ігара і прыгадаў земляка Уладзіміра Усеню, вілейскага прадпрымальніка, які ратаваў мяне на шашы. Тады сапсавалася машына: як гавораць вадзіцелі, паляцела счапленне. Я пачаў галасаваць, але аўто праносіліся міма. Адно спынілася. Вадзіцель, даволі малады чалавек, патоогаў рычаг пераключэння хуткасці.

— На жаль, дапамагчы не змагу. Спяшаюся, дарога далёкая. Выклікайце эвакуатар.

— А я еду на пахаванне Васіля Быкава. Вязу яму букет валошак.

Чалавек пільна зірнуў на мяне, на сінія валошкі на заднім сядзенні.

— Што ж, пакінуць вас не магу…

Патэлефанаваў некуды, паведаміў, што затрымаецца, затым дастаў з багажніка буксірны трос.

У Мінску, на маёй кватэры, пазнаёміліся бліжэй. Аказалася, што Уладзімір — дырэктар будаўнічай фірмы «Архідэя». Грошай за падвоз не ўзяў, папрасіў падпісаць кнігу. Падарыў яму «Ларысу, альбо Каханне аўтамабіліста». Застаецца дадаць, што пра здарэнне на дарозе я напісаў апавяданне «Букет валошак». З Уладзімірам Усенем падтрымліваем сувязь і цяпер. Вось такую згадку абудзіла фларыдская архідэя.

Ігар прапанаваў з'ездзіць на рынак: сёння субота, самы ажыўлены гандаль. Спярша завіталі на гароднінa-фруктовы рынак. Божа! Божа! Чаго тут толькі няма! Усялякія фрукты, самыя экзатычныя: манга, дыні, кавуны, апельсіны, ананасы, ківі, а ўжо агуркоў, памідораў, капусты — горы. Насамрэч, тут лацвей быць вегетарыянцам, як Ігар і Раіса. Дзеля нас Раіса неяк адварыла пяльменяў, Ігар гатаваў сушы.

Пазнаёміліся з пчаляркай, прыехала з мужам з Малдовы, мае 6 дзяцей, ёй 51 год. Пасеку маюць вялікую — каля трохсот сямей. Як пчаляра, мяне ўсё цікавіла: і пароды пчол, і з чаго мёдазбор.

— Ужо адцвіла акацыя. Вось свежы мядок. Працы на пасецы шмат. Цяжка. Думаем скарачаць. Дзеці яшчэ малыя. Памочнікі слабыя.

Купіў паўкіло мёду з матачным малачком за 10 даляраў. Увогуле, мядок даволі дарагі: 6–10 даляраў за кілаграм.

Пад вечар пайшлі ў госці да Ірэны і Славіка, яны жывуць у тым жа доме. Крочым па даўжэзнай тэрасе — адкрытым калідоры, насустрач з торбай, з якой відзён рушнік, ідзе прафесар-эканаміст Славік, каржакаваты, круглатвары. Плаваў у басейне. Запрашае ў кватэру. Ірэна, сухарлявая, смуглявая, пявучым голасам вітаецца з намі.

— Білорусы цэ ж суседзі нашы. Вельмі прыемна. Праходзьце, сядайце, — шчабеча гаспадыня.

Ірэна і Слава ў Амерыцы даўно, прыехалі з Жытоміра. Яна не эканаміст, па адукацыі мастак-дызайнер, працавала на мясцовай мастацкай фабрыцы. Карацей, сур'ёзнай гаворкі пра эканамічныя праблемы не атрымалася, затое пра дзяцей і ўнукаў я даведаўся ўсё…

Неўзабаве зазірнула суседка, таксама ўкраінка, нагадала, што трэба збірацца ў храм, — там велікодная служба, яны будуць чакаць унізе. І гаварыла яна па-ўкраінску! Вось чаго не стае нам, беларусам, большасць з нас і на радзіме, і за мяжой размаўляюць не на роднай мове.

— Прыходзьце заўтра ў басейн, — сказаў на развітанне прафесар Славік.

На дварэ яшчэ цёмна. Ранак велікодны яшчэ не прачнуўся. Ігар з пяці гадзін чаруе на кухні: рыхтуе ў дарогу японскія сушы — першая жонка-японка навучыла. А паедзем далёка — у горад Арланда, там сусветна вядомы Дыснэйлэнд, яго яшчэ




Рыгор Крушына з сынам Ігарам на судне Constitution

**Нашы выдаўцы і крытыкі-артадоксы любяць гаварыць пра цнатлівасць беларускай літаратуры. Я таксама за цнатлівасць, але ўсё павінна быць у меру, каб наша мастацкая літаратура не была падобная на старую дзеву**

Слава тут абараніў дысератцыю, больш дваццаці гадоў чытаў лекцыі ў розных універсітэтах. Пасля келіху каньяку гаворка была шчырая, адкрытая. Я напачатку называў гаспадароў па імені і па-бацьку, але яны рашуча запярэчылі: завіце проста — Ірэна і Славік.

Я расказаў пра ўражанне ад мясцовага рынку, падарыў гаспадарам пласцікавы карабок мёду ў сотах са свайго пчальніка. Мушу прызнацца, прывёз яго для Ігара і Раісы. Але яны настойліва параілі падарыць беларускі мядок суседзям. Прэзент ім вельмі спадабаўся.

— Слава, колькі вам гадоў, калі не сакрэт? — спытаў я.

— Не шмат. Усяго восемдзесят пяць.

— Ваш сакрэт даўгалецця?

— Рух. Плаваю ў басейне круглы год. Паменей есці мяса, болей фруктаў, гародніны.

— Ну й каньячок для бадзёрасці, — усміхнуўся Ігар.

— Па дванаццаць кропель не зашкодзіць, — весела мовіў гаспадар.

У мяне было шмат пытанняў да прафесара: пра сучасную эканоміку Штатаў, пра бюджэтныя праблемы. Слава пачынаў гаварыць, але тут жа гаворку падхоплівала Ірэна і выказвала сваё меркаванне, хоць называюць Мікі Маўс. Я адчуваю сябе няёмка — гаспадар рашуча адмаўляецца ад маёй дапамогі.

— Пагартай кнігі. Можа, што зацікавіць.

У Ігара вялікая бібліятэка, асабліва шмат зборнікаў беларускай паэзіі — гэта бацькава спадчына. Кінулася ў вочы «Краса і сіла»– таўшчэразны том на 880 старонак, анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя, укладзеную Міхасём Скоблам. Кніга ўбачыла свет у 2003 годзе ў выдавецтве «Лімарыус». Я не бачыў яе ў Мінску, а Ігар у Амерыцы мае. З цікавасцю прачытаў вершы Рыгора Крушыны: «Маім братам», «Празрыстыя коні», «Віяланчэль», «Спевы сняжынак». Нават назвы твораў гавораць пра тонкасць успрымання рэальнасці, пра філасофскі роздум.

У Ігаравай бібліятэцы багата самых розных выданняў. Шкада, няма ў яго дзяцей, няма каму перадаць гэткі кнігазбор…

Вось і пабылі ў гасцях у Мікі Маўса. Гэта велізарны забаўляльны комплекс Уолт Дыснэй, які размясціўся на аграмаднай тэрыторыі каля горада Арланда. Пісаць пра яго можна вельмі доўга — і ўсё не апішаш. Квіток каштуе па нашых мерках фантастычную суму — 100 «зялёных». Ігар некалі вазіў туды важных гасцей, быў знаёмы з камерцыйным дырэктарам, даслаў яму тры мае кароткія апавяданні ў перакладзе на ангельскую, напісаў, што я з жонкай хачу наведаць іхнюю ўстанову. Мабыць, апавяданні спадабаліся, бо дырэктар выдзеліў тры кантрамаркі, я з гонрам падумаў: гэта першы ганарар у Штатах. Такім чынам, мы сэканомілі трыста баксаў, але Раісе білет давялося купіць.

Здзіўляе адразу шматтысячны паток наведнікаў, многія з дзецьмі, цэлымі сем'ямі, малых нясуць на руках, вязуць у калясках. У калясках возяць і дарослых таўстуноў, якіх тут вельмі шмат. Трагедыя Амерыкі — тлустыя людзі… Сярод шматлікай абслугі вылучаюцца студэнты, хлопцы і дзяўчаты, дужа ветлівыя, добра падрыхтаваныя — усё ведаюць, могуць адказаць на любое пытанне.

Мы агледзелі мо трэцюю частку компексу задавальненняў. Ігар зазначыў, што Дыснэйлэнды Лос-Анджалеса, Парыжа, Іспаніі, Токіа — разам узятыя — складуць палову паркаў арландскага забаўляльнага цэнтра. Во які гігант! Таму і дарагія квіткі… У Мастацкім музеі Бостана білет каштуе 25 даляраў, маеш права на два візіты цягам дзесяці дзён, бо за адзін заход цяжка ўсё агледзець. Практычныя амерыканцы!

Але вяртаемся ў Дыснэйлэнд. Доўга мы шукалі паркінг, бо іх некалькі: размясціць трэба тысячы машын. Нарэшце ўладкавалі аўто. Селі на трамвайчык — некалькі вагончыкаў на колах. Напераддзе нас чакаў шмон: праверка білетаў, сумак, нават узялі адбіткі пальцаў. Навошта? Каб запалохаць тэрарыстаў?

Пасля шмону далей можна было ехаць на хуткасным цягніку альбо плыць на пароме. Уяўляеце маштабы?! Мы выбралі паром. Густы натоўп паваліў на судна. Міжволі падумалася: вельмі магчымая перагрузка. Плылі нядоўга, адлегласць метраў трыста-чатырыста.

Выбраліся на Мэйнстрыт. Гэта галоўная вуліца. Мэйнстрыты маюць кожнае паселішча Амерыкі. Як і Даўнтаўны — дзелавыя цэнтры. Крочым па Галоўнай вуліцы. З усіх бакоў грыміць музыка, спявае квартэт мужчын, строга апранутых, як манекены, але гэта былі жывыя мужыкі. Далей спявалі, гралі, танчылі толькі разнамасныя, рознакаліберныя лялькі, нават цэлыя лялечныя ансамблі, апранутыя ў нацыянальныя строі, пудзілы ў масках піратаў.

Пра піратаў я ўспомніў невыпадкова, бо мы пасля фатаграфавання на фоне высозных спічастых замкаў, накіраваліся да Піратаў Карыбскага мора — так называецца адзін з пяці забаўляльных цэнтраў. Наведнікаў павялі па цёмных калідорах, застаўленых бочкамі, — пэўна, без рому, — прасмаленыя таўшчэзныя канаты не давалі людзям збочыць з маршрута. Раптам бліснуў агонь, раздаўся аглушальны стрэл гарматы, потым раз-пораз бліскала маланка, лупцаваў пярун. Людзей пачалі садзіць у лодкі, якія ўзвышаліся на колах, але вакол была вада, у ёй блішчала мноства манетак, кідалі манеткі і нашы суседзі. Мы ўстрымаліся: лішніх цэнтаў у нас не было. У лодкі ўсаджвалі па чатыры чалавекі. І вось плывем. Напераддзе густы туман, з вышыні імчыць вадаспад, стаяць шкілеты пад цьмянымі ліхтарамі. Страхоцце!

Уражвала арганізаванасць, зладжаная праца шматлікай абслугі. Тысячныя патокі наведнікаў напраўляліся ў патрэбнае рэчышча. Фабрыка задавальненняў працуе дакладна, як гадзіннік.

…Дабіраліся мы з Бостана да Сент-Пітэрзберга самалётам. Рэйс выбралі самы танны, затое нязручны і для нас, і асабліва для Ігара з Раісай: прыляталі ў аэрапорт горада Тампа апоўначы, а вылятаелі а шостай раніцы. Да Тампы каля 20 кіламетраў, а трэба ж прыехаць загадзя. Дзве бяссонныя ночы пераждылі нашы сябры. За гасціннасць, за культурную праграму, за шчодрае сонца Фларыды мы з жонкай ім вельмі ўдзячныя. Але і я стрымаў слова: паабяцаў выдаць прыпеўкі, якія сабрала Раіса, і кніжачка «Мой милёнок» убачыла свет з маёй прадмовай.

Мушу прызнацца, выдаць кніжку было няпроста, і вось чаму. Выдаўцоў напалохаў раздзел нецэнзурных, вельмі каларытных прыпевак. Я не прыхільнік нецэнзуршчыны, хоць далікатна каларытныя слоўцы, салёныя выразы ў мастацкіх творах можна і трэба ўжываць. Нашы выдаўцы хвалілі прыпеўкі, але… Адзін мой даўні знаёмец гарэзліва блісну ў акулярамі: «Ах, якія прыпеўкі! Чыталіся б нарасхват. Зрэшты, усё правільна. Не мацюкаецца толькі той, хто нічога не робіць. Але нашы выдавецкія чыноўнікі гэтага не разумеюць. Так што выдаць не магу. Не хачу, каб пазбавілі ліцэнзіі. А ў Расіі запраста гэта пройдзе». Вось чаму кніжка ўбачыла свет у Смаленскім выдавецтве «Край». Кніжачка сімпатычная, кішэннага фармату, хораша афармленая.

Нашы выдаўцы і крытыкі-артадоксы любяць гаварыць пра цнатлівасць беларускай літаратуры. Я таксама за цнатлівасць, але ўсё павінна быць у меру, каб наша мастацкая літаратура не была падобная на старую дзеву, якую ніхто не захацеў прылашчыць, а кнігу купіць і прачытаць. Наспеў час гэта зразумець чыноўнікам ад культуры…

Мяркую, што маім чытачам цікава было пабываць у слаўным горадзе Сент-Пітэрзбергу, адчуць водар кветак, цеплыню лагодных хваляў Карыбскага мора, спрадвечную прывабнасць пясчаных пляжаў. А мне Фларыда насамрэч будзе доўга сніцца і клікаць да сябе. Але скажу чэсна: жыць там я не хацеў бы. Я люблю нашу зіму, люблю чысцюткі іскрысты снег, марозлівую цішыню ў зімовым лесе. А хіба можна не любіць барвы залатой восені?! А вясновую чаромхавую квецень?! А блакітнае поле ільну ясным чэрвеньскім днём, калі шырознае поле і купал бязвоблачнага неба зліваюцца на небакраі?! Так, у нас чалавеку патрэбна шмат розных апранах, рознага абутку, на вясковым падворку — багата дроў. У Фларыдзе можна цэлы год прахадзіць у шортах і майцы…

Бывай, блаславёны Богам край! Хай шчасціць тваім жыхарам і шматлікім гасцям. Можа, і мне пашанцуе зноў наведаць Фларыду, адчуць яе гарачыя абдымкі.

# У праўдзе — дабрачыннасць

**Серафім Андраюк. Старонкі на захадзе сонца / Беласток: Prymat — 2016. — 246 с.**




Аўтары дзённікаў і ўспамінаў часта ўстрымліваюцца ад крытычных заўваг і каментавання тых ці іншых праблем. З аднаго боку, навошта засяроджвацца на адмоўным і дзяліцца негатывам з чытачом? З іншага боку, чытач шукае ва ўспамінах не толькі згадкі пра шчаслівыя падзеі накшталт прэзентацыі новай кнігі альбо расповеды пра вядомых творцаў, але і роздумы пра час, адказы на пытанне, чаму ў пэўны момант справы пайшлі не так, як трэба... Тым, хто чакае ад дакументалістыкі разваг і супастаўленняў, прапануем звярнуць увагу на кнігу Серафіма Андраюка «Старонкі на захадзе сонца», якая выйшла ў серыі «Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа»».

Серафім Андраюк — вядомы літаратуразнаўца, аўтар сямі кніг, адзін з аўтараў акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя». Бонус для навукоўцаў у гэтым выданні — бібліяграфія асноўных прац даследчыка. Не менш істотнай з'яўляецца і праца Серафіма Антонавіча як рэдактара: у 1981–1992 гадах ён узначальваў выдавецтва «Мастацкая літаратура», на гэтай адказнай пасадзе спачатку спазнаў ціск савецкай цэнзуры, а потым патрапіў пад супрацьстаянне рознаскіраваных «культурных сіл»...

Жыццё Серафіма Андраюка зусім не нагадвае гладкую роўную дарогу з маляўнічымі краявідамі — былі тут і затрымкі, і рытвіны, і калдобіны... Першым расчараваннем для сям'і Андраюкоў стаў пераезд з роднай вёскі Гардзялі (цяпер у Беластоцкім ваяводстве, Польшча) у беларускую вёсачку Бербашы. Пасля Вялікай айчыннай вайны Гардзялі апынуліся ў Польшчы, бацька і браты Серафіма Андраюка, паслухаўшы палымяныя заклікі партызанскага камісара Міхаіла Зімяніна, вырашылі ехаць у Савецкую Беларусь. Верыць савецкаму агітатару не варта было: «У параўнанні з тым, як мы жылі ў Польшчы, гэта было вельмі і вельмі дрэнна» — канстатуе аўтар. Прадказальна, галоўным святам для будучага даследчыка была вучоба ў школе і знаёмства з мастацкай літаратурай. Пра ўлюбёныя творы і ўлюбёных пісьменнікаў Серафім Андраюк згадвае напрацягу ўсёй кнігі.

Цікавасць да літаратуры, а таксама настойлівыя парады выкладчыка і навуковага кіраўніка Юльяна Пшыркова прывялі Серафіма Андраюка ў аспірантуру Акадэміі навук. Малады літаратуразнаўца ўзяўся пісаць дысертацыю па сучаснай літаратуры — і адпаведна пачаў друкаваць у перыёдыцы рэцэнзіі на новыя кнігі, пакрысе пазнаёміўся з літаратурным асяроддзем. Сябрамі Серафіма Антонавіча — «жывымі крыніцамі, якія лучаць са светам» — сталі Барыс Сачанка, Янка Сіпакоў, Іван Пташнікаў, Варлен Бечык. Вельмі хутка малады навуковец пераканаўся, як няпроста пісаць пра сучасную літаратуру і ацэньваць плён працы ўплывовых пісьменнікаў альбо аўтараў, з якімі маеш асабістае знаёмства.

Серафім Андраюк згадвае многіх вядомых людзей, з якімі даводзілася сутыкацца па літаратурных справах — і не заўсёды гэтыя сустрэчы ці працоўныя стасункі пакідалі найлепшыя ўражанні. Увогуле ж знакаміты прынцып «aut bene aut nihil» не на карысць біяграфіям класікаў. Вядомы творца — не толькі бадзёры, зычлівы, спагадлівы чалавек. Ён можа быць недаверлівым і скрытным, раздражнёным і ўсхваляваным, сухаватым і афіцыйным у сваім прасторным кабінеце з высокімі столямі. Ва ўспамінах Серафіма Антонавіча класікі ажываюць, робяцца звычайнымі, эмацыйнымі людзьмі, якія часам бываюць не ў гуморы — але істотна, што аўтар нязменна застаецца карэктным і тактоўным.

Праца ў «Мастацкай літаратуры» стала для Серафіма Андраюка нагодай для новых добрых знаёмстваў: з Міхалам Дубянецкім, Рыгорам Барадуліным, Язэпам Янушкевічам. Пад кіраўніцтвам Серафіма Антонавіча пабачылі свет факсімільныя выданні «самых яркіх кніг мінулага», а таксама шэраг зборнікаў, якія знаёмілі чытача з беларускай літаратурай замежжа.

Вядома, выдавецкая праца прадугледжвала шматлікія сутыкненні з цэнзурай. І тут трэба звярнуць увагу на сінтэтычнасць кнігі Серафіма Андраюка — гэта не толькі аўтарскі расповед, але і вялікая калекцыя цытат: вытрымкі з інтэрв'ю і ўспамінаў, дарчыя надпісы, аўтографы і, што найбольш цікава, даведкі «Галоўліта», запіскі з КДБ, з аддзела культуры ЦК КПБ са спісамі правак ці заўваг па канкрэтных творах. З гэтых дакументаў можна даведацца пра «негатыўныя моманты» і «суджэнні памылковага і сумніўнага характара» ў творах Васіля Быкава, Дзмітрыя Бугаёва, Адама Мальдзіса, з-за якіх рэдакцыя была вымушана скарачаць альбо здымаць пэўныя тэксты, вяртаць кнігі на дапрацоўку.

Зацікаўлены чытач можа атрымаць добрае ўяўленне пра савецкую цэнзуру дзякуючы такім выданням, як «Ладдзя роспачы» Уладзіміра Караткевіча, падрыхтаваная Глебам Лабадзенкам, альбо двухтомнік Сяргея Шапрана «Васіль Быкаў: гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». Дакументы ж, змешчаныя ў кнізе Серафіма Андраюка (і, безумоўна, аўтарскія каментары да іх) дазваляюць уявіць, наколькі псіхалагічна складанай была праца рэдактараў і выдаўцоў за савецкім часам: як даводзілася лавіраваць, часам саступаць, часам дыпламатычна адстойваць...

Напрацягу ўсёй кнігі аўтар спрабуе вызначыць, калі ж беларуская культура знаходзілася ў найбольш спрыяльных умовах? У савецкі час — пільны нагляд кантрольна-цэнзурнай службы. У пачатку 1990-х гадоў — фінансавыя цяжкасці. У незалежнай Беларусі — павелічэнне колькасці прыватных выдавецтваў, але зніжэнне цікавасці да кнігі... Цікавасць да кнігі — з'ява абстрактная, яе цяжка ўзважыць ці адмераць (улічваем, што мастацкія творы чытаюць таксама ў інтэрнэце), затое статыстыка — справа канкрэтная, і тут аўтар прыводзіць наступныя лічбы: у 1992 годзе ў «Мастацкай літаратуры» было выпушчана 177 кніг, з іх на беларускай мове — 143. А ў 2013 годзе ва ўсёй краіне з 799 кніг з мастацкімі творамі беларускіх аўтараў толькі 294 кнігі былі на беларускай мове.

Не ўсцешвае Серафіма Антонавіча і праца дзяржаўных выдавецтваў: калі раней лёс кнігі вырашалі рэцэнзент і рэдактар, а тэматычныя планы выдавецтва абмяркоўваліся на аўтарытэтным паседжанні Саюза пісьменнікаў, то цяпер рашэнне аб (не)выданні кнігі можа быць прынята адным чалавекам, у чым аўтар пераканаўся на ўласным досведзе колькі гадоў таму. Безумоўна, абмеркаванні рукапісаў у выдавецтвах былі бар'ерам для няякасных тэкстаў, разам з тым нядобразычліўцы маглі паўплываць на супольнае рашэнне, у чым Серафім Андраюк зноў жа пераканаўся на пачатку свайго творчага шляху.

«Старонкі на захадзе сонца» — цікавы матэрыял для роздумаў над праблемамі айчыннага кнігавыдання, сам жа даследчык прыходзіць да высновы, што «ў сённяшняй нашай Рэспубліцы Беларусь менш беларускасці, чым у той рэспубліцы, якая была ў складзе вялікай дзяржавы СССР».

Аўтар прадмовы да кнігі літаратуразнаўца Яўген Гарадніцкі падкрэслівае, што для Андраюка-даследчыка заўсёды была істотнай праўдзівасць літаратуранага твора. Ва ўспамінах Серафім Антонавіч, натуральна, імкнуўся быць праўдзівым як перад чытачом, так і перад самім сабой, і нават больш — у дачыненні да самога сябе. Ён не толькі згадвае пра сацыяльныя, культурныя, палітычныя праблемы, але і адзначае, што рэдактарская праца над кнігамі «зніжае градус агульнага захаплення імі», што беларусам уласцівыя «ўнутраная скаванасць, адчуванне, быццам ты горшы ледзь не за ўсіх астатніх», — і гэты стан вельмі важна пераадолець, каб упэўнена пачувацца ў любой прафесійнай сферы.

Безумоўна, у кнізе ёсць і прыемныя ўспаміны, расповед пра сям'ю і блізкіх людзей — але ў гэтым сэнсе аўтар знаходзіць правільную прапорцыю: вядома, чытача найбольш цікавіць культурнае жыццё, і больш расповедаў пра сямейныя, прыватныя справы — нагода для больш шырокіх падагульненняў і супастаўленняў.

У «Старонках на захадзе сонца» аўтар настойліва параўноўвае мінулае і сучаснасць. І, напрыклад, адзначае, што сучасныя людзі жывуць менш актыўна, чым іх бацькі ў маладосці: радзей наведваюць музеі, тэатры. «Унутрана сённяшні чалавек імкнецца жыць як мага спакайней. Мауляў, раздражняльнікаў хапае знешніх, навошта яшчэ самому ствараць іх».

Успаміны Серафіма Андраюка друкаваліся ў часопісе «Тэрмапілы» ў 2013–2016 гадах і пабачылі свет асобным выданнем пры спрыянні літаратуразнаўцаў Галіны Тварановіч і Яна Чыквіна.

На жаль, не ўсе паважаныя літаратары наважваюцца напісаць такія шчырыя ўспаміны, узгадаць праблемы і непаразуменні, якія надараліся ва ўласным жыцці і ў большай ці меншай ступені былі абумоўлены грамадска-палітычнай сітуацыяй. Вядома, ацэнка падзей ва ўспамінах заўсёды суб'ектыўная, але вялікая вартасць твораў гэтага жанра — магчымасць паглядзець на падзеі мінулага вачыма іх непасрэдных удзельнікаў, што пашырае наша ўяўленне пра пэўную эпоху. Таму кніга Серафіма Андраюка — той выпадак, калі старажытныя рымляне з павагай адзначалі: «In recto virtus» — у праўдзе дабрачыннасць.

**Алеся Лапіцкая**

## 9 аўдыёкніг Свэна Нурдквіста

**Два гады мінула з таго, як у Саюзе беларускіх пісьменнікаў выйшла першая кніжка пра Пэтсана і Фіндуса. За гэты час гісторыі пра вяскоўца Пэтсана і няўрымслівага катка Фіндуса сталі найлепш прадаванымі і, без перабольшання, улюбёнымі кнігамі беларускіх дзетак. Да сёлетніх Калядаў прапануецца новы падарунак — скарбонка з дзевяццю аўдыёкнігамі пра Пэтсана і Фіндуса!**




Цёплыя і смешныя гісторыі пра прыгоды дзядулі Пэтсана і коціка Фіндуса, створаныя шведскім пісьменнікам і мастаком Свэнам Нурдквістам, вядомы і любімыя дзецьмі ды іх бацькамі ў многіх краінах свету, перакладзеныя на 44 мовы і разышліся накладам больш як 6 мільёнаў экзэмпляраў. Два гады таму дзядуля і коцік упершыню загаварылі па-беларуску дзякуючы перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч, а ў 2017-м усе папяровыя выданні і не выдадзеныя яшчэ кнігі акцёры Купалаўскага тэатра Ганна Хітрык і Павел Харланчук начыталі ў студыі NERV Records.

Купляйце аўдыёкнігі пра Пэтсана і Фіндуса ў мінскіх кнігарнях і ў кніганошаў.

З дасылкай па Беларусі: Інтэрнэт-кнігарня Knihi.by і symbal.by.

**Прэс-служба СБП**

# Прэмія «Книгуру»

**Пераможцы 8-га сезона расійскай прэміі «Книгуру», якая прысуджаецца за лепшыя тэксты для дзяцей і падлеткаў, былі абвешчаныя ў Маскве.**




Першае месца журы аддало Ліліі Волкавай за аповесць «Под созвездием Бродячих псов», другое заняла Антаніна Малышава за аповесць «Кот забвения», трэцяе заняў Станіслаў Вастокаў за аповесць «Брат-юннат».

Эксперт прэміі пісьменнік Шаміль Ідзіатулін адзначыў: «У дзіцячай літаратуры роля вырашальная. Кніга застаецца самым універсальным інструментам, якіператварае дзіцё ў чалавека. Літаратура павінна адпавядаць эпосе. Калі чытач сустракае тэкст не свайго часу, ён не лічыць яго сумленным — і мы губляем чытача. Тады мы не выгадуем чалавека, які зробіць вялікі крок для чалавецтва. А калі дзіця ці падлетак не будзе вучыцца на літаратуры, яму застаецца вучыцца толькі на сваім прыкладзе. Гэта не заўсёды бяспечна. І ў прэміі ў гэтым сэнсе — экалагічная ніша: «кнігурушныя» пісьменнікі ўмеюць гаварыць з чытачом на складаныя і сур'ёзныя тэмы».

Сёлета на конкурс прыйшло 613 твораў. Усе тэксты кароткага спісу прэміі былі размешчаны на сайце kniguru.info для свабоднага чытання.

Конкурс на лепшы твор для дзяцей і падлеткаў «Книгуру» быў заснаваны ў 2010 годзе Федэральным агенцтвам па друку і масавых камунікацыях Расіі і Цэнтрам падтрымкі айчыннай славеснасці. Асаблівасцю прэміі з'яўляецца тое, што лаўрэатаў вызначаюць па выніках галасавання чытачоў ад 10 да 16 гадоў.




# На новых купюрах Ізраіля — паэтэсы

**Паводле паведамлення ізраільскага канала «9tv» са спасылкай на відэаматэрыял Банка Ізраіля, у краіне ўвялі ў абарот новыя банкноты наміналам 20 і 100 шэкеляў, якія паступілі ва ўсе банкаматы краіны.**

Замест мужчын — першага міністра замежных спраў Ізраіля Мошэ Шарэта і другога прэзідэнта краіны Іцхака Бэн-Цві — на новых банкнотах намаляваныя жанчыны: паэткі Рахель і Лея Гольдберг.

У матэрыяле было адзначана, што новыя купюры лепш абаронены ад падробак: маюць вадзяны знак у выглядзе партрэта, мікратэкст, схаваны малюнак номінала, які бачны пры нахіле банкноты, УФ-элементы, галаграфічную ахоўную нітку і галаграфічную стужку, а таксама фарбу OVI, якая ўтрымлівае аптычна зменныя пігменты, што рэзка змяняе колер у залежнасці ад вугла зроку ці асвятлення.

На банкнотах таксама ёсць знакі для сляпых і са слабым зрокам — мікраперфарацыя і рэльефны друк.

Аднак Банк Ізраіля адзначыў, што не варта спяшацца мяняць старыя купюры ўзора 1999 года на новыя, бо яны застануцца ў абароце яшчэ на працягу дзесяці гадоў і будуць скасоўвацца са звароту паступова.

Цікава, што на купюрах наміналам 50 шэкеляў надрукавана выява паэта Шауля Чарняхоўскага, а на 200 шэкелях — выява паэта і драматурга Натана Альтэрмана.

# «Ленін» і «Вялікая кніга»

**У Маскве абвясцілі лаўрэатаў літаратурнай прэміі «Вялікая кніга». Урачыстую цырымонію ўзнагароджання прысвяцілі... стагоддзю кастрычніцкага пераварота.**

Залу ўпрыгожылі плакатамі з надпісамі «Больш кніг», «Вітаем дэлегатаў!», а над сцэнай красаваўся лозунг «Уся ўлада рускай літаратуры!». Перад гасцямі вечарыны нават выступіў «Ленін», які горача накінуўся на сучасны літаратурны лад, чым нямала павесяліў прысутных. Не прамінуў ён магчымасці і пакрытыкаваць журы — за тое, што ў кароткім спісе цяперашняга сезона адсутнічалі жанчыны-пісьменніцы.

Хвілінай маўчання на цырымоніі ўшанавалі памяць памерлых у гэтым годзе аўтараў: Данііла Граніна, Яўгена Еўтушэнку і Уладзіміра Маканіна, якія ў розны час станавіліся лаўрэатамі «Вялікай кнігі».

Першае месца заняў Леў Данілкін з кнігай «Ленин. Пантократор солнечных пылинок». На другім — Сяргей Шаргуноў з творам «Катаев: «Погоня за вечной весной»». Трэці прыз атрымаў Шаміль Ідзіатулін з працай «Город Брэжнеў».

Пераможцам чытацкага галасавання ў 2017 годзе стаў Сяргей Шаргуноў. Спецпрыз гэтага года атрымала Вікторыя Токарава.

Грашовы памер першай прэміі склаў тры мільёны расійскіх рублёў (каля 50 000 даляраў ЗША), другой — 1,5 мільёна, трэцяй — адзін мільён.

# Юбілей Сумарокава

**Аднаму з першых расійскіх прафесійных літаратараў, карэспандэнту Вальтэра споўнілася 300 гадоў.**

Аляксандр Пятровіч Сумарокаў праслявіўся не толькі заслугамі ў галіне літаратуры і мастацтва, але і неспакойным норавам, сварлівым характарам і вельмі заблытаным асабістым жыццём.

«Дасылаю табе каштоўнасць: данос Сумарокава на Ламаносава. Арыгінал з уласнаручным подпісам бачыў я ў Івана Іванавіча Дзмітрыева...», — пісаў у 1830 годзе Пушкін Пятру Вяземскаму. Вяземскі той данос апублікаваў. Сумарокаў у ім скардзіцца на спагнанне з яго грошай за надрукаваныя яго трагедыі ў друкарні Акадэміі навук, вінаваціць ва ўсім Ламаносава, называе яго злыднем, п'яніцам і вар'ятам.

Дарэчы, у першы час знаёмства ў Сумарокава і Ламаносава былі цалкам сяброўскія адносіны. Яны сапсаваліся пазней, калі Сумарокаў паверыў у сваю выключнасць і геніяльнасць. Ён называў сябе пачынальнікам новай літаратуры. І многія менавіта такім яго і бачылі.

У 1747 годзе выйшла трагедыя Сумарокава «Хорев». Праз год — «Гамлет». З гэтага і пачалася яго літаратурная слава. Пастаноўкі п'есы адбываліся пры імператарскім двары, прычым з удзелам самога Сумарокава. Трагедыя мела поспех.

У Яраслаўлі ў той час купец Фёдар Волкаў вырашыў зладзіць свой тэатр. Пра яго пачулі, далажылі імператрыцы Лізавеце. Волкава і яго акцёраў прывезлі ў Пецярбург. І неўзабаве з'явіўся першы пастаянны рускі тэатр. А дырэктарам яго стаў Сумарокаў.

На пасадзе дырэктара тэатра Сумарокаў прабыў да 1761 года. Ён пісаў трагедыі, камедыі, выступаў рэжысёрам, настаўнікам акцёрскай дэкламацыі, адміністратарам. Але і сварыўся, раздражняўся на невуцтва, нажываў ворагаў...

З першай жонкай разышоўся ў 1766 годзе. Ажаніўся з прыгоннай дзяўчынай Верай Прохаравай (дачкой фурмана), з-за чаго пасварыўся з раднёй. Пасля смерці жонкі, каб не пазбаўляць прыжытых дзяцей правоў на спадчыну, абвянчаўся з пляменніцай Веры.



Яго прыдворная кар'ера была кароткачасовай. Сумарокаў раздражняў Кацярыну. У 1769 ён пакінуў рэзідэнцыю імператрыцы і пераехаў у Маскву. Апошнія гады правёў у беднасці і ў судовых працэсах. Пакутаваў нервовым засмучэннем, пачаў слепнуць, вымушаны быў прадаць дом і бібліятэку і памёр у невядомасці і адзіноце.

Хавалі яго маскоўскія акцёры на Данскіх могілках. Ужо ў пачатку XIX стагоддзя не ведалі, дзе знаходзіцца магіла пісьменніка...

**Мікалай Аляксандраў**

# Выстава пра таямніцы Салжаніцына

**Як паведаміла прэс-служба музея-запаведніка «Царыцына», у музеі адкрылася маштабная выстава «Пісьменнік і таямніца: Аляксандр Салжаніцын», якая стала першай у шэрагу памятных мерапрыемстваў, звязаных з 100-гадовым юбілеем пісьменніка.**

Асноўнай тэмай выставы з'яўляюцца таямніцы Салжаніцына, гісторыя і метады канспірацыі, якія пісьменніку давялося асвоіць і практыкаваць у лагеры



і ссылцы, каб таемна пісаць свае творы. На працягу дзесяцігоддзяў пастаяннай задачай Салжаніцына было захаванне самога факта творчасці: паасобныя творы чакалі сваіх першых чытачоў гадамі. Напрыклад, аўтабіяграфічная паэма «Дарожанька», напісаная ў лагеры прымусовай працы, некалькі гадоў існавала толькі ў памяці аўтара. У адзіноце ствараўся і знакаміты раман «У крузе першым». «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцын пісаў у Эстоніі, — з меркаваннеў строгай канспірацыі нават не маючы ўсяго напісанага тэксту...

На выставе прадстаўлены рукапісы і асабістыя рэчы пісьменніка. Аповед пра «канспіратыўную» дзейнасць дапаўняюць наглядныя схемы і ўрыўкі дакументальных фільмаў ды тэлевізійных перадач.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by


Фота www.playbuzz.com

**Швэдар у часы кліматычных зменаў і пацяплення надвор'я — рэч непрактычная. Паводле сацыёлагаў, у 35 працэнтах выпадкаў швэдры носяць адзін раз на год, падчас калядных святаў. Пасля іх папросту выкідаюць, і некаторыя эколагі абвінавацілі адзенне ў тым, што яно кансервуе спажывецкую і антыэкалагічную калектыўную свядомасць**

# Забараніць швэдар

Алег НОВІКАЎ

**Апошнім часам у нас, таксама як і на Захадзе, становіцца папулярным у якасці падарункаў класці пад ялінку так званыя калядныя швэдры.**

Між тым у Вялікабрытаніі — краіне, дзе паўстала гэтая традыцыя, — цяпер заклікаюць тыя швэдры ледзь не забараніць.

Паводле брытанскіх культуролагаў, мода насіць швэдар на Каляды паўстала ў 1980-х гадах, калі гэтае адзенне з'явілася ў гардэробе шэрагу вядомых шоумэнаў. Адначасна такі фасон спадабаўся некаторым музыкам, якія вырашылі так апранацца на мясцовыя аналагі нашага «Блакітнага агеньчыка». Аўдыторыі навінка вельмі спадабалася. У тым ліку за кошт стэрэатыпу, што калядныя швэдры, маўляў, арыгінальны самаробны прадукт майстрых.

Праўда, ёсць і іншая думка. Кажуць, што сапраўдны бум на швэдры пачаўся пасля экранізацыі кнігі Хелен Філдзінг «Дзённік Брыджыт Джонс». У фільме, які стаў культавым для пакалення канца 1990-х гадоў, ёсць сцэна — гераіня сустракае будучага каханка, які апрануты менавіта ў такі калядны швэдар.

Так ці інакш, на мяжы стагоддзяў швэдар стаў абавязковым элементам рытуалу сустрэчы Калядаў і Новага года. Дастаткова сказаць, што якраз у швэдры брытанскі прэм'ер Тэрэза Мэй віншавала суайчыннікаў з гэтымі Калядамі.

Натуральна, швэдры ператварыліся ў вялікі бізнес. Іх можна, напрыклад, рэгулярна пабачыць у зімовых калекцыях такіх вядомых брэндаў, як Marks&Spencers або C&A. Паводле прэсы, на працягу апошняй дэкады продажы швэдраў праз сістэму Amazon штогод раслі на 600 працэнтаў.

Паступова паўсталі новыя запыты наконт дызайну швэдраў. Вельмі часта на іх выяўляюць нейкія правакацыйныя і рамантычныя малюнкі або лога. Напрыклад, адзін з левых сайтаў у інтэрнэце прапануе набыць швэдар з надпісам: «На Каляды я хачу ад Санта-Клауса зямлю, заводы і фабрыкі». Грамадскія кампаніі кшталту «Save the Children» за кошт продажаў калядных швэдраў спрабуюць збіраць грошы на гуманітарныя мэты.

Усё было добра, пакуль у гэтым годзе ў швэдрах не пабачылі меганегатыў. Гучаць заклікі як мінімум адмовіцца ад іх. Прычынаў на карысць забароны швэдраў хапае. Па-першае, яны страцілі статус арыгінальнага падарунка. На цяперашні дзень, паводле статыстыкі, кожны другі жыхар Альбіёну мае дома швэдар, які яму падаравалі на Каляды. Тым не менш, людзі ўпарта працягваюць набываць іх толькі праз нейкі арыгінальны надпіс.

Па-другое, швэдар у часы кліматычных зменаў і пацяплення надвор'я — рэч абсалютна непрактычная. Нездарма, паводле сацыёлагаў, у 35 працэнтах выпадкаў швэдры, як правіла, носяць толькі адзін раз на год, падчас тых жа самых калядных святаў. Вельмі часта пасля Калядаў іх папросту выкідаюць, каб не захламляць гардэроб. Іншымі словамі, калядны швэдар ператвараецца ў аднаразовую вопратку. Як вынік, некаторыя эколагі абвінавацілі адзенне ў тым, што яно кансервуе спажывецкую і антыэкалагічную калектыўную свядомасць.



Несур'ёзнае стаўленне да калядных падарункаў, на думку грамадскасці, спрыяе інфляцыі свята. Каляды пачынаюць успрымацца як нейкія закупы або атрыманне ў якасці падарункаў прадметаў аднаразовага выкарыстання.

Прапанова пра забарону швэдраў выклікала цікавую рэакцыю. Напрыклад, яе падтрымалі ў Аўстраліі. Жыхары гэтага кантыненту, як вядома, далёка не паўночнага, праз глабальную моду на швэдры таксама вымушаныя дарыць іх адзін аднаму. Натуральна, насіць такую вопратку ў Аўстраліі не выпадае.

З'явіліся ў швэдраў і свае адвакаты. На іх думку, эколагі, па сутнасці, агітуюць за тое, каб максімальна доўга захоўваць старыя рэчы. Такая ўстаноўка робіць людзей падобнымі на вядомага багацея-скнару Скруджа — несімпатычнага героя з вядомай каляднай казкі Дыкенса. Пішуць, што тэма кантролю над выкарыстаннем швэдраў — не што іншае, як алібі для дзяржавы яшчэ больш кантраляваць прыватнае жыццё грамадзян. Мясцовыя патрыёты, натуральна, пабачылі ў агітках эколагаў замах на помнікі брытанскай народнай культуры.

Такім чынам, контраргументаў у абарону швэдраў таксама хапае. Не абышлося, дарэчы, без арыгінальных рэцэптаў вырашэння пытання. Хелен Філдзінг заклікаюць напісаць працяг прыгод Брыджыт Джонс. На старонках новай кнігі, маўляў, калядныя швэдры павінны насіць толькі дурні, вар'яты і іншыя адмоўныя асобы, што цалкам пахавае моду на гэтае, як цяпер высвятляецца, спрэчнае адзенне.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь легалізавала здзелкі ў крыптавалютах, гэта частка намаганняў па нарошчванні тэмпаў росту прыватнага сектара і прыцягнення замежных інвестыцый шляхам лібералізацыі асобных сектараў сваёй эканомікі. Бліскучыя перспектывы ІТ-індустрыі непараўнальныя з сітуацыяй у іншых сектарах беларускай эканомікі, у цэнтры якіх па-ранейшаму застаюцца стратныя дзяржаўныя прадпрыемствы, амаль ці зусім нерэфармаваныя пасля краху Савецкага Саюза.

**«Reuters» (Вялікабрытанія)**

Зразумела, што паміж дэкрэтам і яго рэалізацыяй — вялікая прорва. Зразумела і тое, што суперпрагрэсіўны ІТ-сектар будзе дзівакавата глядзецца на фоне народнай гаспадаркі Беларусі. Акрамя таго, неабходнасць дэмакратызацыі грамадскага жыцця ніхто не адмяняў. Але гаворка не пра гэта, а пра гатоўнасць да рашучых, сапраўды рэвалюцыйных крокаў у суседзяў, якія заўсёды адрозніваліся падвышанай асцярогай, стрыманасцю ў адносінах да навацый, калі не сказаць рэакцыйнасцю. Айчынныя айцішнікі ўсурёз прыглядаюцца да «Парку высокіх тэхналогій» Беларусі: праца там, падобна, будзе больш займальнай і прывабнай, чым дома.

**«Контракти» (Украіна)**

Беларусь вельмі хоча атрымаць статус новай Швейцарыі для Усходняй Еўропы. Зрабіць такі цэнтр разлікаў, міжнародны фінансавы цэнтр, і шукае ўсялякія варыянты. Натуральна, будзе выкарыстоўвацца і гэтая хваля з крыптавалютамі таксама. Але патрэбныя інвестыцыі, грошы, гэта ж не можа нарадзіцца з нічога. Амбіцыйна-прапагандысцкае рашэнне, не болей за тое.

**«Русский репортер» (Расія)**

Пуцін не павіншуе беларусаў з новым годам: нават расійскія каналы, якія транслююцца ў Беларусі, не будуць паказваць навагодняе віншаванне кіраўніка РФ. Канешне, будуць, але ў самой Расіі. У Беларусі выступ Пуціна заменяць фільмамі, жартамі, прымаўкамі альбо віншаваннем Аляксандра Лукашэнкі. Кажуць, як Новы год сустрэнеш, так і правядзеш. Гэта заяўка на контуры інфармацыйнай палітыкі ў Беларусі на 2018 год.

**«Nova Ukraina» (Украіна)**

Пасля навагодніх святаў у Мінску чакаюць дэлегацыю ЕС. У ліку галоўных пытанняў, якія трэба будзе абмеркаваць, — зніжэнне кошту віз для грамадзян Беларусі. Гэта можа стаць першым вынікам збліжэння Мінска і Бруселя, які адчуюць простыя жыхары.

**«Независимая газета» (Расія)**

Адзіная слабенькая інтрыга брусельскага саміту была ў тым, ці прыедзе на яго кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Калі б прыехаў, то гэта можна было б назваць прарывам у адносінах Еўрасаюза з Рэспублікай Беларусь: пачаткам «дрэйфу» Мінска ў бок Захаду, паслабленнем міжнародных пазіцый Крамля, адыходам ад Расіі і саюзнай дзяржавы. Лукашэнка не прыехаў. На гэтым саміт «Усходняга партнёрства» скончыўся яшчэ да адкрыцця.

**«Русбалт» (Расія)**

Перакладаючы стратэгічныя пытанні бяспекі на інстытуты Саюзнай дзяржавы, беларускія сілавікі становяцца аперацыйнымі менеджарамі на сваёй тэрыторыі, бо вымушаныя замяніць нацыянальныя інтарэсы інтарэсамі «адзінай прасторы бяспекі» Саюзнай дзяржавы. У існуючых абставінах Беларусь страціла магчымасць збалансаваць інтарэсы Крамля і Кіева на сваёй тэрыторыі. Пры любых самых цёплых пачуццях Лукашэнкі да Украіны, ва ўмовах расійска-ўкраінскага канфлікту, а таксама яго гібрыднага характару сёння ўжо немагчыма захаваць двухбаковыя адносіны на ўзроўні «партнёрства» на знешніх трэках рэгіянальнай і глабальнай палітыкі.

**«Хвиля» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Юбілей вяртання «ё»

Семдзесят пяць гадоў таму, 24 снежня 1942 года, адбыўся незвычайны эпізод у гісторыі лінгвістыкі. Сталін выдаў загад аб абавязковым ужыванні літары «ё». Нагадаем, што «ё» знікла з рускага алфавіту ў 1918-м падчас бальшавіцкай рэформы правапісу, але ідэалогіі за гэтым не было. Літара знікла таму, што ў друкарнях патрабаваліся асаблівыя літары з «ё», а металу ва ўмовах грамадзянскай вайны не было. Рэабілітацыя «ё» у 1942-м выклікае здзіўленне. Загад быў выдадзены ў цяжкі ваенны час. Адзіная больш-менш салідная версія — у гэты час актыўна ішло адраджэнне рускіх імперскіх традыцый. Літара «ё», відавочна, адсылала да культурных каштоўнасцяў ранейшага часу. Нарэшце, згодна з легендай, выданню загаду папярэднічала гісторыя, калі Сталін груба абышоўся з адным чыноўнікам за тое, што той прынёс яму на подпіс пастанову, у якой прозвішчы некалькіх генералаў былі надрукаваныя без літары «ё». Пасля смерці Сталіна ў 1956-м было вырашана, што выкарыстанне «ё» неабавязковае. Сёння «ё» на пісьме амаль нідзе не ўжываецца, але прысутнічае ў гаворцы. Напэўна таму «ё» не выключаюць з алфавіту.

**Паводле расійскай прэсы**

### СЕРБІЯ. Ялінка як нагода для рэвалюцыі

Ва ўсіх гарадах Еўропы Каляды і Новы год — звычайнае свята, а вось у Бялградзе святкаванне можа выліцца ў вялікія беспарадкі. Прычына — 18-метровая ялінка, якую паставіў на галоўнай плошчы мясцовы муніцыпалітэт. Як высветлілася, бялградская ялінка — самая дарагая ялінка ва ўсёй Еўропе і, магчыма, нават ва ўсім свеце. Яна каштавала гарадскому бюджэту 83 тысячы еўра. Раней бургамістр ужо быў фігурантам шэрагу карупцыйных скандалаў. Самы вялікі ў гэтай серыі — набыццё 24 дамоў на балгарскіх курортах з невядомых сродкаў. Не дзіўна, што грамадскасць успрыняла дарагую ялінку як чарговую аферу. Цяпер уся Сербія пратэстуе і патрабуе арыштаваць мэра. Прычым гэта патрабаванне набыло форму просьбаў на адрас Санта Клаўса. За кароткі час адпаведную петыцыю казачнаму персанажу даслалі каля ста тысяч жыхароў гораду. Калі Санта да 31 снежня не выканае просьбу, то бялградцы гатовыя рэалізаваць сваю навагоднюю мару праз вулічны бунт.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. «Іронія лёсу» ў законе

Вялікі рэжысёр Эльдар Разанаў памёр у 2015-м, аднак яго фільмы да гэтага часу з'яўляюцца тэмай спрэчак. Украінскія чыноўнікі нечакана рэабілітавалі яго фільм «Іронія лёсу, або З лёгкай парай». Два гады таму Служба бяспекі Украіны (СБУ) уключыла фільм у «чорны спіс» у сувязі з тым, што рэжысёр у свой час падпісаў ліст на адрас кіраўніка Расіі ў падтрымку анексіі Крыму. Рашэнне СБУ на той час выклікала пратэст, паколькі фільмы Разанава моцна паўплывалі на рост апазіцыйных настрояў у СССР. Але зараз тое рашэнне адмянілі. Такім чынам, у навагоднія святы ўкраінскія тэлеканалы зноў рыхтуюцца ўключыць знакамітую камедыю Разанава ў праграмную сетку. Самае смешнае, што адначасова Першы канал у Расіі вырашыў упершыню за 10 гадоў не паказваць прыгоды Жэні Лукашына. Больш за тое, з'явіліся чуткі, што гэта не выпадковае рашэнне, а частка дзяржаўнай палітыкі. У Крамлі, нібыта, заклапочаныя тым, што моладзь перастала глядзець тэлевізар. З гэтай мэтай прапануецца мадэрнізаваць кантэнт тэлебачання, і, у прыватнасці, замяніць «Іронію лёсу» на больш папулярны сярод расійскай моладзі камедыйны цыкл «Елкі».

**Паводле расійскай і ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Загадка Галісіі

Іспанцы ламаюць галаву над загадкай гарадка Вілабла. Чамусьці менавіта жыхары гэтага гарадку, дзе жыве ўсяго 15 тысяч чалавек, сталі галоўнымі пераможцамі самай славутай іспанскай латарэі «Lotería de Navidad». Гэта латарэя існуе з 1811 года і на цяперашні час стала нацыянальнай падзеяй. Пра гэта сведчыць прызавы фонд гульні, які ў гэтым годзе склаў 2,4 мільярды еўра. З гэтай сумы 520 мільёнаў дзіўным чынам дасталася жыхарам той самай Вілаблы. Сітуацыя даходзіць да фантастычнай. Напрыклад, заўсёднікі-алкаголікі аднаго бара нечакана атрымалі прыз памерам у 220 мільёнаў еўра. У пошуках адказу некаторыя ўзгадалі, што адзін з заснавальнікаў «Lotería de Navidad» паходзіць з вёскі, якая палягае непадалёк да Вілаблы. У любым выпадку, пераможцамі латарэі галісійцы не сталі. Галоўны прыз атрымаў адзін з жыхароў прыгараду Мадрыду, які выйграў каля 4 мільёнаў еўра.

**Паводле іспанскай прэсы**

# 2018 Ад хворага Пуціна да бліцкрыгу марсіянаў

Алег НОВІКАЎ

**Які Новы год без прадказанняў будучыні? Аўтары гэтых твораў часам папросту шакуюць. Прапануем дайджэст самых незвычайных прагнозаў на бліжэйшы год.**

Лагічна пачаць з вялікай палітыкі. У спектры прагнозаў на гэты конт можна вылучыць Святлану Драган, якая чакае ў будучым годзе ўстанаўлення дыктатур у большасці краінаў свету. Гісторык Анатоль Блахін мяркуе, што ў 2018-м Еўрасаюз пяройдзе да мадэлі «крэпасць у аблозе» для абароны ад мігрантаў-мусульман. Цікавымі могуць падацца і прагнозы, зробленыя ў свой час амерыканскім містыкам і медыумам Эдгарам Кейсі. Прарок прадказваў, што ў ЗША можа адбыцца путч. Казахскі медыум Вера Ліён бачыць дэструктыўныя працэсы ў NATO, і нават магчымы канфлікт паміж ЗША і ФРГ. Мае сэнс згадаць і амерыканца Дэніёна Брынклі, які не выключае, што ў ЗША распачнецца масавы голад.

А вось Ванга чакала ў 2018-м рэзкі ўзлёт магутнасці Кітаю. Пакуль цяжка зразумець, за кошт якіх фактараў адбудзецца той якасны скачок. Зрэшты, усе цяперашнія геапалітычныя прагнозы Вангі — гэта не яе словы, а пераказ людзей, якія нібыта мелі зносіны з памерлай. Гэтыя ж людзі кажуць, што Ванга абяцала ў 2018-м пачатак каланізацыі Венеры.

Што да рэгіянальнага ўзроўню, то тут сваю ролю адыгрывае гістарычны каляндар. Прынамсі, так думае ўкраінскі палітолаг Сяргей Дацук. Ён упэўнены, што каталізатарам міжнароднай дэстабілізацыі выступіць стогадовы юбілей заканчэння Першай сусветнай вайны. Гадавіна выкліча ўздым рэваншысцкіх настрояў, напрыклад, у Венгрыі, якая па выніках вайны страціла больш за палову сваёй тэрыторыі. На думку палітолага, у наэлектрызаванай грамадскай атмасферы Будапешт можа рашыцца на небяспечную авантуру — паспрабуе далучыць тую частку ўкраінскага Закарпацця, дзе жывуць этнічныя венгры. Варта таксама чакаць неадэкватных палітычных захадаў ад Румыніі ў сувязі са стагоддзем анексіі Бесарабіі.

Што тычыцца прагнозаў наконт самой Украіны, то тут практычна ўсе згаджаюцца, што ў 2018 годзе пачнецца абвастрэнне існуючага палітычнага крызісу. А вось агульнага меркавання наконт развязкі супрацьстаяння няма. Найбольш арыгінальны варыянт прапануе Павел Глоба. Ён прадказвае ўваходжанне Украіны ў нейкі Усходнееўрапейскі Саюз, кіраваць якім будзе Расія. Зрэшты, пасля таго, як у 2010-м Глоба прадказаў перамогу на прэзідэнцкіх выбарах ва Украіне Юліі Цімашэнка, яго прагнозы асабліва не каціруюцца.

Сярод іншых украінскіх «касандраў» трэба адзначыць Улада Роса, якому бачыцца, як у 2018-м Крым стане часткай... Турцыі. А вось астролаг Валер Маскавічэнка ўпэўнены, што сітуацыя ва Украіне нармалізуецца з-за сур'ёзнага пагаршэння здароўя Пуціна. Пасля гэтага Расія будзе занадта занятая ўнутранымі праблемамі, каб адцягвацца на знешнепалітычныя аспекты — у тым ліку і ва Украіне.

Зрэшты, ёсць і іншыя меркаванні наконт бліжэйшай будучыні Расіі. Расійскі эканаміст Міхаіл Хазін мяркуе, што пасля прэзідэнцкай інаўгурацыі Уладзіміра Пуціна ў наступным маі Федэрацыя канчаткова адмовіцца ад мадэлі ліберальнай эканомікі і пачне будаваць свой варыянт «чучхэ». Выбару на карысць пошуку новай фармацыі будзе спрыяць пакет амерыканскіх санкцый, які запрацуе ў лютым.

Што тычыцца тэмы сакавіцкіх выбараў кіраўніка РФ, то тут пракрамлёўскія эксперты далі волю фантазіі. Напрыклад, палітолаг Сяргей Маркаў, разважаючы аб магчымых формах умяшання Захаду ў выбарчую кампанію, не выключыў забойства яго агентамі аднаго з апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты. Замах, мяркуе, павінен дыскрэдытаваць рэжым і выклікаць недавер да вынікаў галасавання.

Здзівіў легенда бразільскага і сусветнага футболу Пеле, які падзяліўся меркаваннем аб магчымым пераможцы Чэмпіянату свету 2018 года. Зорка футболу не выключае, што Мундыяль выйграе зборная Расіі. З улікам рэкордна нізкага рэйтынгу расійскай каманды, у прагноз не паверылі нават шматлікія патрыёты Расіі. У інтэрнэце яны рэагуюць на словы Пеле рэплікамі кшталту «Малайчына Пеле — нягледзячы на хваробу Альцгеймера, захаваў пачуццё гумару».

І, нарэшце, пра надвор'е. Калі верыць словам экстрасэнса Аляксандра Шэпса, прыродныя катаклізмы закрануць заходнія часткі Еўропы і Амерыкі. У пошуках выратавання еўрапейцы і амерыканцы павернуць свой погляд на... Заходнюю Сібір, куды пачнуць масава перасяляцца. Цікава, што знаўцы Настрадамуса ў наступным годзе чакаюць, наадварот, шматмесячных пажараў у Сібіры і вывяржэнняў вулканаў на Далёкім Усходзе, што лагічна прывядзе да адтоку насельніцтва з гэтага рэгіёну.

Ну і, вядома, якія ж навагоднія прагнозы без тэмы пра інтэрвенцыю на Зямлю іншапланецян? Брытанскі таблоід «The Sun» піша, што акупацыя планеты адбудзецца ўжо 1 студзеня 2018-га. У артыкуле сцвярджаецца: падступныя прышэльцы маюць намер скарыстацца тым, што чалавецтва, захопленае святкаваннем Новага года, не будзе гатовае да атакі. Так што асабліва не здзіўляйцеся, калі з навагодняга пахмелля выявіце побач за сталом зялёнага чалавечка.


Фота www.taringa.net

# Падарунак для дыктатара

Алег НОВІКАЎ

**Самыя вясёлыя Каляды ў свеце, напэўна, атрымаліся ў Перу, дзе падчас святкаванняў амніставалі экс-прэзідэнта Альберта Фухіморы, якога ў свой час выправілі на нары за парушэнне правоў чалавека.**


Фота www.bnr.bg

Калі б не пастанова прэзідэнта Пабла Кучынскага, Фухіморы (ён кіраваў краінай з 1990 па 2000 год) выйшаў бы з турмы прыблізна ў 2030-м годзе. Нагадаем, што ў месцы зняволення яго даслалі за цэлы пакет дзяржаўных злачынстваў: пачынаючы ад стварэння сакрэтных «эскадронаў смерці» для забойстваў палітычных апанентаў і да прымусовай стэрылізацыі 200 тысяч жанчын-індзіянак. Фухіморы чамусьці лічыў, што для бюджэту Перу выхоўваць дзяцей індзейцаў занадта дорага. За падобныя фокусы на высокай пасадзе ў 2007 годзе спецыяльны судовы трыбунал асудзіў яго на 25 гадоў турмы.

Трэба сказаць, што той прысуд не выклікаў сярод перуанцаў пагалоўнага захаплення. Шмат хто ў Перу лічыць, што без жорсткіх паліцэйскіх захадаў Фухіморы немагчыма было нейтралізаваць партызанку камуністаў з групоўкі «Sendero Luminoso», якія напачатку 1990-х гадоў кантралявала да 10–15 працэнтаў тэрыторыі. Настальгуюць па часах Фухіморы і ў асяродку бізнесоўцаў. Яны ўзгадваюць рынкавыя рэформы, якія сталі пралогам перуанскага эканамічнага штуршка. Пры Фухіморы толькі за першы год яго адміністрацыі інфляцыя скарацілася са 139 да 7,65 працэнтаў, а ВУП тады стабільна штогод павялічваўся на 2,5 працэнты.

Не дзіўна, што хутка пасля прысуду Фухіморы ў перуанскай палітыцы з'явілася партыя аматараў прэзідэнта-вязня, якая ішла на выбары у тым ліку з патрабаваннем яго амністыі. З часам «Fuerza Popular» (FP) — так называецца тая структура — стала рэйтынгавай палітычнай сілай. У 2016-м лідар FP і дачка экс-гаранта Кейка Фухіморы прабілася ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў, дзе прайграла Кучынскаму з мінімальным адрывам, набраўшы 49 працэнтаў галасоў.

І вось 24 снежня, нечакана для ўсіх, дзеючы прэзідэнт падпісаў акт пра амністыю для Фухіморы. Як гаворыцца ў дакуменце, прэзідэнт карыстаўся пачуццямі гуманізму, паколькі, паводле афіцыйнага паведамлення, Фухіморы пакутуе на цяжкую хваробу. «Я перакананы, што тыя з нас, хто лічыць сябе дэмакратамі, не могуць дазволіць Альберта Фухіморы памерці ў турме. Справядлівасць — гэта не помста. Маё рашэнне асабліва складанае і цяжкае, але гэта маё рашэнне», — заявіў Кучынскі.

Праз нейкі час па тэлебачанні паказалі рэпартаж з амніставаным. На відэазапісе той ляжыць на бальнічным ложку і просіць прабачэння ва ўсіх, каго «падвёў». «Я разумею, што я падвёў іншых, тых, у каго я прашу прабачэння ад усяго сэрца», — заявіў Фухіморы.

Пра амністыю стала вядома ўдзень 24 снежня, калі ўсе рыхтаваліся сустракаць Божае Нараджэнне (Перу — зборшага каталіцкая краіна). Адразу пасля паведамлення пра амністыю святы імкліва набылі новы фармат: замест паходу на імшу вялікая колькасць людзей

**У лістападзе Зейд Раад аль-Хусэйн, Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека, падчас візіту ў Ліму заклікаў Кучынскага ўстрымацца ад амністыі. Кучынскі тады пагаджаўся, аднак перадумаў**

выйшла пратэставаць супраць указу Кучынскага. У адказ на пратэсты ўлады даслалі на вуліцы спецназ, што ператварыла Каляды ў сталіцы ў маштабныя беспарадкі.

Сярод пратэстоўцаў паўстала версія, што за гуманным учынкам Кучынскага хаваецца банальная палітычная здзелка. 21 снежня ў перуанскім Кангрэсе адбылося галасаванне па імпічменце Кучынскага, якога абвінавачваюць у карупцыі падчас знаходжання на пасадзе міністра фінансаў, і датычнасці да справы «Odebrecht». «Odebrecht» — бразільская кампанія, якая давала хабары лацінаамерыканскім палітыкам за выгадныя кантракты. Дзвюм кампаніям, звязаным з Кучынскім, «Odebrecht» з 2004 па 2012 год выплаціла 4,8 мільёна долараў.

Для запуску імпічменту трэба было сабраць 87 са 130 галасоў, але падтрымалі працэдуру толькі 79 дэпутатаў. Прэзідэнта, па сутнасці, выратавала пазіцыя часткі дэпутатаў «Fuerza Popular», якія нечакана галасавалі па гэтым пытанні «супраць».

Пра дзіўны характар амністыі сведчыць і тое, што ў лістападзе Зейд Раад аль-Хусэйн, Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека, падчас візіту ў Ліму заклікаў Кучынскага ўстрымацца ад амністыі для экс-прэзідэнта. «Фухіморы быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, якія ўяўляюць сабою парушэнне правоў чалавека, то бок злачынствы, якія вельмі важныя для думкі міжнароднай супольнасці», — казаў эмісар. Кучынскі тады пагаджаўся з госцем, аднак чамусьці на працягу месяца перадумаў.

Ёсць і іншая версія. Кучынскі выратаваўся ад імпічменту дзякуючы групе дэпутатаў пад кіраўніцтвам Кені Фухіморы — малодшага брата Кейка. Кені неаднаразова выступаў насуперак генеральнай лініі партыі. Магчыма, не пазбаўлены асабістых амбіцый малады палітык жадае «падседзець» родную сястру і стаць кандыдатам на пасаду прэзідэнта ад «Fuerza Popular».

У любым выпадку, вызваленне Фухіморы не забяспечыла рэжыму Кучынскага жаданай стабільнасці. Наадварот, хваляванні ў сталіцы ў наступныя дні перакінуліся на правінцыю. У дадатак ад прэзідэнта адвярнулася частка яго прыхільнікаў, якія лічаць памілаванне экс-прэзідэнта «дзяржаўнай здрадай» і «амністыяй для карупцыі». Асабліва раз'юшаныя тыя аднапартыйцы Кучынскага, чые бацькі або родныя былі забітыя сакрэтнымі спецслужбамі Фухіморы.

Ужо зараз відавочна, што амністыя Фухіморы як мінімум выкліча перагрупоўку на мясцовым палітычным полі. Дыскрэдытацыя Кучынскага нават у вачах свайго электарату і прыхільнікаў узмацняе пазіцыі Кейкі Фухіморы. Яе галоўным апанентам цяпер выступае, хутчэй, левая партыя «Шырокі фронт за справядлівасць, жыццё і свабоду», чый кандыдат у 2016-м атрымаў «бронзу». Аднак перш за ўсё трэба вярнуць палітычны працэс у нармальны рэжым. Пакуль хаос, выкліканы амністыяй, не спыняецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ільдар Гільмутдзінаў



Уведамстве кіраўніка камітэта па справах нацыянальнасцяў Дзярждумы РФ Ільдара Гільмутдзінава падрыхтаваны праект дакумента, які павінен кампенсаваць малым народам Расіі абавязковае вывучэнне тытульных моваў.

Такое рашэнне было прынята пасля нядаўняга моўнага скандалу ў Татарстане, дзе абавязковы прынцып вывучэння татарскай мовы змянілі на добраахвотны. У якасці кампенсацыі за адмову ад абавязковага вывучэння моваў у аўтаноміях апошнім абяцаная шырокая дзяржпадтрымка. На справе гэта будзе азначаць удасканаленне педагагічнай падрыхтоўкі настаўнікаў, бясплатную падрыхтоўку да ВНУ і іншыя льготы для абітурыентаў, якія абяруць кірунак «Мовазнаўства», стварэнне спецыялізаванага Цэнтра па метадычным суправаджэнні вывучэння моваў і нават Савета па этнакультурных адукацыі пры Міністэрстве адукацыі і навукі.

Самы цікавы пункт — распрацоўка спецыяльных праграм вывучэння моваў у гульнявой форме для выхаванцаў дзіцячых садкоў. Цяжка сказаць, ці задаволіць гэты план рэгіёны Расіі. На сёння шэраг рэгіёнаў працягвае настойваць на абавязковым вывучэнні школьнікамі мясцовых моваў.

### Гурбангулы Бердымухамедаў

Кіраўнік Туркменістана нечакана для ўсіх на самым высокім узроўні адсвяткаваў 11-ю гадавіну смерці свайго папярэдніка Сапармурата Ніязава, які таксама вядомы як Туркменбашы.

Ніязаў кіраваў Туркменістанам з 1985 года па 21 снежня 2006-га. Пасля яго смерці ўлада апынулася ў руках Бердымухамедава, які працаваў пры Ніязаве міністрам аховы здароўя і намеснікам старшыні ўрада. Адразу ж пачалася барацьба з культам Ніязава: былі ліквідаваныя або перанесеныя з цэнтраў гарадоў практычна ўсе яго помнікі, у тым ліку 83-метровая залатая статуя Туркменбашы. Былі зменены назвы населеных пунктаў, якія насілі раней імя Ніязава і чальцоў яго сям'і.

І вось нечаканы паварот. У дзень смерці першага кіраўніка Туркменістана 21 снежня Бердымухамедаў урачыста адкрыў музей Сапармурата Ніязава. У цырымоніі адкрыцця таксама прыняла ўдзел уся эліта краіны.

Што прымусіла Аркадага (па-туркменску «Абаронца» — мянушка Бердымухамедава) узгадаць добрым словам Ніязава? Адзіная больш-менш лагічная версія — Ніязаў кіраваў краінай у дастаткова заможныя гады, і цяпер на фоне крызісу сярод туркменаў паўстала настальгія па Туркменбашы, якую вырашыў эксплуатаваць Бердымухамедаў.

### Ангела Меркель



Выконваючая абавязкі канцлера Германіі (праз немагчымасць сфармаваць урад) ужо рыхтавалася ў чацвёрты раз узначаліць Кабмін, як літаральна днямі яе прэм'ерства аказалася пад пагрозай.

Яшчэ ўчора падавалася, што кааліцыйны ўрад у Германіі вось-вось паўстане: пасля таго, як у Партыі сацыял-дэмакратаў Германіі (SPD) пагадзіліся на блок з хрысціянскімі дэмакратамі. Аднак, аказваецца, шмат шараговых сацыял-дэмакратаў не ў захапленні ад магчымага саюзу з партыяй Меркель. І больш таго, на партыйным сходзе сацыял-дэмакратаў 21 студзеня такіх дэпутатаў можа быць больш, чым прыхільнікаў кааліцыйнага ўраду.

Адпаведна, па выніках сходу задуманая кааліцыя будзе тарпедаваная. Цяпер адзіная надзея Меркель на тое, што лідары SPD пераканаюць партыйны базіс галасаваць як трэба. Інакш у ФРГ упершыню ў гісторыі праз няздольнасць сфармаваць урад давядзецца праводзіць датэрміновыя выбары.

Прычым, не выключана, што на наступныя выбары кансерватары пойдуць ужо без самой Меркель, імідж якой за апошні час вельмі моцна пагоршыўся.

Застаецца дадаць, што 7 студзеня павінен пачацца першы раўнд міжпартыйных перамоў наконт кааліцыі. Іх вынікі і будуць прадстаўленыя на суд удзельнікам сходу SPD.



# Чалавек Частка III Запавет

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Алесь КІРКЕВІЧ

**У папярэдніх дзвюх частках мы разважалі пра тое, як чалавек змяняе свет навокал сябе. Пасля — пра тое, як сам чалавек змяняецца ў гэтых акалічнасцях. Апошняя частка прысвечаная няўдзячнай тэме прагнозаў. Якая будучыня нас чакае? Сусвет паводле братоў Стругацкіх? «Бязглузды Макс»?.. Чытайце, спрачайцеся, думайце.**

Прадказанне будучыні — справа складаная і няўдзячная. Чаму? Бо будучыня — гэта хаос. Хаос магчымасцяў. Пры гэтым людзі вельмі суб'ектыўныя ў прагназаванні будучыні. Возьмем, для прыкладу, нейкі катастрафічны тайфун ці буру. Постфактум вучоныя могуць па пунктах патлумачыць, чаму скλаліся менавіта такія кліматычныя ўмовы, але задоўга прадказаць гэта яны не ў стане: фактараў занадта шмат.

Тое ж і ў гісторыі. Інтэлектуалы, зазвычай, хапаюцца за актуальны і цікавы сёння трэнд і спрабуюць з гэтага выбудаваць найважнейшыя тэндэнцыі будучыні. Напрыклад, калі пачалася атамная эра — з'явілася першая бомба, атамныя станцыі, — на хвалі эйфарыі з'явілася багата прагнозаў, маўляў, у 2000 годзе ледзьве не ў кожнай хаце запрацуе невялікі атамны рухавік, які будзе награваць ваду, а жанчыны на атамных патэльнях здолеюць пасмажыць зранку яешню. Калі пачалася касмічная эра, лічылася, што ў наш час людзі ўжо будуць жыць у калоніях на Месяцы ды нараджаць дзетак на Марсе... Суб'ектывізм часу і модных трэндаў, так бы мовіць.

Такія суб'ектыўныя тэндэнцыі заўжды псуюць аб'ектыўную канцэпцыю будучыні. Адзінае, што можна сказаць больш-менш дакладна: праз 10 гадоў змены будуць яшчэ не кардынальныя, а вось праз 50 — свет, найхутчэй, наогул стане непазнавальным. Чаму так? Бо змены накопліваюцца вельмі марудна, але ў пэўны момант колькасць пераходзіць у якасць і — хлоп! — усё зусім іншае.

## Пацук з зубамі акулы на спіне

Возьмем чалавека. Тое, што ўчора было навуковай фантастыкай, — гэта ўжо заўтрашні дзень навукі і сённяшні дзень перспектыўных даследчыцкіх распрацовак. Агулам лічыцца, што тая эвалюцыя чалавека, пра якую мы казалі ў папярэдніх частках, можа рухацца ў трох накірунках: біяінжынерыя, кіберпратэзаванне ды неарганічны розум.

Самым паказальным прыкладам для разумення біяінжынерыі можа быць фотаздымак, які ўжо даўно вандруе па сеціве: пацук з вухам, якое навукоўцы вырасцілі на ягонай спіне з храстку. З такім жа поспехам у пацука на спіне маглі нарасціць зубы акулы ці што-заўгодна іншае. Як так? З дапамогай зменаў у ДНК ужо магчыма вельмі многае. Зараз мы ідзем да таго, што медыцына і біяінжынерыя дазваляюць чалавеку рухацца з вялікай хуткасцю калі не ў бок несмяротнасці, то ў кірунку сур'ёзнага падаўжэння жыцця за кошт узаемазамяняльнасці сваіх частак.

Напрыклад, перспектывай бліжэйшых гадоў ужо называюць зубы, якія будуць вырошчвацца ў роце самога чалавека. Простай мовай, пацыенту будзе ставіцца зародак зуба ў дзясну, які цягам года вырасце да паўнавартасных памераў. Гэта будзе ўжо не металапластыка ці золата (жудаснае сярэднявечча!), а цалкам жывы індывідуальны зуб канкрэтнага чалавека, выгадаваны фактычна яго ж арганізмам — як хвост у яшчаркі, толькі з невялічкім умяшаннем звонку.

## Малпа і банан на іншым канцы свету

Другі шлях — кіберпратэзаванне. Сёння навука ў гэтай галіне зайшла даволі далёка: людзі ведаюць, як нейроны мозга працуюць за кошт электронных імпульсаў. Чалавеку можна праз электроніку далучыць да мозгу розныя прылады, а ён здолее імі кіраваць. Самы яскравы прыклад — гэта пратэзы рук, якімі чалавек кіруе не з дапамогай цягліц і нервовых канчаткаў той часткі рукі, якая засталася, а непасрэдна з мозгу.

А пачыналася ўсё з малпачкі, якой да мозгу падключалі электроды, і яна на адлегласці дзясятка метраў магла браць з дапамогай штучнай рукі бананы ці якую іншую смакату. Самае цікавае, што няма розніцы, дзе знаходзіцца гэта штучная рука ды банан — за дзясятак метраў ці на іншым баку Зямлі. Розніца адно ў тым, што банан за дзясяткі тысяч кіламетраў гэта электронная рука пакуль яшчэ не можа пакласці малпачцы ў рот. Магчыма, гэта і ёсць рэалізацыя даўнішніх фантазіяў пра сілу думкі.

**На пэўным этапе нарошчванне тэхналагічных магчымасцяў пайшло не ў бок прагрэсу для ўсяго чалавецтва, а ў бок віртуальнасці. Усе працэсы і каштоўнасці, якія замацаваліся за апошнія 200 гадоў — роўнасць, свабода, правы чалавека, правы нацыяў, — пераўтвараюцца ў карцінку**

## Чалавек, які жыў у кампутары

Трэці шлях — неарганічны розум (не блытаць са штучным розумам!). Тут пытанне стаіць у тым, ці можна нашы альбо вашы, дарагі чытач, мазгі перакачаць у кампутар. Чытаючы «Поўдзень, XXII стагоддзе» братоў Стругацкіх, акрамя палётаў па галактыцы, сутыкнення з іншапланетным розумам і іншага, вашу ўвагу мог прыцягнуць і наступны сюжэт: недзе ў Сібіры збудаваная лабараторыя са сховішчамі памяці — серверамі — і туды з выкарыстаннем велізарнай колькасці энергіі перакачваюць свядомасць аднаго прафесара — самага разумнага чалавека на Зямлі. Так, паводле Стругацкіх, меўся з'явіцца першы чалавек, які б жыў... у кампутары. Сёння мы імкліва набліжаемся да таго, пра што Стругацкія марылі 50 гадоў таму, альбо — яно набліжаецца да нас.

Мазгі чалавека зараз у прынцыпе няблага вывучаныя. Аб'ём памяці апынуўся не такім і вялікім: сённяшнія тэхналогіі маюць значна большы. Але праблема ў велізарнай колькасці сувязяў паміж нейронамі, таму ніводная сучасная тэхналогія пакуль паўтарыць гэта не можа. Гэта жывыя тканкі — не жалеза ці пластык. Тут жа ўплятаецца ўжо класічная тэма з душой: а раптам яна ўсё ж такі ёсць, таму намаганні навукоўцаў паўтарыць свядомасць чалавека — апрыёры марныя?

Гэтыя тры шляхі развіваюцца і эвалюцыянуюць настолькі хутка, што маюць усе шансы стаць нашым заўтрашнім днём. Так чалавек сам зможа займацца мадэляваннем заўтрашняга сябе, то бок сам стане Праметэем, роўным багам. Адзінае пытанне, якое паўстае, ці будзе гэтая істота — з электроннай рукой, нарошчаным зубам, перакачаным на сервер розумам — надалей чалавекам?..

## Віртуальнае грамадства

А што будзе адбывацца з грамадствам у гэтай сітуацыі? Тут ёсць вельмі шмат розных думак. У 1970–1980-я гады былі папулярнымі мадэрнісцкія канцэпцыі, пасля постмадэрнісцкія, канцэпцыя глабалізацыі, на мяжы 1980–1990-х — канцэпцыя інфармацыйнага грамадства... Апошняя цесна звязаная з канцэпцыяй Фрэнсіса Фукуямы пра канец гісторыі. Пабочнікам канцэпцыі інфармацыйнага грамадства быў, дарэчы, Збігнеў Бжэзінскі.

Пра што казаў Фукуяма? Грамадства падымаецца да пэўнага ўзроўню вытворчых магчымасцяў, у выніку чаго знікае патрэба ў канфліктах: усё стае аднастайным і стабільным. У інфармацыйным грамадстве акцэнт рабіўся на тое, што дамінуе той, хто валодае інфармацыяй, а зусім не арміямі ці рэсурсамі. Адсюль выводзілася вядучая роля ўніверсітэтаў у будучыні, якія нібыта павінны замяніць транснацыянальныя карпарацыі, робячыся цэнтрамі прыцягнення, — усё гэта цалкам сур'ёзна абмяркоўвалася... Вонкава здаецца, што грамадства ідзе ў гэтым кірунку, але інфармацыйнага грамадства, якім яго прадказвалі 20–25 гадоў таму, не адбылося. Чаму?

Ёсць нечым блізкая да папярэдняй, але ўсё ж такі іншая канцэпцыя, якая сёння падаецца даволі актуальнай — віртуальнае грамадства. Асноўная думка — кожны з нас носіць у кішэні больш інфармацыі і вылічальных магчымасцяў за тыя, што мелі амерыканцы, запускаючы чалавека на Месяц. Але для чаго чалавек выкарыстоўвае гэтыя магчымасці, схаваныя ў айфоне? Каб гуляцца ў гульні, рабіць сэлфі, фоткаць коцікаў і г.д. Сэнс у тым, што на пэўным этапе ўсё нарошчванне тэхналагічных магчымасцяў пайшло не ў бок так званага «прагрэсу» для ўсяго чалавецтва, а ў бок віртуальнасці — стварэння карцінкі, вобраза.

На што ідзе ўпор? На графіку, візуалізацыю, карцінку на экране, якая зусім хутка, магчыма, стане аб'ёмнай. Размова пра тое, што ўсе працэсы і каштоўнасці, якія замацаваліся за апошнія 200 гадоў — роўнасць, свабода, правы чалавека, правы нацыяў, — пераўтвараюцца ў вобраз, карцінку. Напрыклад, калі рэкламуецца тавар, важныя ўжо не яго якасці, але вобраз, узмоцнены прыгожай фігурай мадэлі, колерамі, спецэфектамі і г.д. Знешні фактар абсалютызаваны, сутнасць застаецца за кадрам.

## «Матрыца», анлайн-гульні ды «ралтоны»

Гэтая сітуацыя па сутнасці адбіваецца на ўсім грамадстве, у любой сферы. Палітыка з дэмакратычнай пераўтварылася ва ўсім свеце пераўтварылася ў хімеру. Што такое выбары сёння? Рэкламная кампанія, піяр, мадэлі і спецэфекты — як у рэкламе новага аўто ці бургера. Слабейшы кандыдат з грашыма і добрым піяршчыкам пераможа мацнейшага, які занядбаў візуальную частку кампаніі. Справа ўжо не ў тым, каб усіх «купіць» ці «запужаць», а каб стварыць прадукт, які выбаршчык хацеласа б набыць, як ёгурт у супермаркеце.

Вучоныя па-рознаму глядзяць на віртуальнасць. Інтэлектуалы левага кшталту, посткамуністы, кажуць пра віртуальнасць як пра новую форму эксплуатацыі. Маўляў, той хто валодае рэсурсамі, стварае віртуальныя імперыі, крадзе час, грошы і жыццё ў тых, хто гэтым прадуктам карыстаецца. Хай гэта будуць анлайн-гульні, анлайн-казіно, анлайн-закупкі, анлайн-порна... Ёсць і больш шырокі погляд: віртуальнасць —

гэта аб'ектыўная постмадэрная змена ўсяго грамадства, па-іншаму і быць не магло.

Калі паспрабаваць скласці наш пазл у цэльную карціну — бяднеючы ў плане рэсурсаў навакольны свет, чалавек, якія аддаляецца ад сваёй біялагічнай сутнасці, грамадства, якое імкліва ідзе ў бок «карцінкі» насуперак рэальнасці, — мы ўбачым няўмольны надыход свету ў стылі «Матрыцы». Чаму «Матрыца»? Бо ейны свет — гэта чалавек, адчужаны ад навакольнага асяроддзя, ад сябе, заглыблены ў створанай некім сістэме, арыенцыры ў якой далёкія ад рэальнасці і традыцыйных паняткаў натуральнасці. Інтэрнэт-юзер, які суткамі гуляе ў «Варкрафт» у рэжыме анлайн, паядаючы «ралтоны», — яскравая таму ілюстрацыя.

### «Шалёны Макс» і новае сярэднявечча

Як гэта будзе? Ніхто не ведае. Бо любы сур'ёзны глабальны канфлікт, эвалюцыйны збой ці прыродная катастрофа могуць вельмі сур'ёзна адкінуць грамадства калі не ў першабытны стан, то ў Х ці ХІІІ стагоддзе. Войны, эпідэміі, імклівае скарачэнне рэсурсаў — усё гэта можа стаць падставай для рэалізацыі фантазіяў у стылі «Шалёнага Макса» — антыўтопіі наадварот, калі антысістэма перамагла сістэму.

Ёсць даволі цікавая навукова-папулярная стужка пад назвай «Зямля 2100», створаная каналам «Discovery». Расповед вядзецца ад імя дзяўчынкі, якая нарадзілася ў Лас-Вегасе, жыла сабе з бацькамі, але ў адзін цудоўны дзень скончылася вада, пасля — бензін. Потым яна з бацькам едзе ў Нью-Ёрк, назіраючы, як краіна занураецца ў хаос. Пасля ў Нью-Ёрку разам з мужам яны будуюць пляцоўку ад вады, якая імкліва падымаецца разам з узроўнем акіяну. А вада паднялася — і ўсё змыла, а тых, хто выжыў, накрыла эпідэмія...

Заканчваецца ўсё тым, што дзяўчына жыве ў маленькай калоніі разам з дзецьмі, а ўсё грамадства пераўвасобілася ў набор умацаваных паселішчаў, якія змагаюцца за выжыванне. Фактычна, гэта і ёсць карціна новага сярэднявечча, поўнай перазагрузкі сістэмы грамадскіх адносінаў і каштоўнасцяў.

### XXI стагоддзе — бяднейшае, халаднейшае і самотнае

Традыцыйна прагрэсіўныя розумы шукаюць паратунак у тым, каб чалавецтва разбеглася па навакольных планетах. Нехта сур'ёзна яшчэ думае пра гэта? Так, думае. Напрыклад, Стывен Хокінг альбо Ілан Маск, які бясконца запускае свае ракеты. У апошняга гэта няблага атрымліваецца: ужо створаная ракета, якая робіць у 10 разоў таннейшым вывад грузаў на арбіту. Такія моманты, згадзіцеся, адкрываюць пэўныя перспектывы для чалавецтва. Іншая рэч, што мы выдаткоўваем на гэта ўсяго толькі мізэрную частку сваіх рэсурсаў.

У ХХ стагоддзі ўсё было па-іншаму. Чаму? Тады ўвесь усплёск касмічных даследаванняў быў звязаны з вайсковай гонкай паміж СССР і ЗША, якая пасля эвалюцыянавала ў спаборніцтва грамадскіх сістэмаў. Саюз у гэтай сітуацыі быў прырэчаны, перамагчы ніякіх шансаў не было, але барацьба была справай прынцыпу. Пры ўсіх акалічнасцях, гэта быў час глабальных праектаў, калі людзі яшчэ сачылі за навуковымі прарывамі, а не абноўкамі айфонаў.


Аркадзь і Барыс Стругацкія

Калісьці ў Барыса Стругацкага, які перажыў брата на 20 гадоў, спыталіся, якім ён бачыць свет будучыні? «Магу сказаць адно, — адказаў Стругацкі, — ХХІ стагоддзе будзе бяднейшым, халаднейшым, а людзі там будуць адчуваць сябе больш самотнымі». І гэта ўсё нягледзячы на вонкавую бачнасць глабальнага прагрэсу — памёр Барыс зусім нядаўна, у 2012 годзе. Відаць, ніякага аптымізму ў стваральніка савецкай касмічнай казкі не было.

### А што з рэштай свету?

Ёсць яшчэ адзін цікавы момант. Мы кажам пра ўвесь гэты кібер-панк і матрыцу, але якую частку зямлян гэта закранае сёння і закране ў будучыні? Не забывайма, што чалавецтва падзеленае не толькі на класы, але і рэгіянальна: ёсць бізнэс-цэнтр Лондана ці Нью-Ёрка, а ёсць бедныя кварталы Дэлі альбо вёскі ў Самалі. Ну якая там матрыца?..

Наўрад ці ёсць нейкі адзіны адказ — гэта ўжо сфера ўзаемаадносінаў унутры грамадстваў, свет элітаў. Напрыклад, кітайская эліта мае не меншы, а мо і большы доступ да розных тэхнічных магчымасцяў, чым тая ж эліта Германіі: узгадаем Ангелу Меркель, якая жыве на 2-м паверсе шматкватэрнага дому, як звычайная немка сярэдняга класу... Ёсць саўдыйская эліта, ёсць калумбійская, ёсць паўночнакарэйская: маючы ўладу і грошы, ты можаш атачыць сябе тэхналогіямі, якія не саступаюць заходнім, нарасціць новае вока, зуб, перасадзіць сэрца — няма розніцы, дзе ты знаходзішся геаграфічна.

Ёсць рэчы, якія за апошнія 50 гадоў сталі адназначна больш дасяжнымі для людзей па ўсім свеце: ежа, пітная вада, прышчэпкі ад розных захворванняў. Але і тут ёсць нюансы. Напрыклад, пра вірус Эбола казалі, што ён ужо не даваным у асобна ўзятай краіне», чытай, рэгіёне. Так ужо было ў гісторыі: і з Грэцыяй, і з Рымам. Прыкладам, Заходні свет сутыкнецца з сістэмным крызісам, усё заваліцца, але рэшта планеты не знікне, а наўпрост працягне жыць па сваіх правілах. Хто ведае, магчыма, так скончыцца «глабальны свет», які апынецца ілюзіяй, а людзі наўпрост разбягуцца па сваіх кутах...

Свет аграмадны. Падаецца, што за апошнія пару дзесяцігоддзяў мы яго звузілі і ўніфікавалі да стандартаў фастфуду, дэмакратыі, знешніх характарыстык галівудскіх мадэляў, якія падаюцца эталонамі прыгажосці. Так нам уяўляўся канец гісторыі. Сёння мы бачым, што ёсць і кітайская мадэль, якая робіць стаўку на экспансію праз эканоміку, і таямнічая радыкальна-мусульманская, якая прасоўваецца дзякуючы яскравай ідэалогіі і ўсплёскам гвалту. У такой сітуацыі няма аніякіх гарантыяў, што заходняя мадэль па ўсім свеце не тое дзіця можна было набыць за пару мільярдаў долараў. У Расіі вырашылі, што ўсё гэта амаральна, і варта жыць як раней. Несмяротнасць — ад д'ябла. Так і жылі колькі дзесяцігоддзяў, пакуль народ не зразумеў, што прэзідэнт і ўрад чамусьці не старэюць... Так пачалася вайна, хаос — і ўсё на гэтым.

Відавочна, што як толькі ў кагосьці з'явіцца рэальная магчымасць стаць несмяротным — а гэта будзе нехта, у каго будзе шмат грошаў і ўлады, — свет адразу стане непазнавальным. Ва ўмовах грамадства з біятэхналогіямі і адначасна віртуальнасцю ды адчужанасцю чалавека ад самога сябе, можа вымалевацца такая карціна: адны будуць граць у кібер-гульні і харчавацца «ралтонамі», іншыя (а іх значна менш) займеюць усё. У пэўны момант чалавецтва дасягне кропкі, калі адным будзе нявыгадна ўсё змяняць, а іншыя ўжо нічога не змогуць зрабіць.

**У кнізе «Поўдзень, XXII стагоддзе» братоў Стругацкіх апісаная лабараторыя, збудаваная недзе ў Сібіры, са сховішчамі памяці, куды перакачваюць свядомасць аднаго геніяльнага прафесара. А сёння мы імкліва набліжаемся да таго, пра што Стругацкія марылі 50 гадоў таму**

ўяўляе глабальнай небяспекі, заразіцца ім цяжка, фактычна, хвароба існуе недзе далёка ў трапічных лясах. Але толькі падчас апошняй эпідэміі ў Заходняй Афрыцы загінулі дзясяткі тысяч чалавек. А пасля, што самае цікавае, эпідэмію не згасілі — яна сышла сама па сабе: таямніча з'явілася, таямніча знікла. Вось вам і чарговая аплявуха чалавеку, які лічыць, што здольны кантраляваць усё і ўся.

### Канец свету «ў асобна ўзятай краіне»

Мы звыкліся разважаць пра канец свету як пра аб'ектыўную рэальнасць для ўсяго чалавецтва: для ўсіх альбо ні для каго. Але ці можа быць па-іншаму? Падаецца, што ўяўны «канец свету» можа, як і сацыялізм, быць «збу- што пераможа, а захаваецца наогул. Такім чынам, варыятыўнасць будучыні захоўваецца, а нас можа чакаць яшчэ багата цікавостак.

### Смерць — адзіная роўнасць для ўсіх

Напрыканцы апошняй з трох публікацыяў варта было б сказаць нешта пазітыўнае, магчыма, нават выкрыцць нейкую мараль. У Дзмітрыя Глухоўскага, стваральніка бестселера «Метро 2033», ёсць раман «Будучыня», дзе ідзецца аб тым, што людзі адкрылі таямніцу несмяротнасці. Усе часткі свету пайшлі па сваім шляху: у Еўропе несмяротнымі сталі ўсе, але мець дзяцей было ўжо забаронена: калі дзіцё нараджалася, бацька мусіў выбраць, хто застанецца жыць, — ён ці малы. У ЗША ўсе таксама сталі несмяротнымі, а права на

У назвах папярэдніх артыкулаў серыі мы выкарысталі старажытнагрэчаскія аналогіі — Праметэй, Пандора — а тут раптам узялі біблейны паняткак: Запавет. Чаму? Бо свет старажытнагрэчаскіх міфаў пазбаўлены ўцямнага паняцця канца ўсяго, смерці, усё закальцавана і паўтараецца безліч разоў. Тым часам у біблейным разуменні канечнасць яскрава акрэсленая: усё рана ці позна скончыцца. Біблія, па вялікім рахунку, гэта пра роўнасць усіх і пра адзіную мяжу, да якой падыдзе кожны, — наш свет у тым ліку. Адсюль і паняцце маралі ды пэўных правілаў, парушаючы якія ты гэты самы канец набліжаеш: заклікаеш «датэрміновы» Армагедон.

Нам падаецца, што чалавек усё ж такі не павінен спрабаваць стаць «роўным багам», ёсць рэчы, праз якія нельга пераступаць. Адна з такіх рэчаў — смерць, хоць менавіта з ёй чалавек змагаецца на працягу ўсёй гісторыі... Бо смерць — гэта адзіная роўнасць для ўсіх. На гэтай роўнасці трымаецца чалавецтва. Асэнсаванне сваёй смяротнасці, як ні парадаксальна, дае шанец на тое, што людзі будуць спрабаваць нешта змяніць і знойдуць сцяжынку, дзякуючы якой чалавецтва выкараскаецца, прынамсі, з галоўных сваіх бедаў ды зможа зрабіць свет навокал хоць трошачку лепшым.





# Сусветны рэйтынг фільмаў 2017 года

## Тузін лепшых і тры найгоршых

Андрэй РАСІНСКІ

**Згодна з падлікамі найбуйнейшага кінапартала imdb.com, у 2017 годзе пабачылі свет болей за 234 тысячы стужак. Якія з гэтых карцін найлепшыя, а якія найгоршыя?**

Якія лепшыя фільмы ўжо выйшлі на беларускія экраны, а якія яшчэ толькі чакаюцца? Якія кінатворы захапілі, а якія абурылі публіку?

Возьмем толькі гульнявыя фільмы, за якія на сайце IMDB прагаласавалі не меней за 1000 гледачоў. Іх ацэнкі мусяць быць альбо самыя высокія (ад 8 да 10 балаў), альбо самыя нізкія (меней за 2 балы). Высокарэйтынгавых фільмаў у 2017 годзе набярэцца ажно 44, затое кепскіх — толькі 3.

Пачнём з найлепшых стужак. Вось тузін самых папулярных.

12 месца. **«Падынгтан 2»** — мілая дзіцячая стужка пра добра выхаванае медзведзяня, у беларускі пракат яшчэ не трапляла. Затое першыя прыгоды гэтага брытанскага джэнтльмена, знятыя ў 2014 годзе, — у кінатэатрах былі, і нават у беларускай агучцы. У мінскім кінапракаце працяг гісторыі, што палюбілася гледачам, можна будзе пабачыць з 18 студзеня.

11 месца. Коміксавы **«Логан»**, таксама вядомы як Расамаха, распавядае гісторыю аднаго з фантастычных людзей-Х, адораных надзвычайнымі здольнасцямі. Карціна дэманстравалася ў Мінску ў сакавіку і заслужыла добрыя адзнакі і ад беларускіх гледачоў (калі меркаваць па сайце Kinopark.by).

10 месца. **«Бягун па лязу брытвы 2049»**. Паўторная экранізацыя фантастычнага рамана Філіпа Дзіка «Ці сняцца андроідам электраавечкі». Стужка Дэні Вільнева з Раянам Гослінгам у галоўнай ролі, як і папярэдняя карціна 1982 года, прытрымліваецца змрочна-нуарнай стылістыкі. Яе беларускія ацэнкі таксама высокія, але фільм Рыдлі Скота 1982 года застаецца старой, добрай і непераўзыдзенай класікай.

**Стужку, якая ачоліла спіс самых кепскіх, беларусам прапаноўвалі. Фільм «Крым» мае рэйтынг 1.1. Гэта адна з самых нізкіх адзнак на IMDB**

9 месца. Італьянская меладрама Лукі Гваданьіні **«Клич мяне сваім іменем»** была запланаваная ў мінскім пракаце на снежань, але выглядае, што прэм'еры не адбылося. Стужка — драма пра 17-гадовага юнака, які закахаўся ва ўніверсітэцкага калегу свайго бацькі. Фільм мае 85 намінацый на кінапрэміі і атрымаў 31 узнагароду.

8 месца. Крымінальная драма Марціна МакДонаха **«Тры білборды на мяжы з Эбінгам, Місуры»** ў планах мінскага пракату — прынамсі да лютага — не пазначаная. Гэта таксама тытулаваная стужка (36 узнагарод і 110 намінацый). Маці, намаляваўшы тры білборды, кідае выклік мясцовым уладам, якія ніяк не могуць адшукаць забойцу яе дачкі. Рэжысёр Марцін МакДонах слынны сваім чорным гумарам і нечаканай драматургіяй, ягоны фільм «Залегчы на дно ў Бруге» беларускія гледачы бачылі.

7 месца належыць камедыйнай драме **«Ледзі Птушка»**, зрэжысаванай Грэтай Гервіг. Амерыканская гісторыя пра цяжкасці сталення атрымала 48 узнагарод і мае 97 намінацый. У пракаце адсутнічае.

6 месца. Амерыканская меладрама **«Цуд»** пра хлопчыка з дэфармаваным тварам, які заслугоўвае прызнанне і любоў сваіх аднакласнікаў, таксама ў пракатных планах не пазначаная. Ролю маці хлопчыка выконвае Джулія Робертс, фільм паставіў Стэфан Чбоўскі. Стужка займае 6 месца ў спісе самых высокарэйтынгавых карцінаў.

На 5 месцы — музычныя анімацыйныя прыгоды **«Како»** (у мінскім пракаце — «Тайны Како»). Хлопчык марыць стаць музыкам, але ягоная сям'я катэгарычна супраць. Тады герою дапамагае дзядуля. Памерлы.

4 месца. У **«Дзюнкерка»** Крыстафера Нолана зусім іншыя стасункі са смерцю. Маштабная карціна пра эвакуацыю саюзнікаў падчас Другой сусветнай вайны засяроджваецца на пераплеценых гісторыях асобных людзей, калі ў кожнага свой час, свой боль — але адна агульная справа. Карціна была ў пракаце. 4 месца паводле папулярнасці.

3 месца ў стужкі **«Тор: Рагнарок»** — гэта коміксавыя прыгоды, дзе змешваецца скандынаўскі эпас, кампутарныя кінатэхналогіі і супергероі. Фільм Тайкі Вайціці, што быў у пракаце, — добрае відовішча для падлеткаў.

2 месца. Стужку **«Формула вады»** Гільерма дэль Тора з нецярпеннем чакаюць кінаманы. 60-гады мінулага стагоддзя. Разгар халоднай вайны. Гераіня закахалася ў чалавека-амфібію, якога трымаюць у сакрэтнай лабараторыі... Гільерма дэль Тора запрашае ў чароўны і фантастычны свет.

1 месца пакуль займае фільм, які мы не пабачым. Гэта біяграфічная драма Джэймса Франка **«Мастак-катастрофа»** (The Disaster Artist). Затое ў спіну «катастрофе» прадказальна дыхаюць **«Зорныя войны: апошнія джэдаі»**. Яны маюць рэйтынг 7.7 — і ў агульны спіс не трапілі. На сёння — гэта ўжо самая папулярная стужка 2017 года.

Калі самыя лепшыя карціны — пра людзей, іхнія стасункі, эмоцыі і прыгоды, дык кепскія карціны — гэта нуда і непрыхаваная прапаганда.

Адна з сама горшых стужак — пра дзейснага прэзідэнта. Фільм **«Рэйс»** прысвечаны кіраўніку Турцыі Рэджэпу Таіпу Эрдагану, ягонаму дзяцінству, ягонай барацьбе і кар'еры. Карціна мае рэйтынг 1.8 бала.

Другі кепскі фільм — таксама з Турцыі. Гэта камедыя **«Кубалі Кэбэр»**. Яе мы не пабачым.

А вось стужку, якая ачоліла спіс найгоршых, беларусам прапаноўвалі. Фільм **«Крым»** пра ўкраінскія падзеі 2014 года — як іх разумее расійскі тэлевізійнік і былы вайсковец Аляксей Піманаў — мае рэйтынг 1.1. Гэта адна з самых нізкіх адзнак на сайце. З усіх благіх стужак, якія ацанілі не менш за 1 000 чалавек, горшыя паказчыкі толькі ў двух дакументальных фільмаў пра спевака Джасціна Бібера.

На сайце IMDB няма размеркавання, як галасавалі за карціны жыхары тых ці іншых краін, але бачна, што стужкам — сваім і чужым — актыўна выстаўлялі ацэнкі амерыканцы. Зрэшты, на расійскіх кінапарталах з фільмам «Крым» таксама бяда.

Паказальна, што ў першапачатковы спіс высокарэйтынгавых стужак трапілі ўкраінскія **«Кібаргі»** (на сайце маюць 9.7 бала; фільм — пра вайну ў Данбасе). Але «Кібаргі» прайгралі іншым карцінам у папулярнасці. Беларускі пракат фільм абмінуў.

Новы Час
падпісны індэкс
63279
Падпішыся сам
і падпішы бацькоў!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1242

Падпісана да друку 29.10.2017. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.